



ПРАВІНЦЫЯ

# РАГАЧОЎ

ФОТАРЭПАРТАЖ Віктара ДРАЧОВА.





Там, дзе ціхаплынная Друць абдымаецца з сівым Дняпром, на шырокіх пагорках, раскінуўся Рагачоў — адзін з райцэнтраў Гомельшчыны. Зараз дакладна ніхто не скажа, чаму такую назву далі гораду. Кажуць, некалі тут жылі вясёлыя жыццярадасныя людзі, якія любілі жарт, смех, вобразнае і дакладнае слоўца. А вось асобныя старонкі з гісторыі Рагачова дайшлі да нас дакладна. З 1142 года ідзе яго летазлічэнне. Уваходзіў ён тады ў Чар-








нігаўскае княства. Часта пераходзіў ад адных уладальнікаў да другіх.

З экспанатаў мясцовага музея вядома, што ўжо ў 1643 годзе ў Рагачове працавалі прыходскае і дваранскае вучылішчы, бальніца на 10 ложкаў. На 3244 жыхары прыходзілася 10 настаўнікаў і 50 чыноўнікаў. У гэты час тут было 298 драўляных дамоў і адзін цагляны. Не заклапочаны былі гараджане, як мне здаецца, пошукам тавараў, бо існавала 25 гандлёвых лавак, а таксама 35 кропак, дзе можна было правесці час, скажам, за куфлем піва.

Знаходзячыся на скрыжаванні важных шасэйных дарог і маючы зручныя чыгуначныя і водныя зносіны, Рагачоў меў магчымасць актыўна развіваць прамысловасць, гандляваць сваёй прадукцыяй. У ім дзейнічала 55 саматужных майстэрань, лесапільны завод, кардаважная фабрыка. І што самае цікавае — горад меў свой тэатр.

Вятры ліхалецця грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў не абмінулі і гэты казачны куток Палесся. Горад быў амаль цалкам разбураны, жыхарам даводзілася хавацца ад чужынцаў у навакольных лясах, дзе дыслацыраваліся дзесяткі партызанскіх атрадаў. Аб баявых дзеяннях народных мсціўцаў, аб іх подзвігах у імя Айчыны тут памятаюць і ўшаноўваюць памяць сваіх герояў.

Нядаўна ў Рагачове нарадзіўся 37-тысячны жыхар. Гораду становіцца цеснавата ў цэнтры, таму на высокіх кручах Дняпра растуць новыя мікрараёны, навасёламі якіх становяцца ў асноўным працаўнікі буйных прадпрыемстваў.

Рагачоў па праву называюць маладзёжным горадам — тут працуе шэсць сярэдніх школ, педагагічнае і два прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, якія рыхтуюць кадры не толькі для Гомельшчыны, але і для рэспублікі.

Пяшчотныя хвалі Дняпра і Друці, хараство навакольных дуброў прыцягвалі сюды на адпачынак сотні людзей з Гомеля, Жлобіна, Бабруйска, Мінска. Праўда, у апошнія гады прыкметна пусцеюць мясцовыя пляжы. Чорная чарнобыльская хмара закранула сваім крылом і гэты раён. Часта напамінаюць аб сабе і суседзі — Магілёўскі завод штучнага валакна і аб'яднанне «Хімвалакно», скідваючы ў Дняпро шкодныя вытворчыя нечыстоты, якія даходзяць да рагачоўскіх берагоў.

Экалагічныя праблемы, пустыя паліцы магазінаў, бясконцыя чэргі за таварамі першай неабходнасці — усё гэта выклікае пратэст грамадскасці.

Як і па ўсёй рэспубліцы, тут таксама раздаюцца смелыя галасы за адраджэнне нацыянальнай свядомасці, беларускай культуры і мовы. Дзякуючы намаганням актывістаў рэстаўрыравана старая драўляная царква, у якой правіць службу васьмідзесяцігадовы айцец Павел.

А вось сродкаў для аднаўлення касцёла, які «красуецца» пры ўездзе ў горад, пакуль не знайшлося. Не хапае іх і на будаўніцтва школы мастацтваў. Таму 470 яе навучэнцаў разам з выкладчыкамі туляцца ў паўразбураным будынку былой паліклінікі.

Праблемы тут, як і паўсюдна ў краіне, на кожным кроку. І тым не менш Рагачоў у будучыню глядзіць аптымістычна.

**Б. ЗАЛУЖНЫ.**

Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.









# МІЖНАРОДНЫ ПАКТ АБ ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ

**ПРЫНЯТЫ І АДКРЫТЫ ДЛЯ ПАДПІСАННЯ, РАТЫФІКАЦЫІ І ДАЛУЧЭННЯ РЭЗАЛЮЦЫЯЙ 2200 A(XXI) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ АД 16 СНЕЖНЯ 1966 ГОДА**

УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ: 23 сакавіка 1976 года ў адпаведнасці з артыкулам 49.

### ПРЭАМБУЛА

**Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым пакце,**

**беручы пад увагу,** што ў адпаведнасці з прынцыпамі, абвешчанымі Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прызнанне годнасці, уласцівай усім членам чалавечай сям'і, і роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру,

**прызнаючы,** што гэтыя правы вынікаюць з уласцівай чалавечай асобе годнасці,

**прызнаючы,** што, паводле Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, ідэал свабоднай чалавечай асобы, якая карыстаецца грамадзянскай і палітычнай свабодай і свабодай ад страху і галечы, можа быць ажыццёўлены толькі калі будуць створаны такія ўмовы, пры якіх кожны можа карыстацца сваімі эканамічнымі, сацыяльнымі і культурнымі правамі, гэтак жа, як і сваімі грамадзянскімі і палітычнымі правамі,

**беручы пад увагу,** што па Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дзяржавы абавязаны заахвочваць усеагульную павагу і прытрымліванне правоў і свабод чалавека,

**беручы пад увагу,** што кожны асобны чалавек, маючы абавязкі ў адносінах іншых людзей і таго калектыву, да якога ён належыць, павінен дамагацца заахвочвання і захавання правоў, прызнаных у гэтым Пакце,

**пагаджаюцца аб ніжэйпададзеных артыкулах:**

### ЧАСТКА І

### *Артыкул 1*

1. Усе народы маюць права на самавызначэнне. У сілу гэтага права яны свабодна вызначаюць свой палітычны статус і свабодна забяспечваюць сваё эканамічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё.

2. Усе народы для дасягнення сваіх мэт могуць вольна распараджацца сваімі натуральнымі багаццямі і рэсурсамі без шкоды для якіх-небудзь абавязацельстваў, што вынікаюць з міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва, заснаванага на прынцыпе узаемнай выгады, і з міжнароднага права. Ніводзін народ ні ў якім выпадку не можа быць пазбаўлены сродкаў існавання, якія яму належаць.

3. Усе Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, у тым ліку тыя, якія нясуць адказнасць за кіраванне несамакіравальнымі і падапечнымі тэрыторыямі, павінны, ў адпаведнасці з палажэннямі Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, заахвочваць ажыццяўленне права на самавызначэнне і паважаць гэтае права.

### ЧАСТКА ІІ

### *Артыкул 2*

1. Кожная Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, абавязуецца паважаць і забяспечваць усім асобам, якія знаходзяцца ў межах яе тэрыторыі і пад яе юрысдыкцыяй, правы, што прызнаюцца ў гэтым Пакце, без якога б там ні было адрознення, як у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных альбо іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання або іншай акалічнасці.

2. Калі гэта ўжо не прадугледжана існуючымі заканадаўчымі ці іншымі мерамі, кожная Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, абавязуецца прыняць неабходныя меры ў адпаведнасці з усімі канстытуцыйнымі працэдурамі і палажэннямі гэтага Пакта для прыняцця такіх заканадаўчых ці іншых мер, якія могуць быць неабходнымі для ажыццяўлення правоў, прызнаных у гэтым Пакце.

3. Кожная Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, абавязуецца:

а) забяспечыць кожнай асобе, правы і свабоды якой, прызнаныя ў гэтым Пакце, парушаны, эфектыўны сродак праўавой абароны, нават калі гэта парушэнне было здзейснена асобамі, якія дзейнічалі ў афіцыйнай якасці;

б) забяспечыць, каб права на прававую абарону для любой асобы, якая патрабуе такой абароны, вызначалася кампетэнтнымі судовымі, адміністрацыйнымі або заканадаўчымі ўладамі ці любым іншым кампетэнтным органам, прадугледжаным прававой сістэмай дзяржавы, і развіваць магчымасці судовай абароны;

с) забяспечыць прымяненне кампетэнтнымі ўладамі сродкаў прававой абароны, калі яны даюцца.

### *Артыкул 3*

Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца забяспечыць роўнае для мужчын і жанчын права карыстання ўсімі грамадзянскімі і палітычнымі правамі, прадугледжанымі ў гэтым Пакце.

### *Артыкул 4*

1. У час надзвычайнага становішча ў дзяржаве, пры якім жыццё нацыі знаходзіцца пад пагрозай і аб наяўнасці якога афіцыйна абвяшчаецца, Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, могуць прымаць меры ў адступленне ад сваіх абавязацельстваў па гэтаму Пакту толькі ў такой ступені, у якой гэтага патрабуе вастрыня становішча, пры ўмове, што такія меры не з'яўляюцца несумяшчальнымі з іх іншымі абавязацельствамі па міжнароднаму праву і не цягнуць за сабой дыскрымінацыі выключна на падставе расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі ці сацыяльнага паходжання.

2. Гэта палажэнне не можа быць падставай для якіх-небудзь адступленняў ад артыкулаў 6, 7, 8 (пункты 1 і 2), 11, 15, 16 і 18.

3. Любая Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, якая скарыстоўвае права адступлення, павінна неадкладна інфармаваць іншыя Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, пры дапамозе Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб палажэннях, ад якіх яна адступіла, і аб прычынах, якія схілілі да такога рашэння. Таксама павінна быць зроблена паведамленне праз таго ж пасрэдніка аб той даце, калі яна спыняе такое адступленне.

### *Артыкул 5*

1. Нішто ў гэтым Пакце не можа тлумачыцца так, быццам яно азначае, што якая-небудзь дзяржава, якая-небудзь група ці якая-небудзь асоба мае права займацца якой бы там ні было дзейнасцю або здзяйсняць якія б там ні было дзеянні, накіраваныя на знішчэнне любых правоў ці свабод, прызнаных у гэтым Пакце, або на абмежаванне іх у большай меры, чым прадугледжваецца ў гэтым Пакце.

2. Ніякае абмежаванне альбо прымяншэнне якіх бы там ні было асноўных правоў чалавека, што прызнаны ці існуюць у якой-небудзь дзяржаве — удзельніцы гэтага Пакта ў сілу закона, канвенцый, правіл ці звычаяў, не дапускаецца на той падставе, што ў гэтым Пакце не прызнаюцца такія правы або што ў ім яны прызнаюцца ў меншым аб'ёме.

### ЧАСТКА ІІІ

### *Артыкул 6*

1. Права на жыццё ёсць неад'емнае права кожнага чалавека. Гэта права ахоўваецца законам. Ніхто не можа быць самавольна пазбаўлены жыцця.

2. У краінах, якія не адмянілі смяротнай кары, смяротныя прыгаворы могуць выносіцца толькі за самыя цяжкія злачынствы ў адпаведнасці з законам, які дзейнічаў у час учынення злачынства і які не пярэчыць пастановам гэтага Пакта і Канвенцыі аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго. Гэтае пакаранне можа быць ажыццёўлена толькі як выкананне канчатковага прысуду, вынесенага кампетэнтным судом.

3. Калі пазбаўленне жыцця з'яўляецца злачынствам генацыду, трэба мець на ўвазе, што нішто ў гэтым артыкуле не дае дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, права якім бы там ні было шляхам адступаць ад любых абавязацельстваў, прынятых згодна з пастановамі Канвенцыі аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго.

4. Кожны, хто прысуджаны да пакарання смерцю, мае права прасіць аб памілаванні або аб змякчэнні прысуду. Амністыя, памілаванне ці

замена смяротнага прысуду могуць быць дараваны ва ўсіх выпадках.

5. Смяротны прысуд не выносіцца за злачынствы, здзейсненыя асобамі маладзейшымі за 18 гадоў, і не прыводзяцца ў выкананне ў адносінах цяжарных жанчын.

6. Нішто ў гэтым артыкуле не можа служыць падставай для адтэрміноўкі ці недапушчэння адмены пакарання смерцю якой-небудзь дзяржавай — удзельніцай гэтага Пакта.

### Артыкул 7

Ніхто не павінен цярпець катаванні ці жорсткія, бесчалавечныя абыходжанне альбо пакаранне, якія прыніжаюць яго годнасць. У прыватнасці, ніводная асоба не павінна без яе вольнай згоды браццa пад медыцынскія або навуковыя доследы.

### Артыкул 8

1. Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх іх выглядах.

2. Ніхто не павінен утрымлівацца ў паднявольным стане.

3. a) Ніхто не павінен прымушацца да прымусовай ці абавязковай працы;

b) у тых краінах, дзе ў якасці пакарання за злачынствы можа прызначацца пазбаўленне волі, спалучанае з катаржнымі работамі, пункт 3 a не лічыцца перашкодай для выканання катаржных работ па прыгавору кампетэнтнага суда, які прызначыў такое пакаранне;

c) тэрмінам «прымусовая ці абавязковая праца» ў гэтым пункце не ахопліваюцца:

i) якая б там ні была работа альбо служба, што не ўпамінаецца ў падпункце b якую, як правіла, павінна выконваць асоба, што знаходзіцца ў зняволенні на падставе законнага распараджэння суда, або асоба, умоўна вызваленая ад такога зняволення;

ii) якая б там ні была служба ваеннага характару, а ў тых краінах, у якіх прызнаецца адмаўленне ад ваеннай службы па палітычных і рэлігійна-этнічных матывах, якая б там ні была служба, прадугледжаная законам для асоб, што адмаўляюцца ад ваеннай службы па такіх матывах;

iii) якая б там ні была служба, абавязковая ў выпадках надзвычайнага становішча ці бедства, якія пагражаюць жыццю або дабрабыту насельніцтва;

iV) якая б там ні была работа ці служба, якая ўваходзіць у звычайныя грамадзянскія абавязкі.

### Артыкул 9

1. Кожны чалавек мае права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Ніхто не можа быць самавольна арыштаваны і ўтрыманы пад вартай. Ніхто не павінен быць пазбаўлены свабоды інакш, як на такіх падставах і ў адпаведнасці з такой працэдурай, якія прадугледжаны законам.

2. Кожнаму арыштаванаму паведамляюцца пры арышце прычыны яго арышту і ў тэрміновым парадку паведамляецца любое абвінавачанне, якое яму прад'яўляецца.

3. Кожная арыштаваная або затрыманая па крымінальнаму абвінавачанню асоба ў тэрміновым парадку дастаўляецца да суддзі ці да іншай службовай асобы, якой належыць па закону права ажыццяўляць судовую ўладу, і мае права на судовы разбор на працягу разумнага тэрміну альбо на вызваленне. Утрыманне пад вартай асоб, якія чакаюць судовага разбору, не павінна быць агульным правілам, але вызваленне можа ставіцца ў залежнасць ад прадастаўлення гарантый яўкі на суд, яўкі на судовы разбор у любой другой яго стадыі, і ў выпадку неабходнасці, яўкі для выканання прысуду.

4. Кожнаму, хто пазбаўлены свабоды ў выніку арышту ці ўтрымання пад вартай, належыць права на разбор яго справы ў судзе, каб гэты суд мог неадкладна вынесці пастанову адносна законнасці яго затрымання і распарадзіцца аб яго вызваленні, калі затрыманне незаконнае.

5. Кожны, хто быў ахвярай незаконнага арышту ці ўтрымання пад вартай, мае права на кампенсацыю, якая валодае іскавай сілай.

### Артыкул 10

1. Усе асобы, пазбаўленыя волі, маюць права на гуманныя адносіны і павагу годнасці, уласцівай чалавечай асобе.

2. a) Абвінавачаныя ў выпадках, калі адсутнічаюць выключныя акалічнасці, змяшчаюцца асобна ад асуджаных, і ім дазваляецца асобны рэжым, які адказвае іх статусу неасуджаных асоб;

b) абвінавачаныя непаўналетнія аддзяляюцца ад паўналетніх і ў кароткі тэрмін дастаўляюцца ў суд для вынясення рашэння.

3. Пенітэнцыярнай сістэмай прадугледжваецца рэжым для зняволеных, істотнай мэтай якога з'яўляецца іх выпраўленне і сацыяльнае перавыхаванне. Непаўналетнія правапарушальнікі аддзяляюцца ад паўналетніх, і ім дазваляецца рэжым, які адпавядае іх узросту і прававому статусу.

### Артыкул 11

Ніхто не можа быць пазбаўлены волі на той толькі падставе, што ён не ў стане выконваць якое-небудзь дагаворнае абавязацельства.

### Артыкул 12

1. Кожнаму, хто законна знаходзіцца на тэрыторыі якой-небудзь дзяржавы, належыць, у межах гэтай тэрыторыі, права на свабоднае перамяшчэнне і свабода выбару месцажыхарства.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную.

3. Названыя вышэй правы не могуць быць аб'ектам ніякіх абмежаванняў, апроч тых, якія прадугледжаны законам, неабходны для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя або маральнасці насельніцтва ці правоў і свабод другіх і сумяшчальныя з прызнанымі ў гэтым Пакце іншымі правамі.

4. Ніхто не можа быць самавольна пазбаўлены права на ўезд у сваю ўласную краіну.

### Артыкул 13

Іншаземец, які законна знаходзіцца на тэрыторыі якой-небудзь з дзяржаў, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, можа быць высланы толькі ў мэтах выканання рашэння, вынесенага ў адпаведнасці з законам, і, калі імператыўныя меркаванні дзяржаўнай бяспекі не патрабуюць іншага, мае права на падачу доказаў супраць сваёй высылкі, на перагляд сваёй справы кампетэнтнай уладай або асобай ці асобамі, спецыяльна прызначанымі кампетэнтнай уладай, і на тое, каб быць адрэкамендаваным для гэтай мэты перад гэтай уладай асобай альбо асобамі.

### Артыкул 14

1. Усе асобы роўныя перад судамі і трыбуналамі. Кожны мае права пры разглядканні любога крымінальнага абвінавачвання, якое яму прад'яўляецца, ці пры вызначэнні яго правоў і абавязкаў у якім-небудзь грамадзянскім працэсе на справядлівы і публічны разбор справы кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом, створаным на падставе закона. Друк і публіка могуць не дапускацца на ўвесь судовы разбор ці частку яго па меркаваннях маралі, грамадскага парадку або дзяржаўнай бяспекі ў дэмакратычным грамадстве, ці калі таго патрабуюць інтарэсы прыватнага жыцця бакоў, ці — у той меры, у якой гэта, на думку суда, строга неабходна,— пры асаблівых акалічнасцях, калі публічнасць парушала б інтарэсы правасуддзя; аднак любая судовая пастанова па крымінальнай альбо грамадзянскай справе павінна быць публічнай за выключэннем тых выпадкаў, калі інтарэсы непаўналетніх патрабуюць іншага ці калі справа тычыцца матрыманіяльных спрэчак або апекі над дзецьмі.

2. Кожны абвінавачаны ў крымінальным злачынстве мае права лічыцца невінаватым, пакуль вінаватасць яго не будзе даказана згодна з законам.

3. Кожны мае права пры разглядзе любога прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачання, як мінімум, на наступныя гарантыі на аснове поўнай роўнасці:

a) быць у тэрміновым парадку і падрабязна апавешчаным на мове, якую ён разумее, аб характары і падставе абвінавачання, якое яму прад'яўляецца;

b) мець дастатковы час і магчымасці для падрыхтоўкі сваёй абароны і наладжваць сувязь з абраным ім самім абаронцам;

c) быць судзімым без неапраўданай затрымкі;

d) быць судзімым у яго прысутнасці і абараняць сябе асабіста ці пры дапамозе абранага ім самім абаронцы; калі ён не мае абаронцы, быць апавешчаным аб гэтым праве і мець прызначанага яму абаронцу ў любым выпадку, калі інтарэсы правасуддзя таго патрабуюць, бязвыплатна для яго ў любым такім выпадку, калі ў яго няма дастаткова сродкаў для аплаты гэтага абаронцы;

e) дапытваць сведак, якія сведчаць супраць яго, або мець права на тое, каб гэтыя сведкі былі дапытаны, і мець права на выклік і допыт яго сведак на тых жа ўмовах, якія існуюць для сведак, што сведчаць супраць яго;

f) карыстацца бясплатнай дапамогай перакладчыка, калі ён не разумее мовы, што выкарыстоўваецца ў судзе, або не гаворыць на гэтай мове;

g) не быць прымушаным да дачы паказанняў супраць самога сябе ці да прызнання сябе вінаватым.

4. У адносінах непаўналетніх працэс павінен быць такі, каб улічваліся іх узрост і пажаданасць садзейнічання іх перавыхаванню.

5. Кожны, хто асуджаны за якое-небудзь злачынства, мае права на тое, каб яго асуджэнне і прыгавор былі перагледжаны вышэйстаячай судовай інстанцыяй згодна з законам.

6. Калі якая-небудзь асоба канчатковым рашэннем была асуджана за крымінальнае злачынства і калі вынесены ёй прыгавор быў у далейшым адменены ці ёй было даравана памілаванне на той падставе, што якая-небудзь новая або нанава выяўленая акалічнасць неаспрэчна даказвае наяўнасць судовай памылкі, то гэтая асоба, якая панесла пакаранне ў выніку такога асуджэння, атрымлівае кампенсацыю адпаведна закону, калі не будзе даказана, што названая невядомая акалічнасць не была ў свой час выяўлена выключна ці часткова па яго віне.

7. Ніхто не павінен быць паўторна асуджаны або пакараны за злачынства, за якое ён ужо быў канчаткова асуджаны ці апраўданы ў адпаведнасці з законам і крымінальна-працэсуальным правам кожнай краіны.

### Артыкул 15

1. Ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у здзяйсненні якога-небудзь крымінальнага злачынства з прычыны якога-небудзь дзеяння альбо недагляду, якое, адпаведна ўнутрыдзяржаўнаму заканадаўству ці міжнароднаму праву, што дзейнічае ў момант яго здзяйснення, не з'яўлялася крымінальным злачынствам. Роўным чынам, не можа прызначацца больш цяжкае пакаранне, чым тое, якое падлягала прымяненню ў момант здзяйснення крымінальнага злачынства. Калі пасля здзяйснення злачынства законам вызначаецца больш лёгкае пакаранне, дзеянне гэтага закона распаўсюджваецца на дадзенага злачынца.

2. Нішто ў гэтым артыкуле не перашкаджае аддаць пад суд і пакараць любую асобу за любы ўчынак ці недагляд, якія ў момант здзяйснення з'яўляліся крымінальным злачынствам згодна з агульнымі прынцыпамі права, прызнанымі міжнародным супольствам.

### Артыкул 16

Кожны чалавек, дзе б ён ні знаходзіўся, мае права на прызнанне яго правасуб'ектнасці.

### Артыкул 17

1. Ніхто не можа падвяргацца самавольнаму ці незаконнаму ўмяшанню ў яго асабістае і сямейнае жыццё, самавольным ці незаконным замахам на недатыкальнасць ягонага жылля або тайну яго карэспандэнцыі або незаконным замахам на яго гонар і рэпутацыю.

2. Кожны чалавек мае права на абарону закону ад такога ўмяшання ці такіх замахаў.

### Артыкул 18

1. Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі. Гэта права ўключае свабоду мець альбо прымаць рэлігію ці перакананні па свайму выбару і свабоду спавядаць сваю рэлігію і перакананні як аднаасобна, так і сумесна з іншымі, публічным або прыватным парадкам, у выкананні культу, здзяйсненні рэлігійных і рытуальных абрадаў і навучанні.

2. Ніхто не павінен падвяргацца прымусу, які прымяншае яго свабоду мець або прымаць рэлігію ці перакананні па свайму выбару.

3. Свабода спавядаць рэлігію або перакананні падлягае толькі абмежаванням, вызначаным законам і неабходным для аховы грамадскай бяспекі, парадку, здароўя і маралі, таксама як і асноўных правоў і свабод іншых асоб.

4. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абавязуюцца паважаць свабоду бацькоў і ў адпаведных выпадках законных апекуноў забяспечваць рэлігійнае і маральнае выхаванне сваіх дзяцей у адпаведнасці са сваімі ўласнымі перакананнямі.

### Артыкул 19

1. Кожны чалавек мае права беспераШкодна прытрымлівацца сваіх думак.

2. Кожны чалавек мае права на свабоднае выяўленне сваёй думкі; гэта права ўключае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усякага роду інфармацыю і ідэі незалежна ад дзяржаўных граніц вусна, пісьмова або праз друк ці мастацкія формы выяўлення, або іншымі спосабамі па свайму выбару.

3. Карыстанне прадугледжанымі ў пункце 2 гэтага артыкула правамі накладвае асаблівыя абавязкі і асаблівую адказнасць. Яно можа быць, такім чынам, спалучана з некаторымі абмежаваннямі, якія, аднак, павінны быць вызначаны законам і з'яўляцца неабходнымі:

а) для павагі правоў і рэпутацыі іншых асоб;

b) для аховы дзяржаўнай бяспекі, грамадскага парадку, здароўя ці маральнасці насельніцтва.

### Артыкул 20

1. Усялякая прапаганда вайны павінна быць забаронена законам.

2. Усялякае выступленне на карысць нацыянальнай, расавай або рэлігійнай нянавісці, якое ўяўляе сабой падбухторванне да дыскрымінацыі, варожасці ці насілля, павінна быць забаронена законам.

### Артыкул 21

Прызнаецца права на мірныя сходы. Карыстанне гэтым правам не падлягае ніякім абмежаванням, апроч тых, якія накладаюцца ў адпаведнасці з законам і якія неабходны ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя і маральнасці насельніцтва або абароны правоў і свабод іншых асоб.

### Артыкул 22

1. Кожны чалавек мае права на свабоду асацыяцыі з іншымі, уключаючы права ствараць прафсаюзы і ўступаць у такія для абароны сваіх інтарэсаў.

2. Карыстанне гэтым правам не падлягае ніякім абмежаванням, апроч тых, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходны ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя і маральнасці насельніцтва або абароны правоў і свабод іншых людзей. Гэты артыкул не перашкаджае ўвядзенню законных абмежаванняў карыстання гэтым правам для асоб, якія ўваходзяць у састаў узброеных сіл і паліцыі.

3. Нішто ў гэтым артыкуле не дае права Дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у Канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы 1948 года адносна свабоды асацыяцый і абароны права на арганізацыю, прымаць заканадаўчыя акты на шкоду гарантыям, якія прадугледжваюцца ў названай Канвенцыі, ці прымяняць закон такім чынам, каб прычыняўся ўрон гэтым гарантыям.

### Артыкул 23

1. Сям'я з'яўляецца натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства і мае права на абарону з боку грамадства і дзяржавы.

2. За мужчынамі і жанчынамі, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту, прызнаецца права браць шлюб і права ствараць сям'ю.

3. Ніводзін шлюб не можа быць заключаны без вольнай і поўнай згоды тых, хто бярэ шлюб.

4. Дзяржавы, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, павінны прыняць належныя меры для забеспячэння роўнасці правоў і абавязкаў мужа і жонкі ў адносінах узяцця шлюбу, у часе знаходжання ў шлюбе і пры яго скасаванні. У выпадку скасавання шлюбу павінна прадугледжвацца неабходная абарона ўсіх дзяцей.

### Артыкул 24

1. Кожнае дзіця без усялякай дыскрымінацыі па адзнацы расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча ці нараджэння мае права на такія меры абароны, якія патрабуюцца ў яго становішчы як малалетняга з боку яго сям'і, грамадства і дзяржавы.

2. Кожнае дзіця павінна быць зарэгістравана адразу пасля яго нараджэння і павінна мець імя.

3. Кожнае дзіця мае права на набыццё грамадзянства.

### Артыкул 25

Кожны грамадзянін павінен мець без якой бы там ні было дыскрымінацыі, што ўпамінаецца ў артыкуле 2, і без неабгрунтаваных абмежаванняў права і магчымасць:

а) прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў;

b) галасаваць і быць выбраным на сапраўдных перыядычных выбарах, якія праводзяцца на аснове ўсеагульнага і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні і забяспечваюць свабоднае волевыяўленне выбаршчыкаў;

c) дапускацца ў сваёй краіне на агульных умовах роўнасці да дзяржаўнай службы.

### Артыкул 26

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону закона. У гэтых адносінах усякага роду дыскрымінацыя павінна быць забаронена законам і закон павінен гарантаваць усім асобам роўную і эфектыўную абарону супраць дыскрымінацыі па якой бы там ні было адзнацы: як расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, нараджэння або іншай акалічнасці.

### Артыкул 27

У тых краінах, дзе існуюць этнічныя, рэлігійныя і моўныя меншасці, асобам, якія належаць да такіх меншасцей, не можа быць адмоўлена ў праве сумесна з іншымі членамі той жа групы карыстацца сваёй культурай, спавядаць сваю рэлігію і выконваць яе абрады, а таксама карыстацца роднай мовай.

## ЧАСТКА IV

### Артыкул 28

1. Утвараецца Камітэт па правах чалавека (які называецца ніжэй у гэтым Пакце Камітэт). Ён складаецца з васемнаццаці членаў і выконвае функцыі, прадугледжаныя ніжэй.

2. У склад Камітэта ўваходзяць асобы, якія з'яўляюцца грамадзянамі дзяржаў, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, і валодаюць высокімі маральнымі якасцямі і прызнанай кампетэнтнасцю ў галіне правоў чалавека, прычым прымаецца да ўвагі карыснасць удзелу некалькіх асоб, якія валодаюць юрыдычным вопытам.

3. Члены Камітэта выбіраюцца і працуюць у асабістай якасці.

### Артыкул 29

1. Члены Камітэта выбіраюцца тайным галасаваннем са спіса асоб, якія задавальняюць патрабаванням, прадугледжаным у артыкуле 28, і вылучанымі для гэтай мэты дзяржавамі, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце.

2. Кожная дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, можа вылучыць не больш за дзве асобы. Гэтыя асобы павінны быць грамадзянамі дзяржавы, якая іх вылучае.

3. Любая асоба мае права на паўторнае вылучэнне.

### Артыкул 30

1. Першапачатковыя выбары праводзяцца не пазней чым праз шэсць месяцаў з дня ўступлення ў сілу гэтага Пакта.

2. Па крайняй меры за чатыры месяцы з дня кожных выбараў у Камітэт, апроч выбараў для запаўнення вакансій, якія абвяшчаюцца адкрытымі ў адпаведнасці з артыкулам 34, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый звяртаецца з пісьмовым запрашэннем да дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, прадставіць на працягу трох месяцаў свае кандыдатуры ў члены Камітэта.

3. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый складае ў алфавітным парадку спіс усіх вылучаных такім чынам асоб з указаннем дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце і вылучылі гэтых асоб, і прадстаўляе гэты спіс дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, не пазней чым за адзін месяц да даты правядзення кожных выбараў.

4. Выбранне членаў Камітэта праводзіцца на пасяджэнні дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, скліканым Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На гэтым пасяджэнні, для якога кворумам з'яўляецца прысутнасць двух трэціх дзяржаў, што ўдзельнічаюць у гэтым Пакце, абранымі ў Камітэт з'яўляюцца тыя асобы, кандыдатуры якіх атрымаюць найбольшую колькасць галасоў і абсалютную большасць галасоў прысутных і галасаваўшых прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц.

### Артыкул 31

1. У Камітэт не можа ўваходзіць больш чым па аднаму грамадзяніну адной і той жа дзяржавы.

2. Пры выбарах у Камітэт бярэцца пад увагу справядлівае геаграфічнае размеркаванне членаў і прадстаўніцтва розных форм цывілізацыі і асноўных юрыдычных сістэм.

### Артыкул 32

1. Члены Камітэта выбіраюцца на чатырохгадовы тэрмін. Яны маюць права быць перавыбранымі пры паўторным вылучэнні іх кандыдатур. Аднак тэрмін паўнамоцтваў дзевяці з тых членаў, якія абраны на першых выбарах, канчаецца пад канец двухгадовага перыяду; неадкладна пасля першых выбараў імёны гэтых дзевяці членаў вызначаюцца па жэрабю Старшынёй пасяджэння, пра якое ўпамінаецца ў пункце 4 артыкула 30.

2. Па сканчэнні паўнамоцтваў выбары праводзяцца ў адпаведнасці з папярэднімі артыкуламі дадзенай часткі гэтага Пакта.

### Артыкул 33

1. Калі паводле аднагалоснай думкі іншых членаў які-небудзь член Камітэта спыніў выкананне сваіх функцый па якой-небудзь прычыне, апроч часовай адсутнасці, Старшыня Камітэта паведамляе Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які аб'яўляе затым месца гэтага члена вакантным.

2. У выпадку смерці або выхаду ў адстаўку якога-небудзь члена Камітэта Старшыня неадкладна паведамляе Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які аб'яўляе гэтае месца вакантным з дня смерці ці з таго дня, калі выхад у адстаўку становіцца сапраўдным.

### Артыкул 34

1. Калі аб'яўляецца адкрытай вакансія ў адпаведнасці з артыкулам 33 і калі тэрмін паўнамоцтваў члена, які павінен быць заменены, не канчаецца на працягу шасці месяцаў пасля аб'яўлення гэтай вакансіі, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый паведамляе кожнай дзяржаве, што ўдзельнічае ў гэтым Пакце, якая можа на працягу двух месяцаў прадставіць у адпаведнасці з артыкулам 29 кандыдатуру для запаўнення гэтай вакансіі.

2. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый складае ў алфавітным парадку спіс вылучаных такім чынам асоб і прадстаўляе гэты спіс дзяржавам, якія ўдзельнічаюць у гэтым Пакце. Выбары для запаўнення вакансіі праводзяцца затым згодна адпаведным палажэнням дадзенай часткі гэтага Пакта.

3. Член Камітэта, абраны для заняцця вакансіі, аб'яўленай у адпаведнасці з артыкулам 33, займае пасаду на працягу той, што засталася, часткі тэрміну паўнамоцтваў члена, які вызваліў месца ў Камітэце згодна з палажэннямі названага артыкула.

### Артыкул 35

Члены Камітэта атрымліваюць узнагароджанне, якое зацвярджаецца Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, са сродкаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у парадку і на ўмовах, устаноўленых Генеральнай Асамблеяй з улікам важнасці абавязкаў Камітэта.

**(Заканчэнне тэксту Пакта — у наступным нумары.)**

# КАМАНДАВАЦЬ ПАРАДАМ БУДЗЕ...






**А НА САМАЙ СПРАВЕ — ХТО КАМАНДУЕ І БУДЗЕ ДАЛЕЙ НАКІРОЎВАЦЬ ПАРАД СУВЕРЭНІТЭТАЎ! ПАРАД, ЯКІ ІМКНЕЦЦА НАЛЕВА, АЛЕ У КАЛОН РОЗНЫ РЫТМ РУХУ І НЯМА ГЛЕДАЧОЎ...**






## ● САМАІЗАЛЯЦЫЯ

Так ці інакш усе мы ўжо змушаны ўздрыгваць пад аглушальныя вокрыкі вульгарнага правінцыяльнага радыкалізму. Ён, як яфрэйтар, што цешыцца ўладай, гатовы патрабаваць «ану, цвярдзей крок!», нават калі людзі ўжо — басанож. Ім холадна, яны знерваваныя... І вось з'яўляецца прадавец і гаворыць: «бярыце чаравікі». Але прадаўца за гэта... у суд.

Мана, нагнятанне страсцей, змрочная фантазія аўтара? Нічога падобнага! Гэта — адзін і далёка не самы абсурдны факт з жыцця.

Перада мной чарговая скарга: «15 лістапада 1990 г. на мяжы Гомельскай і Чарнігаўскай абласцей супрацоўнікамі РАУС Гомельскага раёна канфіскаваны груз (электракіпяцільнікі «Момант»). Гэты тавар выпускаецца Астравецкім райспажыўсаюзам Гродзенскай вобласці. Груз накіроўваўся на Крамянчугскую міжраённую базу Палтаўскага аблспажыўсаюза ў абмен на абутак, згодна з гандлёвай здзелкай № 166, заключанай 17 кастрычніка 1990 года на міжрэспубліканскім гандлёвым кірмашы ў г. Чаркасы.

Есць дазволы на абмен гэтых тавараў Гродзенскага аблвыканкома і Рэспубліканскага камерцыйнага цэнтра. Просім дапамагчы ўрэгуляваць канфлікт у сувязі з хуткім заканчэннем бухгалтарскіх разлікаў у 1990 годзе».

Як дапамагчы?

Да галоснасці апелююць толькі тады, калі ўжо зусім незразумела, каму і на каго і дзе скардзіцца. На самай справе, хто асабіста вінаваты ў тым, што брацць камандзіроўку на міжрэспубліканскі кірмаш нашым «купцам» цяпер проста недарэчна і небяспечна, а нам, такім чынам, недарэчна чакаць паляпшэнняў на спажывецкім рынку? Рытарычнае пытанне...

У МУС БССР я пачуў дыялог:

— Што — чаравікі? Не трагедыя. У нас зараз такіх гісторый... Вось старэнькая забіла **свайго** парсюка, зрабіла каўбасу, павезла **свой** гасцінец дачцэ на вяселле, а нашы калегі былі змушаны «злавіць за руку» гэту «кантрабандыстку». Тут — ужо асабістая бяда, траўма на ўсё жыццё. Замест таго, каб біць і біць па мафіі, мы «выкрываем» зусім законапаслухмяных людзей. Карумпіраваныя кланы маюць магутную тэхніку, тонамі вязуць па лясных дарогах адборны дэфіцыт (яго простыя людзі рэдка бачаць нават па тэлевізары), але міліцыя распыляе лепшыя сілы і на бедныя сродкі будуе бяссэнсавыя «кардоны»... Усюды савецкія людзі жывуць прыкладна аднолькава. Калі хтосьці з мінчан паехаў у госці да сваякоў або сяброў з падарункам, дык жа і вяртаецца ён не з пустымі рукамі. Кожны рэгіён краіны мае нейкія свае традыцыйныя тавары. І таму, калі рвуцца тавараабменныя сувязі нават на бытавым узроўні — ужо дрэнна.

Так, жыццёвы ўзровень зніжаецца. І будзе зніжацца, пакуль усе мы не зразумеем: суверэнітэт — гэта паняцце значна больш ёмістае, чым магчымасць загарадзіць пэўную тэрыторыю заставамі і праганяць «купцоў», забараняць сваім суграмадзянам распараджацца асабістай маёмасцю, рэвізаваць і ставіць пад удар эканамічныя міжрэгіянальныя сувязі, што наладжваліся дзесяцігоддзямі.

Прэзідэнт краіны на IV з'ездзе народных дэпутатаў быў змушаны канстатаваць самы, бадай, трывожны факт дня і яшчэ раз нагадаць, растлумачыць:

— Некаторыя таварышы маю крытыку натуральнага абмену, вайны эканамічных забарон паміж рэспублікамі і рэгіёнамі ўспрынялі як непрыняцце новай ролі і новых адносін паміж рэспублікамі. Вядома, мы ў нейкай меры апраўдаць тое, што адбываецца, усе гэтыя таможні і іншыя падобныя справы; гатовы зразумець, што гэта — рэакцыя на зрыў паставак, на дэзарганізацыю нашага эканамічнага жыцця. Але, таварышы, выдаваць гэта за перспектыўныя напрамкі ў рабоце эканомікі — значыць плыць у адваротным напрамку, не ў бок рынку, а ад яго. Бо, хочам мы таго ці не, усё гэта аб'ектыўна паўстае на шляху фарміравання жывога, дынамічнага агульнасаюзнага рынку, з'яўляецца перашкодай для дзейнасці прадпрыемстваў як яго галоўных суб'ектаў. Яны павінны дзейнічаць актыўна, праяўляць ініцыятыву, прадпрымальнасць, падтрымліваць існуючыя сувязі і знаходзіць новых партнёраў, каб раскрыць свой патэнцыял. Тут крыніца новай дынамікі ў нашай эканоміцы.

Прэзідэнту апладзіравалі. Дык што, эйфарыя, сіндром «новых удзельных князёў» ужо страчвае сілу? Хацелася б верыць...

У Савеце Міністраў БССР я сустрэў толькі гарачых прыхільнікаў захавання Саюза, аднаўлення і развіцця міжрэгіянальных сувязей. У аддзеле, які толькі імі і займаецца, аўтар пачуў:

— Разрыў гаспадарчых адносін паміж рэспублікамі, абласцямі, асобнымі прадпрыемствамі проста недапушчальны. Гэта прывядзе да катастрофы. Самаізаляцыя нават нейкага аднаго аўтаномнага ўтварэння адразу ж адбіваецца на дастатку дзесяткаў мільёнаў чалавек. На жаль, парад суверэнітэтаў працягваецца. Вось, напрыклад, нядаўна Башкірыя як быццам пакрыўдзілася, што мы заключылі дагавор з РСФСР, але «праігнаравалі» Уфу. Што ж, «канфлікт», які яшчэ і не пачаўся, хутка ўладзілі. І Башкірыі без Беларусі і Беларусі без Башкірыі сёння развівацца вельмі цяжка. Яны пастаўляюць нам вугаль, кальцыніраваную соду, сінтэтычныя смолы, грузавыя аўтамабілі, машыны для ўнясення ў глебу ўгнаенняў, металарэзныя станкі, розныя катлы і помпы, фасфатныя ўгнаенні, хімічнае абсталяванне, буравыя ўстаноўкі... Спіс вельмі доўгі. А з БССР у Башкірыю цягнікі вязуць пракат чорных металаў, мінеральныя ўгнаенні, шыны, трактары, скрэперы, бульбаўборачныя камбайны, сродкі вылічальнай тэхнікі, трансфарматары... Аб'ёмы ўзаемных паставак вялізныя!

...Факт дня: аўтаномныя рэспублікі жадаюць называцца саюзнымі, а некаторыя саюзныя — выйсці з Саюза. Башкірыя, напрыклад, рэзонна заяўляе аб тым, што яна больш магутная (кругом!), чым любая з прыбалтыйскіх дзяржаў. Атрымліваецца... трэба аб'явіць другую БССР ці БаССР. Тады пачнецца добрае жыццё?

Паміж Мінскам і сталіцай Башкірыі Уфой шмат соцень кіламетраў і некалькі чыста палітычных і эканамічных навенькіх барыкад, шлагбаумаў. Дык чым розняцца сёння першыя гарады дзвюх рэспублік і іх праблемы? Хто каму можа пазайздросціць, хто лепш працуе, хто больш актыўна змагаецца за поўны і цывілізаваны суверэнітэт і — галоўнае — што канкрэтна ад яго чакае?

**Паглядзіце на фотаздымкі, якія зроблены ў Мінску і ва Уфе. Мітынгі... Адны эмоцыі, адны лозунгі, падобныя надзеі і патрабаванні...**

## ● КРУГАВАРОТ ДЭФІЦЫТАЎ У САЮЗЕ

Мне ўдалося (упершыню за ўсю сваю журналісцкую практыку) атрымаць апошнія статыстычныя звесткі па аб'ёмах увозу і вывазу прадукцыі па саюзных рэспубліках. Вось — табліца:

| | Увоз, уключаючы імпарт | | Вываз, уключаючы экспарт | | Павышэнне ўвозу (—), вывазу | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ва ўнутрысаюзных цэнах | у сусветных цэнах | ва ўнутрысаюзных цэнах | у сусветных цэнах | ва ўнутрысаюзных цэнах | у сусветных цэнах |
| РСФСР | 135,86 | 101,9 | 102,54 | 132,7 | —33,32 | 30,8 |
| Украінская ССР | 49,86 | 47,4 | 46,94 | 44,5 | —2,92 | —2,9 |
| Беларуская ССР | 17,84 | 18,5 | 19,92 | 16,4 | 2,08 | —2,1 |
| Узбекская ССР | 12,32 | 10,5 | 10,49 | 8,0 | —1,83 | —2,5 |
| Казахская ССР | 16,4 | 15,6 | 9,1 | 9,0 | —7,3 | —6,6 |
| Грузінская ССР | 6,49 | 5,3 | 5,9 | 3,4 | —0,59 | —1,9 |
| Азербайджанская ССР | 5,7 | 5,1 | 6,8 | 4,6 | 1,1 | —0,5 |
| Літоўская ССР | 7,49 | 7,8 | 5,96 | 4,1 | —1,53 | —3,7 |
| Малдаўская ССР | 6,1 | 5,1 | 5,06 | 2,5 | —1,04 | —2,6 |
| Латвійская ССР | 5,6 | 5,0 | 4,9 | 3,7 | —0,7 | —1,3 |
| Кіргізская ССР | 3,77 | 3,2 | 2,56 | 2,1 | —1,21 | —1,1 |
| Таджыкская ССР | 3,49 | 2,8 | 2,33 | 1,7 | —1,16 | —1,1 |
| Армянская ССР | 4,88 | 3,6 | 3,76 | 2,2 | —1,12 | —1,4 |
| Туркменская ССР | 2,9 | 2,4 | 2,6 | 2,4 | —0,3 | — |
| Эстонская ССР | 3,7 | 3,2 | 3,0 | 1,9 | —0,7 | —1,3 |

Бачыце, некаторыя міфы сухія факты (упартая рэч!) развязваюць... А міфаў вакол эканамічнай сітуацыі хапае.

Цяпер вернемся ў сваю рэспубліку: адкуль жа ўзяўся беларускі «мінус» у толькі што разгледжанай таб-...ліцы? А вось адкуль.

**Увоз і вываз тавараў народнага спажывання**

| | Беларуская ССР | | |
|---|---|---|---|
| | увоз, уключаючы імпарт | вываз, уключаючы экспарт | сальда вывазу, увозу (—) |
| Прадукты харчавання (без алкагольных напіткаў), млн. руб. | 764,7 | 1593,2 | 828,5 |
| Крупы, тыс. т | 171,4 | 35,1 | —137,3 |
| Мука, тыс. т | 2,1 | 105,7 | 103,6 |
| Агародніна, тыс. т | 158,4 | 11,1 | —147,3 |
| Бульба, тыс. т | 1,3 | 543,7 | 542,4 |
| Садавіна, уключаючы вінаград, тыс. т | 64,2 | 0,5 | —63,7 |
| Агародннінныя кансервы, млн. у. б. | 20,4 | 27,9 | 7,5 |
| Кансервы з садавіны, млн. у. б. | 58,2 | 27,8 | —30,4 |
| Таматная прадукцыя, млн. у. б. | 69,7 | 3,4 | —66,3 |
| Малакапрадукты, тыс. т | 1,7 | 2183,8 | 2182,1 |
| Мясапрадукты, тыс. т | 13,6 | 337,3 | 323,7 |
| Рыба, тыс. т | 109,0 | 1,7 | —107,3 |
| Яйцапрадукты (у пераліку на яйка), млн. шт. | 11,8 | 82,1 | 70,3 |
| Цукар, тыс. т | 189,9 | — | —189,9 |
| Алей, тыс. т | 40,4 | 16,3 | —24,1 |
| Кандытарскія вырабы, тыс. т | 0,6 | 27,6 | 27,0 |
| Непрадуктовыя тавары, млн. руб. | 2520,4 | 4319,7 | 1799,3 |
| З іх: | | | |
| …прадуктовыя тавары, без тавараў лёгкай прамысловасці | 1372,0 | 2396,8 | —1024,8 |
| Тавары лёгкай прамысловасці | 1148,4 | 1922,9 | 774,5 |
| Тканіна ўсіх відаў, млн. м | 217,1 | 174,2 | —42,9 |
| Швейныя вырабы, млн. руб. | 257,3 | 208,6 | —48,7 |
| Трыкатажныя вырабы, млн. шт. | 6,8 | 43,9 | 37,1 |
| Скураны абутак, млн. пар | 4,2 | 9,8 | 5,6 |
| Мэбля, млн. руб. | 31,6 | 113,8 | 82,2 |
| Легкавыя аўтамабілі, тыс. шт. | 28,9 | — | —28,9 |
| Сыравіна для лёгкай прамысловасці | | | |
| шэрсці, тыс. т | 15,1 | 2,4 | —12,7 |
| бавоўна-валакно, тыс. т | 24,1 | — | —24,1 |
| баваўняная пража, тыс. т | 3,4 | 0,4 | —3,0 |
| шарсцяная пража, тыс. т | 0,5 | 2,2 | 1,7 |

Мы чамусьці звыклі думаць (і нас па-ранейшаму заахвочваюць так думаць—гэта зручна ўладзе), што БССР вельмі паспяховая — у параўнанні з іншымі — рэспубліка. У пачатку васьмідзесятых так і было. Цяпер гэтага няма. Наадварот, нас абганяюць па ўзроўню і якасці жыцця. Але і суседзям цяжка... Як на «багатым» поўдні, так і зусім побач — на поўначы. Возьмем хоць бы такія разлікі і канстатацыі статыстыкаў.

Недастатковая забяспечанасць прадметамі культурна-бытавога прызначэння працяглага карыстання: з кожных 100 сем'яў 8 не маюць халадзільніка, 30 — пральнай машыны, 35 — швейнай машыны, 56 — электрапыласоса.

Істотна розніца забяспечанасць сем'яў прадметамі працяглага карыстання. Напрыклад, у разліку на 100 сем'яў у Грузіі, Казахстане, РСФСР і Латвіі прыпадае 102—109 тэлевізараў, у Таджыкістане, Узбекістане і Малдавіі — 85—89. У Эстоніі кожная другая сям'я мае па два радыёпрыёмныя ўстройствы, у Літве — кожная восьмая, а ў Азербайджане і Кіргізіі кожная шостая і восьмая сям'я ўвогуле іх не маюць. У Эстоніі, Туркменістане і Латвіі на 100 сем'яў прыпадае 106—112 халадзільнікаў, у той жа час у Таджыкістане, Узбекістане і Азербайджане — 74—83.

Пры самым высокім сярод сацыялістычных і развітых капіталістычных (акрамя ЗША) краін каэфіцыенце шлюбнасці (9,4) у СССР назіраецца самы высокі каэфіцыент разводнасці (3,3).

Чаму? Ды і так усім усё зразумела... Адзін штрых: нягледзячы на сістэму спецыяльных мер, скіраваных на паляпшэнне ўмоў працы жанчын, ахову іх здароўя, усё яшчэ вялікая іх колькасць занята цяжкай фізічнай працай. На цяжкіх ручных работах у прамысловасці з агульнай колькасці рабочых, занятых цяжкай фізічнай працай, пятая частка — жанчыны, у будаўніцтве — звыш чвэрці. Прычым доля такіх жанчын вышэйшая за сярэднесаюзны ўзровень у прамысловасці РСФСР, Беларусі, Узбекістана, Казахстана, Грузіі, Азербайджана, Літвы, Малдавіі, Кіргізіі, Туркменістана і Эстоніі; у будаўніцтве — у РСФСР, на Украіне, у Беларусі і Казахстане.

### ●РАЎНЕННЕ НА РЫНАК!

Нашы будні... Цяжкія, напоўненыя незадаволенасцю, страхам.

— Дзяліць! Усё дзяліць!— гэты крык па дзяржаве коціцца рэхам ад Брэста і да вострава Сахалін.

І ён заглушае галасы першых фермераў, арандатараў, прадпрымальнікаў; рэкамендацыі самых кампетэнтных нашых і замежных эканамістаў, якія сцвярджаюць, што:

— Патрэбен сумленны, эквівалентны абмен вынікамі працы. А большыя і добрыя вынікі працы з'явяцца тады, калі чалавек будзе ў іх зацікаўлены.

Самі па сабе суверэнітэт або статус нікога і ніколі (акрамя новых урадаў, парламентарыяў, прэзідэнтаў) не кормяць і не апранаюць. Гэта робіць цывілізаваная вытворчасць з высокай ступенню свабоды прадпрымальніцкай дзейнасці. Вось чаму ў Прыбалтыцы амаль такія ж пустыя вітрыны (да таго ж пры больш высокіх цэнах), як і паўсюль у Саюзе. І зусім справядліва гаворыць Мікалай Шмялёў, калі тлумачыць, што той варыянт гаспадарчай самастойнасці Літвы, Латвіі і Эстоніі, які ўзрушана абмяркоўваўся, фактычна прадугледжваў простае пераразмеркаванне ўлады. Каб не цэнтр, а рэспублікі ўстанаўлівалі новыя, больш «справядлівыя» цэны на прадукцыю, што ў іх выпускаецца, не саюзны, а рэспубліканскія ўрады вызначалі аб'ёмы і структуру паставак «за мяжу». Дзе тут чалавек? І дзе тут прадпрыемства? І нельга не пагадзіцца з вядучым нашым эканамістам у тым, што «адраджэнне як рэспублік, так і нацыянальных культур пачнецца тады, калі галоўнай мэтай будзе свабода асобы і свабода прадпрыемстваў. А большасць жа нашых рэфарматараў, захопленых барацьбой за суверэнітэты рэгіёнаў, фактычна нічога пакуль не зрабілі для рэальнага вызвалення ні чалавека, ні прадпрыемства. Бадай, толькі Расія зрабіла вялікі крок наперад, прыняўшы Закон аб перадачы зямлі ў прыватнае валоданне. А ўсе астатнія цягнуцца далёка ў хвасце нават закрытыкаванага імі Цэнтра. Калі ж становіцца відавочнай немагчымасць выканання дадзеных людзям абяцанняў, папулісты ідуць, як правіла, старым выпрабаваным шляхам — шукаюць ворагаў. Імі могуць быць і кааператары, і каварныя ценевікі, і проста суседзі, ад якіх пачынаюць адгароджвацца карткамі і таможнямі».

Пры сваім крушэнні камандная сістэма не магла не выклікаць парад суверэнітэтаў, вайну законаў, нацыянальныя канфлікты. Але камандаваць беспрэцэдэнтным парадам, вырашаць пільныя праблемы ёй ужо не пад сілу.

Рынак, здаровая эканоміка — вось хто ўрэшце прыме парад суверэнітэтаў і аб'явіць яго вынікі, яго заканчэнне.

**Валерый ЛАПІН.**

Фотаздымкі Эдуарда **ЛАПІНА** і Аляксандра **ШАБЛЮКА**.

## ДЭПУТАЦКАЯ ТРЫБУНА

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА,**
**народны дэпутат БССР,**
**дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна**



# ВЯЛІКІ ПЕРАДЗЕЛ!

Палітыка палітыкай, а вясна зноў да нас — уладна і неадольна, як жыццё, як новае нараджэнне. Забыцца б нам на ўсе спрэчкі, сцішыць галасы, напаленыя ды ўзвінчаныя да крыку, і чакаць, як свайго першынца, гэтага ўсеадольнага абуджэння, і дагаджаць яму, і радасна разумець кожны рух. Мы ж каторае дзесяцігоддзе тузаем зямлю, як няўмелая і нядобрая павітуха, навыперадкі хвалімся інтэлектамі, тужачыся растлумачыць, чаму бяднеем і на хлеб, і на шчодрасць душэўную. Ды таму, што за гады ўсемагчымых эксперыментаў развучыліся разумець простую логіку Жыцця і Хлеба. Забыліся, што зямля — жывая, што дырэктывамі і нават самымі правільнымі лозунгамі ёй не дапаможаш, як не забароніш загадам нараджэнне, калі прыйшоў яму час. Ці не такі час — абуджэння здаровага сэнсу — прычакалі мы? Ці гатовыя нашы душы і рукі да новай сяўбы?

Пішу гэтыя радкі і ўспамінаю наш парламент, тыя гарачыя дні яго работы, калі вырашаўся лёс зямлі, вызначаўся яе гаспадар. Успамінаю — і ў сэрцы расце трывога: ці не здрадзілі мы ў чарговы раз зямлі, вёсцы і селяніну? Ад самай страшнай бяды — абязлічкі — зямлю зможа выратаваць толькі гаспадар, які ведае, што яна належыць яму і яго праца будзе спаквала ацэнена. І мне было смешна (а найбольш усё ж — горка) слухаць, як сур'ёзныя быццам бы людзі страшылі — варта, маўляў, дазволіць куплю-продаж... А хто нам перашкаджае стварыць такі прававы механізм, які зямлю абароніць ад нячыстых рук?

У тыя дні, калі вырашаўся лёс зямлі, прыхільнікі і праціўнікі крайняй пазіцый ледзь не за грудкі браліся. Больш актыўнымі, на жаль, аказаліся тыя, хто супраць. Скрозь шквал спасылак на патрабавальныя тэлеграмы з працоўных калекты-

ваў, якія нібыта не жадаюць нават слухаць аб прыватнай уласнасці і продажы зямлі, толькі зрэдку прабіваліся галасы апанентаў. Але кожную нясмелую спробу гаварыць па сутнасці тут жа захліствваў вал ідэалагічных пастулатаў накшталт: «прыватная ўласнасць — гэта ўжо не сацыялізм», «У Канстытуцыі няма ні слова аб прыватнай уласнасці», «Нашы дэпутаты-дэмакраты хочуць зрабіць з селяніна батрака...»

Многія дэпутаты — камуністы з наменклатурнай абоймы, як бравым шчытом, прыкрываліся рашэннямі XXXI з'езда Кампартыі Беларусі, які адназначна выказаўся супраць прыватнай уласнасці на зямлю, а дэкрэтаваў раўнапраўе ўласнасці: дзяржаўнай і калгасна-кааператыўнай. Але ж аб якім раўнапраўі можа весціся гаворка, калі прыватызацыя ігнаруецца? З'езд выказаўся за рыначныя адносіны. Але ж, наколькі мне вядома, цывілізаваны рынак, побач з канкурэнцыяй, прадпрымальніцтвам, прымае і прыватную ўласнасць. У такім разе, як можна галасаваць за адно, адмятаючы другое? Логікі не бачу.

Глядзіце, што мы зараз маем. Валодаючы гіганцкімі масівамі ўгоддзяў у розных, у тым ліку самых спрыяльных рэгіёнах, маючы багаба́яцца наёмнай працы. Яна даўно існуе на Захадзе, і ніхто яе там не збіраецца адмяняць. Я ўжо не бяруся параўноўваць здабыткі амерыканскага батрака і калгасніка нават самага хвалёнага магілёўскага калгаса. Перавага будзе далёка не на нашым баку.

Зноў і зноў перачытваю «Кодэкс Беларускай ССР аб зямлі» і думаю: ці зможа ён змяніць сітуацыю ў сельскай гаспадарцы, а праз яго і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы? Рыхтуючы дакумент, планавалі, што ён дапаможа перавярнуць існуючую на вёсцы прыгонніцкую, феадальную сістэму. Селянін жа сёння заняволены не проста эканамічна. Каманднa-адміністрацыйная сістэма кіравання сельскай гаспадаркай прымушае яго нават думаць так, як хоча кіраўнік. Я непасрэдна працую з людзьмі, гутару з імі і бачу: яны да гэтага часу баяцца выказваць свой пункт гледжання, асцерагаючыся рэпрэсій з боку, як яны нас называюць, «удзельных князёў і феадалаў». Гэта страшная, ненармальная сістэма, якая стварыла армію гультаёў, лайдакоў, падзёншчыкаў, якая стрымлівае імкненне працавітай часткі сялянства да высокапрадукцыйнай працы... І цяперашні Кодэкс аб зямлі, законы аб уласнасці, арэндзе і іншыя

І тут я цалкам згодны з пісьменнікам Б. Мажаевым, які ў «Правде» пісаў: «Для міністэрстваў і ведамстваў арандатар — магільшчык. Дай яму волю — дык і саўгасы з калгасамі запросяць гэтую ж волю, гэта значыць, рынак, а не разнарадку, спушчаную зверху. А чым жа тады займацца ім, патомным чыноўнікам? У калгас ісці? Зямлю араць? Нарожданы кіраваць — працаваць не можа»...

Дзе ж выхад?— спытаецца чытач. Закон Беларускай ССР «Аб арэндзе» не дае адказу на гэтае пытанне. Думаю, што такую форму трэба развіваць, аддаваць арандатарам зямлю з правам далейшага яе наследавання. А ў рэшце рэшт трэба прадаставіць кожнаму жадаючаму працаваць на зямлі права ўласнасці на яе. А ці выкарыстае ён яго і як павядзе справу — яго воля. Інакш ад нашых «клопатаў» аб ім ён, селянін, хутка зусім прападзе.

Праўда, многіх палохаюць вынікі дзейнасці арандатараў, маўляў, яны ж будуць вырошчваць ці гадаваць толькі тое, што можна выгадна прадаць, што дорага каштуе. У такім разе з паліц магазінаў могуць знікнуць танныя, але неабходныя нам прадукты. Думаю, што такія апаскі беспадстаўныя, бо ўсе эканамічныя адносіны будзе рэгулябольш ускладніць сітуацыю.

Мясцовым Саветам, а менавіта яны зараз распараджаюцца зямлёю, трэба асабліва паклапаціцца аб тых, хто вяртаецца да родных аселіц. Бо сёння, наколькі мне вядома, замест таго, каб ухапіцца за новыя магчымасці разам з адміністрацыяй гаспадарак, у многіх Саветах да гараджан настроены варожа. Па іх разуменню, хай лепш прападуць, згніюць, сатруцца з твару зямлі гэтыя землі, а гараджаніна, які мог бы іх акультурыць, не пусцім. Мысленне застойных часоў!

Укараненне арэндных форм на зямлю, фермы, тэхніку — справа вельмі цікавая. Баюся толькі, што жадаючых акажацца недастаткова, бо прамысловасць выпускае адны магутныя «Кіраўцы», якія душаць на сваім шляху, як кажуць, усё жывое і мёртвае. Матаблокі Мінскага трактарнага завода — рэдкасць у продажы. А малагабарытныя трактары накшталт «Т-20» ні за якія грошы не дастаць. Які ж сэнс, скажам, пускаць «Дон» ці «Ніву» на збожжавае поле ў 5—10 гектараў? Няўжо наша магутная індустрыя не здольная стварыць для сельскай гаспадаркі малую тэхніку? Выпускае ж яна інструменты для рок-музыкі, аснашчае спорт і турызм. А жыхар вёскі, як і сотні гадоў на-

# ВЯЛІКІ ПЕРАДЗЕЛ?

тыя традыцыі хлебаробства, беларуская вёска марнее ўвачавідкі. І гэта бачаць легіёны чыноўнікаў, лжэнавукоўцаў, для якіх зямля — гэта ўлада, бязбеднае існаванне. Аддаць зямлю сапраўдным гаспадарам яе — значыць прыблізіць свой палітычны крах. Вось і ўчапілася гэта баявая раць за яе, прыкрываючыся інтарэсамі людзей і клопатамі аб іх.

Чаму так атрымалася? Думаю, што не абышлося без апаратных гульняў. Бо, як вы ведаеце, многія кіраўнікі пастаянных камісій — былыя партапаратчыкі, і яны прынеслі стыль партыйнага кіраўніцтва ў горшым выглядзе ў парламент. І знайшлі падтрымку многіх сучасных аграрнікаў.

Сёння часта можна пачуць: прыватная ўласнасць большасць сялян ператворыць у наёмных работнікаў, батракоў. Быццам пужаем адзін аднаго... Ну, скажыце, калі ласка, хіба я, дырэктар саўгаса, не ўласнік? Хіба не памешчыкі — старшыні калгасаў? Такія ўладанні, якія зараз у нашых руках, памешчыкам і не сніліся. Але мы ўласнікі ў асобе дзяржавы. І батракі ў нас ёсць, гэта — рабочыя і калгаснікі. У іх нічога няма, акрамя сваіх рук, ды зрэдку такой-сякой хаткі. Усё астатняе — наша, кіраўнікоў гаспадарак. Дзяржава наняла нас, мы нанялі рабочых. Гэта толькі ў песні: «усё вакол маё...». Яе, не задумваючыся, маглі спяваць рамантыкі накшталт Алёшы Касцянка з шамякінскіх «Крыніц». На справе ўсё далёка не так. Тысячы іх равеснікаў так і не адчулі радасці свабоднай працы, таму што яна была прымусовай. І я ўпэўнены: пакуль мы не замацуем права чалавека валодаць зямлёю і пладамі яе — мы не будзем сытна есці. І дзяцей сваіх не накормім. Нельга павінны былі б яе зламаць.

Што ж, шкада, канечне, што беларускі парламент адхіліў прыватызацыю, у тым ліку і на зямлю. Я яшчэ ў самым пачатку сесіі гаварыў, што многія дэпутаты пакуль не гатовы маральна да такога кроку, таму і дэбаты распачынаць не трэба. Так яно і аказалася. Але я не трачу надзеі: праз два-тры гады нам прыйдзецца вярнуцца да гэтага пытання. Жыццё прымусіць!

Зараз шмат гаворыцца і пішацца пра арэнду і арэндныя адносіны. Але я мяркую, арэнда на вёсцы не прыжывецца. Не прыжываецца. Мяркуйце самі. Ва ўмовах ураўнілаўкі пры тым раўнадушшы да грамадскай уласнасці, якое раз'ядае людскія душы, раптам з'яўляюцца людзі клапатлівыя і працуюць не па гадзінах, а столькі, колькі патрэбна, атрымліваючы толькі заробленае. Якая будзе рэакцыя астатніх? Пачнецца расслаенне сялян, выявяцца прыхільнікі, праціўнікі, нейтралы. Вопыт паказвае: праціўнікаў шмат, і яны розныя. Гэта і мясцовыя гультаі, і так званае сярэдняе звяно, і канторшчыкі-рахункаводы, якія закліканы забяспечыць усім неабходным арандатара. Ды і раённыя чыноўнікі не надта песцяць чалавека энергічнага і тым больш крытыкана. Дастаткова толькі ўспомніць архангельскага мужыка Сіўкова.

У нас пакуль некалькі фермераў. Землі ім аддалі «панскія», самыя ўрадлівыя. Дапамагаем ім, як можам. Але што мы можам? Звычайнага цвіка днём з агнём не знойдзеш. У магазінах — хоць шаром пакаці: ні шыферу, ні дошак, ні цэменту. На дзяржаўныя базы шлях арандатарам закрыты. Вось і круцяцца яны, як вавёрка ў коле: ні выхаднога, ні прахаднога.

ваць рынак. Напрыклад, я вырошчваю збожжа, яно даражэйшае за бульбу, але дзяржаве патрэбен «другі хлеб». І яна стварае для мяне такія ўмовы, каб мне выгадна было займацца бульбай. Зноў чую голас свайго ўяўнага апанента: ты будзеш мець прыбытак, а мне ў горадзе твая бульба ў капейку абыдзецца. І тут зноў нас можа выручыць зямля. Калі кожнаму, хто пажадае, даць па кавалачку яе, цэны на сельгаспрадукты ўпадуць.

Інакш кажучы, сваю палітыку дзяржава павінна вызначыць так, каб вытворцам было выгадна прадаваць, а спажыўцам выгадна купляць. Інакш мы ўступім не ў рэгулюемы рынак, а яшчэ глыбей залезем у дрыгву, з якой ужо самім не выбрацца.

Я разумею, што накарміць народ можна, толькі адрадзіўшы селяніна — працаўніка. Ён павінен адчуць сябе гаспадаром, творцам. А ён стане такім тады, калі яму волю, свабоду дзеянняў даць. Калі не панукаць, не павучаць, як араць, што сеяць, і не стаяць над душой з чарговым указаннем.

Сяляне пакідалі вёску, таму што не маглі працаваць на зямлі ва ўмовах дыктату. Але сёння многія хацелі б вярнуцца, узяць свой кавалачак зямлі і апрацоўваць яго. А што наш Кодэкс? «Іншым грамадзянам», як запісана ў ім, можна атрымаць участкі толькі з зямель запасу, а ў Беларусі такіх зямель сёння няма... Праўда, кодэкс прадугледжвае стварэнне спецыяльных фондаў з малапрадукцыйных, нявыкарыстаных зямель і г. д. Дык што ж, мы тым, хто хоча працаваць на зямлі, каб напоўніць прылаўкі магазінаў, прапануем балоты, няўдобіцы? Мяркую, калі гэты кодэкс пачне працаваць, ён яшчэ зад, вымушаны касіць касою, капаць зямлю на агародзе рыдлёўкай.

І ўсё ж, як бы там ні было, а перабудаваць вытворчасць прасцей, чым перабудаваць свядомасць. Большасць жа нас са школьнай парты засвоілі, што вышэйшым нашым дасягненнем у сельскай гаспадарцы з'яўляюцца калгасы. Усе іншыя тыпы гаспадарак менш эфектыўныя і нават антысацыялістычныя. А між тым яшчэ ў 20-я гады многія спецыялісты сумняваліся ў правільнасці такой пастаноўкі. Вяліся гарачыя дыскусіі. Але былі спынены адміністрацыйным вокрыкам. Прыярытэт калгаснай догмы стаў афіцыйнай догмай.

Вядома, сёння не ўсім проста задушыць у сабе гэтую догму. Куды лягчэй пераканаць сябе ў тым, што раздача зямлі — гэта рэстаўрацыя дробнабуржуазнага укладу ў вёсцы. Але ці ёсць аснова так лічыць? Думаю, няма. Бо індывідуальныя сельскія гаспадаркі базіруюцца толькі на асабістай працы. Ды і ніхто не ставіць задачы адмовіцца ад калгасна-саўгаснага варыянта. Фермеры, арандатары павінны не замяняць калектыўныя гаспадаркі, а дзейнічаць з імі паралельна. Складаць карысную працоўную канкурэнцыю ў інтарэсах спажыўцоў.

Мяне могуць папракнуць: аўтар галасуе за прыватную ўласнасць, а сам як ні ў чым ні бывала камандуе саўгасам. Але паспрабую вас расчараваць. Справа ў тым, што я саўгас развалію. Так-так, саўгаса як такога ўжо тры гады як не існуе, а ёсць аб'яднанне арэндных кааператываў «Гарадзец». Скажаце: былі ўжо калектывы інтэнсіўнай працы, цэхі раслінаводства і жывёлагадоўлі, цяпер вось кааператывы прыдумалі. Сапраўды, чым мы толь-



кі не здзіўлялі селяніна. Калі ўспомніць гісторыю, то, мабыць, ніводная галіна не цярпела столькі рэарганізацый, як сяло. Для тых многіх наватарскіх эксперыментаў характэрнымі былі стыхійнасць, адсутнасць адзінства звенняў вытворчага працэсу. Але самае галоўнае — з яго выпадаў сам творца багацця — Чалавек. Яго як бы і не існавала. Тон задавала адміністрацыйна-камандная сістэма. Вось і дакамандаваліся. То тарфагнойнымі гаршчочкамі, як шапкамі, закідвалі Еўропу, то «каралеву» палёў цягнулі ажно на Крайнюю Поўнач. То пачыналі няспынную меліярацыю — і імгненна засольвалі ворыва. То абсякалі агароды вяскоўцаў амаль да самых «шпакоўняў» за хлявом... І ўпарта не слухалі, не чулі палымяных галасоў Валянціна Авечкіна, Георгія Радава, Фёдара Абрамава, Васіля Бялова, Віктара Казько, Алеся Жука... А яны першымі забілі ў званы — сялу пагражае небяспека.

Што ж датычыцца кааперацыі, то гэта справа не новая. Аб ленінскім плане яе на вёсцы проста забыліся. Наша гістарычная навука замоўчвае тое, што яшчэ да рэвалюцыі ў Расіі была створана магутная кааператыўная сістэма. Па апублікаваных у друку даных, на 1 студзеня 1917 года налічвалася да 63 тысяч кааператываў, якія аб'ядналі 24 мільёны членаў-пайшчыкаў. Я лічу, што, калі б кааператыўнаму руху не перашкодзілі «зверху», вёска лёгка, без натугі забяспечыла б краіну не толькі прадуктамі харчавання і сыравінай, але і працоўнымі рэсурсамі. У нас жа адбылося ўсё наадварот.

Аднак вярнуся да сваёй гаспадаркі. Арэндны кааператыў уяўляе сабой 1000 і больш гектараў зямлі з жывёлагадоўчай фермай у цэнтры. Зямля і жывёлагадоўля цесна звязаны. Іх нельга раздзяляць. Гаспадарыць тут 10—12 механізатараў, 18—20 жывёлаводаў, некалькі паляводаў. У кожнага арэнднага кааператыва, а іх пакуль тры, ёсць разліковы рахунак у банку. Ім застаецца ўвесь даход ад рэалізацыі прадукцыі палёў і ферм. Кіруюць кааператывамі старшыні. Са спецыялістаў у штаце — загадчык фермы і бухгалтар. Ні я, ні галоўныя спецыялісты ў іх работу па дробязях не ўмешваемся, ім дадзена поўнае самастойнасць і свабода дзеяннаў.

Чым, спытаецеся, займаюцца спецыялісты. Выконваюць пасрэдніцкія функцыі, а дакладней выступаюць у ролі кансультантаў. Галоўны інжынер, напрыклад, распрацоўвае тэхнічную палітыку гаспадаркі і адказвае за яе, галоўны аграном — забяспечвае стабільнасць і рост ураджаяў. Іх роля зараз не дзвальвавана, як хтосьці лічыць,— наадварот, яна стала больш значнай, бо нацэлена на перспектыву. Заключэнне дагавораў, размеркаванне дзяржзаказу, вывучэнне рынку, пошук сродкаў для кааператываў — усё гэта на сумленні спецыялістаў. Дарэчы, іх у нас усяго 13. Чатыры гады назад было 76. І, ведаеце, скарачэнне не адбілася ні на ўраджайнасці, ні на прадукцыйнасці ферм. Наадварот, гаспадарка — адна з самых стратных у рэспубліцы — стала прыбытковай, зараз у банку 2,5 мільёна рублёў свабодных грошай. Будуем шмат жылля, дарогі, добраўпарадкоўваем вёскі.

Аб вопыце работы нашай гаспадаркі ў друку не раз расказвалася, таму не буду паўтарацца. Скажу толькі, што мы прайшлі шлях ад калектываў інтэнсіўнай працы да арэндных кааператываў з разліковым рахункам у банку. Складаным быў гэты шлях. І не толькі таму, што не адчувалася падтрымкі зверху. Ён быў цяжкім таму, што арандатараў прыходзілася «ляпіць» з падзёншчыкаў, з тых, каго задавальняла прывольнае жыццё. Прыемна бачыць, што людзі прачынаюцца.

У мяне пытаюцца часта, а ці не адчуваю я ціску з боку раённых улад: як-ніяк, стварэнне арэндных кааператываў — удар па сістэме. А на мяне ў апошні час і няма каму ціснуць. Райком партыі зараз не лезе ў гаспадарчыя справы, а ад паслуг РАПА мы даўно адмовіліся. Нашы рабочыя так заявілі: не будзем карміць 60 чыноўнікаў. Спецыялісты раённага аграпрамысловага аб'яднання не правяраюць, не кантралююць «Гарадзец». Свае недахопы мы самі бачым, і ліквідаваць іх ніхто, апроч нас, не здолее. Карацей кажучы, адбыўся развод па-гарадзецку — не ведаю, як той бок, а мы адчуваем сябе нармальна. Кааператыўная форма гаспадарання прыжываецца, і я веру, што за ёй — будучыня.

Вось кажуць: сорамна за вёску. Не ведаю, як каму, а мне ад гэтых слоў становіцца не па сабе. Не сорамна павінна быць, а балюча! Не вёска павінна ў тым, што яе давялі да бездані. Успомніце, кожнае ведамства брала з сяла сваё. Асвета закрывала пачатковыя школы, гандаль — магазіны паўсядзённага попыту, медыцына — фельчарска-акушэрскія пункты, бытавое абслугоўванне — свае прыёмачныя пункты... У выніку дзяржаве прыйшлося раскашэлівацца мільёнамі: рэзка скарацілася вытворчасць прадуктаў харчавання, а вёска старэла, развальвалася, дэфармаваўся ўклад жыцця.

Настаў час у селяніне адрадзіць сялянскае, павярнуцца тварам да яго клопатаў, болі, надзеі. Самае балючае пытанне — стварэнне інфраструктуры. З-за бездарожжа, напрыклад, мы трацім фантастычную колькасць прадукцыі. Няма патрэбы называць лічбы. Хочацца асабліва падкрэсліць, што раструсаем не толькі збожжа, бульбу, буракі, а нешта большае... Нашым жанчынам хочацца абуць туфлі ці модныя боцікі, прайсціся па чыстым і роўным тратуары. А яны большую палову года вымушаны не здымаць кірзачы ці гумовікі. І механізатар, і жывёлавод хочуць прыйсці пасля работы ў цёплую кватэру, прыняць душ, каб змыць з сябе непрыемны пах, а пасля ўключыць газавую пліту, хутка згатаваць вячэру для сям'і.

Аб сацыяльных гранях сяла гаварыць можна доўга. І калі мы хочам яго адраджэння і росквіту, трэба спачатку стварыць нармальныя ўмовы жыцця сялянам. Гэта выкліча прыток свежых сіл. Людзі розных прафесій і талентаў павінны пасяліцца ў вёсцы, інакш яна ніколі не стане прэстыжнай. Скажу больш: перагібы, якія вялі да знішчэння вёсак, асабліва неперспектыўных, не выпраўляюцца. І не толькі па віне адміністратараў. Іх, як ні дзіўна, падтрымліваюць і многія вядомыя нашы важакі калгаснага і саўгаснага руху, якія бачаць будучае сяла накшталт райцэнтра — шматпавярховым, бетонна-каменным, індустрыяльным. Што ж, хай будуць і такія аграпасёлкі. Але ж адно другому не павінна перашкаджаць.

Разам з тым я далёкі ад думкі, што сучасная вёска павінна поўнасцю капіраваць гарадскі быт. Не, трэба захаваць непаўторнасць жыццёвага ўкладу па рэгіёнах, зберагчы ўсе нацыянальныя бытавыя асаблівасці ў абласцях і раёнах.

Пазбегнуць стандарту ў жыллёвым будаўніцтве. Пяціпавярховыя карабкі не тое што не ўпісваюцца ў сельскі пейзаж, яны нязручныя для пражывання. Сялян цягне ў дамы сядзібнага тыпу. Да свайго агарода, невялічкага хлеўчука. Будучыня, усё ж, я ўпэўнены ў гэтым, за вёскай, якая патанае па вясне ў кіпені садоў, за ваколіцай якой гамоніць лес, квітнеюць палі і лугі.

Мы сталі разумець, што роля нашай вёскі не абмяжоўваецца і ніколі не абмяжоўвалася ў мінулым толькі пастаўкай збожжа, мяса, малака і іншых прадуктаў на падкормку горада, як гэта да нядаўняга часу лічылася. Яна, да таго ж, захавальніца маралі, народнага мастацтва, крыніца сіл і энергіі. Чаму ў вёсцы меней разводаў? А таму, што там усе на вачах. Пайшла, скажам, дзяўчына гуляць з хлопцам, а раніцай уся вёска ведае: з кім і куды хадзіла, калі вярнулася.

Таму нельга гэтыя крыніцы засыпаць, а, наадварот, іх трэба чысціць, берагчы. І вёска адплаціць нам спаўна: выгадуе і выхавае яшчэ не аднаго У. Калянёнка і П. Клімука, М. Танка і В. Быкава, С. Станюту і М. Савіцкага.

І калі ў духоўна-маральным сэнсе горад супрацьпастаўляюць вёсцы — гэта бязглуздзіца. У селяніна было і застаецца сваё разуменне культуры — увайсці ў хату, зняць шапку, перахрысціцца... Гэта яснае разуменне дабра, зла, граху, справядлівасці — тое, што заўсёды было ў мужыка. Тое, чаго так часам не хапае чалавеку нават з інстытуцкім дыпламам. У селяніна гэта ўнутраная культура ішла ад маральных, духоўных асноў яго жыцця, ад культуры земляробчай працы, якая мела і свае паэтычныя формы: святы, кірмашы, зажынкі, дажынкі...

З часоў язычніцтва чалавек адухаўляў прыроду, успрымаў яе як нешта жывое: сам жывы, і дрэва жывое. У славян зямля — святая істота, «маці-карміцелька», ёй пакланяліся, ёй спавядаліся, каяліся. І ці далёка мы прайшлі наперад, вылучыўшы жудасныя лозунгі накшталт такога: нельга чакаць міласці ад прыроды, узяць іх — наша задача. Нельга дапусціць, каб і далей парушалася экалогія прыроды і экалогія духу. Нельга і далей адлучаць селяніна ад зямлі. Трэба аддаць яе яму. І калі селянін адчуе, што гэта надзейна і надоўга, калі ён вернецца да зямлі, як да часткі свайго «я», то гэта будзе перш за ўсё духоўнае ачышчэнне і абнаўленне.

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА і Віктара ДРАЧОВА.**

# АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ 20-Х ГАДОЎ



## Наталля АРСЕНЬЕВА
(н. 1903 г.)

Паэтычнае імя Наталлі Арсеньевай цяпер усё больш прываблівае тых, каму дорага беларускае мастацкае слова, беларуская культура. У нашай «Анталогіі» публікацыя яе вершаў рыхтавалася яшчэ ў 1988 годзе, але не адбылася па незалежных ад складальніка і рэдакцыі прычынах: на токое імя, як Наталля Арсеньева, працягвала існаваць вета. Аднак немагчыма далей адмяжоўваць ад Бацькаўшчыны тое, што натуральна ёй прыналежыць, а творчасць Н. Арсеньевай прыналежыць Беларусі, яна ад пачатку да канца напоеная духам і мовай Беларусі, цалкам прысвечана ёй. Той-сёй схільны бачыць ва ўчынках і творчасці паэткі перыяду Вялікай Айчыннай вайны (Н. Арсеньева жыла ў гэты час у акупаваным Мінску, працавала ў дазволенай пры немцах «Беларускай газэце», выдала ў 1944 г. кнігу паэзіі «Сягоння») здрадлівыя адносіны да радзімы, аднак ці справядліва гэта, дый з якімі крытэрыямі тут падыходзяць тыя, хто судзіць! Для заходнебеларускай паэткі Н. Арсеньевай радзіма ў яе сталінскім разуменні, як вялізны імперскі СССР з тэрорам і гвалтам, не існавала. Для яе існавала адна толькі Бацькаўшчына — Беларусь. Куды магла падзецца Н. Арсеньева? Эвакуіравацца на Усход! Дык яна толькі перад самай вайной здолела вызваліцца з казахстанскай ссылкі, куды была вывезена ў 1940 годзе пасля арышту нкусаўцамі. Заставалася жыццё на акупаванай радзіме. Так, яна не змагалася з ворагамі — з нямецка-фашысцкімі акупантамі,— але і не дапамагала ім. Пасля вайны Н. Арсеньева эмігрыравала. Жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. У нашай публікацыі мы знаёмім чытача з вершамі Н. Арсеньевай 20-х гадоў. Гэта ранні перыяд яе творчасці, які ўвянчаўся выхадам у 1927 г. у Вільні паэтычнай кнігі «Пад сінім небам». Вершы ўзяты з гэтай кнігі і з публікацый ў заходнебеларускай перыёдыцы 20-х гадоў. Выпускніца Віленскай Беларускай гімназіі (1921 г.) і вучаніца Максіма Гарэцкага, які высока ацаніў і блаславіў у друк яе першыя вершы, Наталля Арсеньева імкнулася ў сваіх творах перадаць імгненныя ўражанні, пачуцці, настроі, адлюстраваць зменлівы стан душы, плынь унутранага быцця. Вельмі багатая вобразна-выяўленчымі сродкамі, дасканалая ў мастацкіх адносінах лірыка Н. Арсеньевай, думаецца, будзе цёпла і прыхільна сустрэта чытачом, раскрые для яго невычарпальную глыбіню і прыгажосць роднага беларускага слова.

Ірына БАГДАНОВІЧ,
кандыдат філалагічных навук.

### *Толькі ўчора...*

Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі
І вясеньняе сонца зямлю цалавала,
А сягоньня ўжо нудна жаўцеюць лісты,
А сягоньня ўжо восень бязмала.
Толькі ўчора, здаецца, пралескі цьвілі
І у шоўк прыбіраліся новы бярозы,
А сягоньня ўжо яблыкі з дрэваў зьнялі,
І па шклу плывуць восені сьлёзы.
Толькі ўчора, здаецца, над мглістай ракой
Салавей заліваўся, а мы там сядзелі,
А сягоньня ўжо поўнае сэрца тугой,
Быццам шчасьця ў жыцьці мы ня мелі...



Недаверчыва ноч падыходзіць,
Штосьці слухае... дух пераводзіць...
Цішыня... цішыня... цішыня...
Лёгкай мглой абвязаліся вулкі,
Гоман места вялікі і гулкі,—
Зьнік з апошнімі косамі дня.
Ў небе зоры сьмяюцца праз сьлёзы,
І хоць ліпы дрыжаць на марозы,
А сьмяюцца чагось і яны.
Дык няўжо ж нас жыццё так зваліла,
Што ня знойдзем хаценьня і сілы
Усьмяхнуцца праз сьлёзы і мы?..

### *Восень*

Як ня любіць мне восень залатую,
калі праз вопратку асін густую
тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,
і ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?

Як ня любіць мне восень залатую,
калі на ніву зжатую, пустую
ліецца ўначы, як малако, туман
і павучыньне скрозь на хмызьняку палян.

Як ня любіць мне восень залатую,
як ня любіць мне частку году тую,
калі я веру ўсім, калі душа гарыць,
і хочацца так век, хоць сумаваць, а жыць...

## *Красавік*

Неба сіняе, сіняе, сіняе
Зямля будзіць ад доўгага сна...
Адусюль смутна-пекнай княгіняю
Пазірае спакойна вясна.
На узгорку кусты пахіляюцца,
Ветрык лашчыцца, штось ім пяе...
Тут — з пралескай пралеска сплятаецца,
Сірацінкай фіялка цьвіце,
Там — бялеюць званочкі нясьмелыя
Нейкіх кветак вясеньніх, а там...
Там яшчэ краскі, жоўтыя, белыя,—
Дар вясны зарунеўшым лясам.
Як тут ціха, ні шуму, ні клопату,
А ні думак, ні смуткаў няма.
Я ня чую душы, яе ропату,
Бачу толькі, што ўсюды вясна!
І нічога саўсім не жадаецца,—
Ні каханьня, ні сьветлых мінут,
У душы маёй штосьь абрываецца,
Штосьь нячутна канае..., а тут...
Тут фіялкі цьвітуць цёмна-сінія,
Ветрык дыхае пахам вясны...
Адусюль яна пекнай княгіняю
Сее новыя сьветлыя сны.

◆

Дрэвы абсыпаліся... Золата й фарбы
Крыюць зямлю дарагім дыванам.
Поўныя жмені лістоў тых узяў бы,
Восенным сплёў бы іх пышным вянком.
Таюць хмурынкі у небе высока,
Хвалі тумана над Вільняй вісяць,
Места раскінулась нізам, далёка,
Вежы касьцёлаў у неба глядзяць.
Цэркваў блішчаць залатыя галовы,
Цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,
Сіняй палоскаю бор той хваёвы
Ледзьве віднее за стужкай Вяльлі...
Чуюцца, чуюцца восені словы
Ў фарбах, паўтонах лісьця і нябёс,
У лёгкім дрыжаньні бярозаў бяз мовы,
Ў сьвежасьці льдзістай, што вецер прынёс.

◆

Калі гараць агнём чырвоныя асіны
І морам залатым лясістыя лагчыны
Здаюцца ў ясны дзень.
Калі калыша клён пажоўклыя галіны...
І на палі, лясы, як тонкія тканіны,
Кладзецца сіні цень...
Калі увечары у захада пажары
Плывуць крывавай чарадою хмары
І месяц устаець,
З сабою ведучы начныя цуды-мары
І косы з срэбра льець на нівы і пажары,
А ночка, ноч ідзець...
Калі губляюцца ў паветры гулы-шумы
І зьнекуль устаюць, маўляў, чужыя думы,
А дум сваіх няма...
Тады — плывуць у даль, зьнікаюць жыцьця сумы,
Душа губляецца у ласках тэй задумы,
Што тчэ вузоры сна...

## *Вячорнаю парою*

Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,
чыстым золатам густа залоціць рабіны,
— і здаецца паветра густым і зялёным,
бы вада у вазёрах, зялёных ад ціны.
Гаснуць косы на вежах гатыцкіх касьцёлаў,
запаляючы шыбы дзіўнымі агнямі.
Зоры — вочы малых засмучоных анёлаў —
мігацяць у хмурынах, парвaных над намі.
Час таёмны, ня ноч, ані дзень, калі сьцені,
сьцені ночы зьліваюцца з косамі сонца,
калі хочацца раптам устаць на калені
і стаяць так, бяз руху, маўклі́ва, бясконца...
Ў гэты час аджывае у думках старое,
ўспамінаюцца даўныя сэрца хваробы...
І так лёгка душою — вячорнай парою —
зразумець сьвету сумы, сумлевы й жалобы!

**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



# ЛІСТЫ З ЗЭЛЬВЫ



*Колькі гадоў ужо захоўваю я лісты ад нашай незабыўнай Ларысы Геніюш.*

*Быў 1968 год. Пры дапамозе і клопатах Еўдакіі Лось я перавялася з Львоўскага універсітэта ў БДУ, але, прыехаўшы ў Мінск, адразу ж сутыкнулася з цяжкасцямі, для студэнткі амаль катастрафічнымі. Не было стыпендыі, не было месца ў інтэрнаце. Доўгі час жыла, як кажуць, «зайцам», бліжэй пазнаёмілася і пасябравала з Жэняй Янішчыц. Праз знаёмага студэнта-фізіка і першакурсніцу філфака перадала ў Зэльву ліст Ларысе Геніюш. І адразу ж атрымала адказ. Так пачалася наша перапіска не па пошце. Цяпер вельмі шкадую, што некаторыя з тых лістоў не ўцалелі ў студэнцкім вэрхале інтэрната. І ўсё ж з таго, што зберaглося, выраўшыла цяпер аддаць у друк два лісты, з якіх, як мне здаецца, бачыцца паэтэса ў сваім няпростым штодзённым побыце тых гадоў. Дазваляю сабе вывесці з тэкстаў толькі тыя моманты, якія тычацца развагі пра маю асабістую творчасць і некалькі таямніц, адносна якіх сама Ларыса Геніюш пісала: «Але гэта між намі».*

**Валянціна КОЎТУН.**

Зэльва, 9 VI, 68 г.

Бэйбі!

Усё яшчэ памятаеце пра мяне?

О, darling! Я вельмі, вельмі часта думаю аб Вас і аддаю Вас пад апеку маіх сяброў, а Вы не рады! Бачыце, Валя, на мяне глядзяць, як на чорта, як на бунтара, і «свецяць» на кожнага, хто нават піша мне! Я перастаю пісаць усім сваім сябрам дзеля іх уласнага спакою: пішу адно Прашковічу, няхай ужо яго «лупяць» да канца! Нават М. Танк, нават Сяргей П. і той мне не піша. О, малое, воля Вашà, пішыце, я буду адказваць, але калі «паспавядаюць» Вас без прычыны пару разоў, дык што тады? Мне не вельмі цікава пісаць, бо пішу не тое, што хацела б Вам напісаць, што бурліць у сэрцы. Вам менавіта хацелася б сказаць аб гэтым усім. І так, Валя, буду Вам пісаць асцярожна, шкадуючы Вас. Няхай будзе так, як Вы хочаце! Жыццё маё труднае. Летам не магла напісаць з той простай прычыны, што забылася нават, як пяро трымаецца ў пальцах: былі дзеці, унукі і шмат гасцей. Ніхто ніколі нават талерачкі не вымыў! Зварыць, купіць, прыбраць, памыць, дагледзець унукаў (гэта адзіная радасць!), прыняць гасцей, забаўляць іх, уладзіць усе хатнія спрэчкі, дагледзець кветкі, гарод, сабаку і чатыры пакоі: кухню і панадворак — усё толькі мая справа! Усе ў нашай сям'і «паны», «хворыя», падлягаюць настроям — я вол! Калі б Вы мяне бачылі ў той час, Вы не маглі б загневацца. Ад'ехалі ўнукі (былі месяц), і я захварэла. Ужо з тэмпературай 39° вярнулася з Гродна, куды іх праводзіла. Пачаліся новыя госці, варэнне, смажанне, загатоўка гуркоў, памідораў і кампотаў на зіму. Не было дня без гасцей, апустошылі да рэшты маю голаў, бо ж іх нават «маляваць» ім трэба! Я не кажу пра «сваіх людзей», такіх гасцей я люблю, але вось іншых, з якімі гутарыш і баішся, альбо правакатараў, якіх так і відно, хто падаслаў! О, Валя, былі б Вы бліжэй да мяне! Як Ваша будучая кніжка, што напісалася новага за гэты час? — у мяне нічога няма, літаральна нічога! Нават хата не пабелена! Збіраю сілы, каб заламаць усё асінаю ды недзе ўцячы хоць на тыдзень. У дадатак да ўсяго прыехала да нас Паўліна Мядзёлка. Цудоўная старэйшая дзяячка, якая ўжо з ходу пастанавіла (аднабока!) дажываць у нас сваё жыццё, адразу паведамляючы, што ўвесь час яна халасцячка і нічога рабіць не ўмее!

Што там мая работа, гэта глупства! Але вось праблема дыеты, выгодаў, цяпла і г. д. Як узяў мяне страх, што не спраўлюся! Нагаворвала я (напалову!), што, пэўна, паедзем да сына ў Польшчу. Тады мая госця паехала ў Менск, у шпіталі знайшла М. Танка, недзе Я. Брыля і ўгаварыла іх пасласць мяне з ёю на адзін месяц у Караліщчавічы ў адзін пакой! Пісала, што Брыль (мудра!) радзіў ёй лепш два пакоі асобныя дзеля творчасці. Але муж аслабеў, я катэгарычна адмовілася ад гэтай госці! Мілая Паліна Вікенцьеўна напісала ўжо такога ліста, што за Сталіна мяне, напэўна, яшчэ раз пасадзілі б. Абвінавáціла ў тым, што я супроць камунізму і не веру ў яго жыватворныя ідэі!.. Ледзь я нейк даказала мілай госці, што я не супроць. Аказалася, што ёй цяжка без мяне жыць і г. д. Цяпер П. М. у Маскве, піша мне чулыя лісты (........) Я надта нячулы на ўсе гэтыя прызнанні чалавек! Наогул мяне ўзварушваюць толькі пацалункі Міхасіка і Алесіка і іх рыцарскасць! Алесік (3 годзікі) усё пытаўся: «Ці любеця мяне, баба Ларыса? — Я вас любу... любу...»

Шчыра памагалі мне абодва выціраць посуд,

што білася — усё было для шчасця нашае гутаркі. Міхасік (10 гадоў): «Бабусенька, а ў вас ногі белыя, як у маладой жанчыны (суседка заходзіцца ад смеху!), але вось чаму ў вас віскі сівыя, лепш вы іх памалюйце, як робіць гэта баба Юля (нявесткіна маці), я так хачу, каб вы былі маладая». А днём у нас былі цікавыя падарожжы ў крамы.

Што мы ні купялі! А чаго ў нас ні было?! Два коцікі, кролік, сабака. А што значыў для Алесіка агонь, якога ён не бачыў! «Баба Ларыса, дзе ён падзеўся (той агонь, бабусенька, дзе ты адкручвала кранік!»). Ён глядзеў не адрываючыся на цуда-агонь і радаваўся з яго як першабытны чалавек! Вось мая вялікая любоў і меншая да капрызнага дзеда Івана Пятровіча + уся рэшта для маіх сяброў! П. В. вельмі паважаны чалавек, але гэта ўсё мне зусім не патрэбна для творчасці. Наадварот. За мною сочаць, на мяне выдумваюць усякія немагчымасці, мяне каб маглі — разарвалі б са злосці... Жыву рэшткамі нерваў і толькі думаю, як зладжыць рэштку жыцця на алтар Радзіме...

Ваш кожны ліст дарагі і сягодні патрэбны мне, але ж думайце, дзіця! Хопіць Вам безрассуднай адвагі?! — пішыце! Што з Лучукамі? Ад іх няма ні слова. Вы нічога не чулі?... Валя, аб галоўным не пішу, хоць Людзе даваряю, дзяўчо, мне здаецца, добрае. Усё ж можа не трэба пісаць нам таго, што ў крыві, у запавеце нясу! О, Валя, Вам не здаецца, што Вы адна? Мяне не палохае нават гэта! Як хочацца бачыць мужнасць у беларусаў!!

Жадаю поспеху з дыпломам!

Прыйшла Люда і Валя Белянко (суседка), мыюць падлогу, а я Вам пішу. Такі іх загад сёння! Чую, шчабечуць дзве гаспадынькі, а я так рада! Людку даю Вам пад апеку. Дзіця трэба весці, накіроўваць. За нешта крывіцца на яе Юрка Голуб, запытайце ў яго, што ён ад дзяўчыны хоча? Думаю, што з яе будзе толк...

Калі б бачылі Разанава і Ярца, дык скажыце ім, што вельмі іх паважаю, што трэба наперад, бо адступаць ужо няма куды! Скажыце ім, што гэта цудоўны і зусім не цяжкі шлях быць змагаром за права, за долю свайго народа! Я кажу гэта з практыкі. Я ніколі не шкадавала жыцця для Радзімы і хацела б жыць для яе яшчэ вечнасць, бо надта многа трэба зрабіць. У іх мяне захапляе:

> Смелы голас, шляхотны парыў,
> Вернасць Маці, адзінай і роднай.
> То Кастусь ад світальнай зары
> Запаліў юных сэрцаў паходні.

Дык у добры час! Быў бы цуд, каб Вы калісьці ўтраіх мяне адведалі. Я ў гэта веру!!!

Пішыце мне асцярожна, ці ўсё ў парадку, ці нічога не грозіць.

Скажыце, каб яны ўжо заўсягды былі і заставаліся мужчынамі і змагарамі. Розум не залежыць ад лет! З ім радзяцца, каб змагацца.

Як хораша, што ёсць на свеце такія юнакі! Валя, дык даручаю Вам Людку, шліфуйце яе! Няхай пакуль што вучыцца. Мне здаецца, што ў ёй задаткі стойкасці і шляхотнасці, а гэта важна!

Сёння шэры дзень, я ўсё змагаюся з тэмпературай, з мяшчанствам асяроддзя, з рупасцю свайго мужа... Ці я ўсё гэта вытрымаю — не ведаю! Часам здаецца — за такое жыццё — лепш... Не, так нельга! Трэба жыць яшчэ вечнасць. Ці нічога не чутно ад Жыдліцкага? Ці ўжо ён крыху размаўляець па-беларуску? Што казаў аба мне — толькі шчыра, Валя!

Мне іх да чорцікаў жаль, але зайздрошчу іх вялікай еднасці народнай і такой сусветнай, цудоўнай рэкламе! Нам бы загаманіць! Што Вы на гэта? Ага, darling, дашлём прывітанні сябрам нашым. Вас шчыра цалую. Пішэце, малая, а наогул да сустрэчы!

Зэльва, 25 IV 71 г.

Дарагія мае сяброванькі!

Перадусім віншую мілую Жэню з тым, што яна цяпер член СПСБ. Жадаю посьпяху ў працы. Жадаю бачыць ясна жыццё, мэту жыцця свайго і жыцця Народу і адпаведна хораша, велічна, шчыра пісаць. У гмаху бел. літаратуры быць выдатнай залатой цаглінкай.

Цалую, маленькая, шчыра абнімаю. Дай, Божа, «наперад лепей», як у нас кажуць.

Валя, дзякую, што не забылася пра мяне. Што да лістоў мне, дарагая, дык не ведаю, што Вам сказаць. Вы — любоў мая, і ліст ад Вас для мяне радасць, але ядзяць мяне поедам. Хопіць, каб чалавек пару разоў зайшоў у нашую хату, як ён ужо гэта так ці інача непрыемна адчуе.

Мне, акрамя радасці, нічога не будзе за гэта, але што будзе Вам? Да слёз хочацца пабачыцца з Вамі. Жонка Міхася Зарэцкага, мая сяброўка па тундры і г. д., запрашае мяне ў Менск. Я абяцаю прыехаць. Калі прыеду, можа сустрэнемся. Я чула, што Вы працуеце. Вам цяпер напэўна лягчэй. Усю зіму хварэў муж. Яшчэ ён працуе, але ледзь ходзіць. Пенсіі яму прызналі 34 рб. 5 кап.

На нас дваіх. Гэта ёсць прычына, для якой ён працуе. Усё гэта некім прадумана, адпаведна заплянавана. Нічога. Нам, мне асабіста і гэта не страшна.

За столькі абразаў і здзекаў над сабою я ўжо не магу тут болей пісаць ці друкавацца. І не таму, што хто хацеў, той пляваў мне ў твар, выдумоўваючы несусветнае, а таму што на ўсёй вялікай Беларусі ўздоўж і ўшыр не знайшлося ні аднаго чалавека, які б хоць маленькім жэстам, хоць словам сказаў недругам, што так нельга... Усе аднячасова і баязліва перасталі пісаць мне. Апрача Дануты Бічэль. Смешна і страшна. Таму дзякуй Вам, што ўспомнілі, а Жэні, што не баялася, студэнтачка родная, павіншавацць мяне і на 60 гадоў. Мае папрокі не да вас, Дзеці. Яны для дарослых, сталых. Я Вам дзякую за ўвагу да мяне, але ёсць у нас найважнейшае — гэта зямля наша, нашая літаратура. Усё, што робіце, дык рабеце, выходзячы толькі з дабра гэтых двох фактараў!

Таму, можа, пішыце мне як найменей. Прызнаюся, цяпер, покуль туман рыжы і едкі не спадзе з вачэй дурныя!..

Цалуем Вас з мужам удваіх і жадаем усяго найлепшага.

**Ларыса ГЕНІЮШ.**

**Просьбу Ларысы Геніюш, выказаную ў першым з працытаваных лістоў, мы — Алесь Разанаў, Віктар Ярац і я — выканалі: неяк восенню таго ж 68 года, калі на філфаку нашага БДУ поўным ходам ішла кампанія асуджэння «нацыяналістаў», калі перад камсамольскім сходам мне, нядаўняй львоўскай студэнтцы, крычалі ў твар мае ж беларускія аднакурснікі: «Дадзім гэтым беларусам! Яшчэ чаго не хапала! Захацелі лекцый на беларускай мове!» Памятаю той дзікі камсамольскі сход-судзілішча, калі супроць Алеся Разанава прагаласавалі амаль усе. Хацця яго, Алеся, нават не запрасілі на той сход. Вось у тую пару мы і паехалі да Ларысы Геніюш. Сышлі з цягніка сярэдначы, дачакаліся раніцы і нарэшце асмеліліся пастукаць у акно. І вось радасныя абдымкі, запрашэнне хутчэй снедаць, вясёлыя вочы гаспадароў. Гэта былі два дні ўспамінаў паэтэсы пра ўсё, што прычакала яе на цяжкой жыццёвай дарозе, гэта былі незабыўныя гадзіны паэзіі. Яна чытала новыя вершы, паказвала свае фотакарткі. І — частавала. Бедным студэнтам, нам здаваліся невераемна смачнымі яе марынаваныя грыбы ды памідоры.**

**Помню, доўга яшчэ згадвалі мы ў Мінску гасціннасць і талент — як паэтычны, так і талент гаспадыні!**

**Такой і запомнілася мне Ларыса Антонаўна Геніюш — дачка народа, «з рабра наднямонскіх рабін»!**

**Другі раз пабачыліся мы ўжо недзе праз гадоў пяць, на з'ездзе пісьменнікаў — і доўга, доўга гаварылі...**

Афармленне Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

*Перапіска*

# ЧАКАЕМ БЕЛАРУСКІХ АРТЫСТАЎ

Мы, ленінградцы, шчыра радуемся кожнай новай сустрэчы з беларускімі артыстамі. У лістападзе — снежні мінулага года Ленінград сустракаў «Песняроў». Разам з імі мы адзначылі дваццацігоддзе гэтага знакамітага калектыву. За два дзесяцігоддзі праз ансамбль прайшлі многія таленавітыя музыканты, але сёння асабліва хочацца сказаць добрае слова пра тых маладых хлопцаў, якія першымі прыйшлі ў ансамбль: Уладзімір Мулявін, Леанід Барткевіч, Аляксандр Дзямешка, Анатоль Кашапараў, Валерый Яшкін, Валянцін Бадзьяраў, Леанід Тышко і па сённяшні дзень аддзаны свайму выбару і свайму калектыву Уладзіслаў Місевіч.

Я і мае сябры шмат гадоў сочым за творчасцю гэтага яркага і самабытнага калектыву. За гэты час на музычным небасхіле з'явіліся і зніклі дзесяткі новых ансамбляў, а «Песняры» і па сённяшні дзень радуюць нас сваёй творчасцю. І ў гэтым вялікая заслуга нязменнага кіраўніка ансамбля Уладзіміра Мулявіна. Яркі, арыгінальны музычны почырк, яго мэтанакіраванасць у выбары жанру сцэментавалі вакальна-інструментальны ансамбль у калектыў, якому, на мой погляд, сёння няма роўных у Саюзе.

Нягледзячы на тое, што сённяшні склад ансамбля абноўлены, калектыў застаецца верным сваім традыцыям. Немагчыма не захапляцца майстэрствам Ігара Пені і Валерыя Дайнекі, віртуоза-ўдарніка Уладзіміра Бяляева і гітарыста Аляксандра Растопчына. Хочацца пажадаць маладым музыкантам поспеху і папрасіць іх не пакідаць ансамбль, дзе ярка раскрыўся іх талент, зазіхацеў новымі гранямі.

Сапраўдным святам стала для ленінградцаў і сустрэча з Яраславам Еўдакімавым. Шмат гастралюючы па краіне і за яе межамі, Яраслаў доўгі час абыходзіў Ленінград. І вось урэшце пад скляпеннямі вялікай канцэртнай залы «Кастрычніцкая» загучаў яго голас, які, без перабольшвання можна сказаць, ведаюць і любяць ва ўсіх кутках нашай краіны. Яраслаў спяваў нашы любімыя песні і прадэманстраваў не толькі цудоўныя вакальныя даныя, але і вялікі талент эстраднага артыста. Несумненна, ён зараз знаходзіцца ў росквіце свайго таленту. Будзем спадзявацца, што першае яго наведванне Ленінграда стане пачаткам доўгай дружбы.

Пра тое, што ленінградцы палюбілі Яраслава, сведчыць перапоўненая зала і бітком набіты, гатовы абваліцца балкон на ўсіх шасці канцэртах артыста. Але, на жаль, такіх шчаслівчыкаў, якім пашчасціла трапіць на канцэрт, было ўсяго пятнаццаць тысяч на ўвесь шматмільённы горад. Няхай Яраслаў улічыць гэта і ведае, што мы з нецярплівасцю чакаем новай сустрэчы з ім.

Гэтаксама мы рады будзем сустракаць іншых беларускіх артыстаў у сваім горадзе.

З глыбокай павагай

**Вольга ЕМЯЛЬЯНАВА,**
Ленінград.

*АД РЭДАКЦЫІ: далучаемся да шчырых і цёплых слоў у адрас нашых любімых артыстаў і віншуем кіраўніка «Песняроў» Уладзіміра Мулявіна з прысваеннем звання народнага артыста СССР. Жадаем плёну ў творчасці і добрага здароўя!*

# Іван Антонавіч

ЗЕМЛЯКІ



У дарозе я і Брыль. Словы злеплены ў сказы, сказы — у думкі. Янка Брыль, як заўсёды, дасціпны, мудры, шчымліва-светлы. Дарога з ім мне ў радасць. Іван Антонавіч і не здагадваецца, што ягоная кніжка «На сцежцы — дзеці» ўжо некалькі гадоў вандруе з газетным фотакарэспандэнтам, і ў кожнай камандзіроўцы ў ёй з'яўляюцца новыя адзнакі. Каб аб'ехаўшы Беларусь, вярнуцца да аўтара і падарункам, і падзякай, і памяццю.

Наперадзе яшчэ шмат сцежак, дарог і мясцін, дзе бываў некалі гэты цікаўны да ўсяго пісьменнік і дзе яшчэ не паспеў пабываць адзін з яго шматлікіх чытачоў.

Я вандрую з Брылём, і гэты зялёненькі томік, у якім сабрана так многа цеплыні і любові да Бацькаўшчыны, сагравае мяне ў дарозе. На жаль, я мала фатаграфаваў самога Івана Антонавіча і дагэтуль не парадаваў яго сваёй працай, як ён мяне — сваёй.

Я вандрую з Брылём, таму што ён вандруе са мной. Мы не дамаўляліся. Ягоная кніжыца павінна заўсёды ляжаць у сумцы з фотаапаратамі і аб'ектывамі. Гэта даўняя неабходнасць, якую я сам не магу растлумачыць. Даты і назвы, накрэсленыя на шмуцтытуле, нагадваюць мне многае — і незабыўных людзей, і незабыўныя мясціны. Брылю яны скажуць многае... Вось адзнака ў Ветцы, дзе жылі яго цудоўныя сябры Дзмітрый Кавалёў і Рыгор Шкляраў. А гэтую паставіў у Ваўкавыску, дзе Брыль быў разам з Уладзімірам Караткевічам. А той надпіс зроблены на гасціннай Петрыкаўшчыне... А на лугавінах і сцежках каля хуткацечнай Шчары, каля векапомных дубоў кожны з нас пакінуў надзею калі-небудзь вярнуцца назад.

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.

Адам МАЛЬДЗІС

# РЫМСКІ ДЗЁННІК

(Працяг. Пачатак у № 2.)

Зважаючы на сустрэчу, усе, хто выступалі на пасяджэнні пасля абеду, мусілі скараціць свой час. Па той жа прычыне даклады Анатоля Грыцкевіча («Уніяцкія тэндэнцыі і уніяцкая царква ў Беларусі XV—XVIII стагоддзяў») і мой («Францішак Скарына як пасрэднік у збліжэнні хрысціянскага Усходу і Захаду») не выклікалі пытанняў і палемікі. Закранутую ў іх праблематыку працягнуў толькі пасол польскага сейма Уладзімеж Мокры з Кракава. Ён жа абвясціў, што ў Ягелонскім універсітэце ствараецца фундацыя святога Уладзіміра, якая будзе дбаць і пра беларусістыку, пра стыпендыі для беларускіх святароў.

У васемнаццаць гадзін усе мы выходзім з будынка і ідзём вузенькай вуліцай да аўтобуса, які не змог пад'ехаць бліжэй і спыніўся на перакрыжаванні, блакіраваўшы рух з усіх чатырох бакоў. Дзесяткі шафёраў неміласэрна сігналілі, крычалі, жэстыкулявалі, а мы пад гэты акампанемент хуценька займалі свае месцы, баючыся, што ўсё гэта дрэнна для нас скончыцца. Праўда, гаспадары супакойвалі, што такая экспансіўнасць шафёраў у Рыме — звыклая з'ява і што ўвогуле яны добразычлівыя. Ажно і праўда: даведаўшыся, хто мы і куды едзем, шафёры з такім жа імпэтам выскачылі са сваіх машын і сталі рукамі пераносіць чужыя, запаркаваныя так, што яны перашкаджалі нашаму аўтобусу выехаць з «корка». Мінут праз дзесяць мы пачалі пакрысе рухацца, а праз паўгадзіны былі на велічнай плошчы святога Пятра, над якой узвышалася галоўная каталіцкая святыня. Пераступіўшы сімвалічную мяжу дзяржавы Ватыкан, мы, не даходзячы да сабора, скіраваліся ўправа, у рэзідэнцыю папы.

Пры ўваходзе ў рэзідэнцыю нас сустрэлі папскія гвардзейцы, апранутыя ў старадаўнюю сіне-жоўта-чырвоную «швейцарскую» уніформу і велізарныя берэты-капелюхі. Паколькі ў сённяшнім неспакойным свеце многа тэрарыстаў, мы чакалі, што будзе самая строгая праверка. Аднак ніхто нас не абшукваў, не патрабаваў дакументаў. Гвардзейцы толькі зухавата «засалютавалі» нам сваімі завостранымі зверху алебардамі. І мы, узняўшыся на ліфтах, пайшлі доўгімі калідорамі, упрыгожанымі карцінамі і скульптурамі. Па дарозе беларусы правялі невялікую нараду: каму лепей сказаць папе пра бядоты каталіцкага касцёла на нашай зямлі. Большасцю ўсклалі гэтую нялёгкую ношу на мяне.

І вось мы ў вялікай прыёмнай зале. Святло люстраў адбіваецца ў светлым мармуры падлогі. Уздоўж сцен — шафы з аднолькава пераплеценымі кнігамі. Нас папярэджваюць, што папа сёння вельмі заняты ў сувязі з будучым падарожжам у Мексіку. Таму на гаворку з кожным у яго літаральна хвіліны. Выстройваемся вялікім паўкругам і напружана чакаем. Нарэшце раздаюцца апладысменты: у дзвярах справа паказваецца невысокая постаць наступніка першаапостала Пятра, апранутага ў белае адзенне і белую шапачку (белы колер, як вядома,— увасабленне духоўнай чысціні). Па чарзе папа падыходзіць да кожнага, паціскае руку, кожнаму знаходзіць адпаведнае слова. Калі чарга даходзіць да мяне, ад імя беларусаў уручаю яго святасці энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына», коратка гавару пра юбілей вялікага Палачаніна, які турбаваўся пра тое, каб народ меў слова Божае на зразумелай яму мове. На жаль, Скарынавы традыцыі далёка не заўсёды знаходзяць варты працяг. У сённяшніх беларусаў-католікаў мала сваіх пастыраў, па сутнасці, няма сваіх патронаў, якімі маглі б стаць ксёндз Фабіян Абрантовіч, сябар Купалы, ці паэт Казімір Сваяк. Папа адказвае, што ён ведае пра беларускія праблемы і што паступова яны будуць вырашаны, у сваю чаргу задае пытанні, якія сведчаць пра выключную кампетэнтнасць у нашых справах. Услед за мною Вячаслаў Вярэніч уручае папе энцыклапедычны даведнік «Этнаграфія Беларусі»; адбываецца зацікаўленая гаворка пра Палессе. Нашу занепакоенасць лёсам беларусаў-католікаў падзяліла, як я потым даведаўся, таксама прафесар Смулкова. У развітальнай прамове папа ўскосна вярнуўся да гэтай праблемы, прыгадаў, што адразу ж пасля ўступлення на апостальскі трон ён прамаўляў не толькі па-польску, але і па-літоўску, па-беларуску, па-ўкраінску, хаця гэта таго-сяго шакіравала. У кожнага з чатырох народаў ёсць свае, нацыянальныя святыні.

Выходзілі мы, моцна ўражаныя чалавечнасцю, «даступнасцю», высокім інтэлектам папы Яна Паўла II, першага славяніна на ватыканскім троне.

## 2 мая

Ранішняе пасяджэнне пачалося з таго, што ўкраінцы ўручылі гаспадарам, а таксама нацыянальным дэлегацыям першыя тамы сваёй літаратурнай спадчыны, выдадзеныя ў рамках так званага «Гарвардскага праекта ў гонар тысячагоддзя хрысціянства на Русі-Украіне». Увесь «Корпус украінскай дасекулярнай творчасці» ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя («Энеіды» І. Катлярэўскага) будзе складацца з трох серый па сорак тамоў кожная. У першую серыю ўвойдуць творы на «старарускай, сярэдне-ўкраінскай, лацінскай і польскай мовах» у арыгінале (фотатыпічным паўтарэнні рукапісу або старадруку). У другую — тыя ж творы ў перакладзе на англійскую мову, трэцюю — у перакладзе на сучасную ўкраінскую мову. Першая і другая серыі выдаюцца ўкраінскімі эмігрантамі ў Гарвардзе (ЗША) з агульнымі затратамі каля трох мільёнаў долараў. Трэцяя — Інстытутам літаратуры імя Т. Шаўчэнкі ў Кіеве. З зайздрасцю (а чаму мы не можам вось так?) аглядаю раскошна выдадзеныя тамы з творамі нашых «супольных» пісьменнікаў — Мялеція Смятрыцкага, Льва Крэўзы, Захарыя Капысценскага. Потым знаёмлюся з праспектам усяго выдання. «Кірыл Тураўскі»... Ну, няхай: гэта агульны перыяд, наша пагранічча... А вось «Сімяон Полацкі»... Хаця ён і вучыўся ў Кіеве, але да ўкраінскай літаратуры прамога дачынення не мае. Дзе той Полацк... Гавару пра гэта з пэўнай крыўдай у голасе. А мяне не зусім разумеюць: маўляў, у беларусаў нейкі комплекс непаўнацэннасці; маўляў, сказалі б дзякуй, што выдаём... Адказваю, што Сімяона Полацкага сёлета мы выдаём таксама, прытым даволі поўна — і рукапісную спадчыну. Гэта мяняе танальнасць гаворкі. Прыходзім да вываду, што том, прысвечаны Сімяону Полацкаму, найлепей рабіць супольна!

Абмеркаванне «Гарвардскага праекта» працягваю з Зорай Кіпель. Яна прапануе сумеснае выданне скарбаў беларускай літаратуры «залатога веку», якім слушна лічыцца XVI стагоддзе: мы рыхтавалі б тэксты ў Мінску, а друкаваліся б яны ў Нью-Йорку, з фінансавай дапамогай эміграцыі. Горача падтрымліваю гэтую ідэю, хаця і разумею, што малавата ў нас канкрэтных выканаўцаў. Уся надзея на моладзь.

На сённяшнім пасяджэнні з вуснаў літоўскага гісторыка Грыцкявічуса даведаўся, што ўсе беларусы-католікі — гэта абеларушаныя літоўцы, доказам чаго з'яўляецца мая асоба, бо малда — гэта малітва, модлы. Я ж парыраваў удар напамінам пра тое, што пасля ліквідацыі уніі многія беларусы прынялі не праваслаўе, а каталіцкую веру. Такім чынам, калі я, не скрываю гэтага, з роду абеларушаных літоўцаў, то мой апанент, мяркуючы па прозвішчу (бо мы маем і свайго ж Грыцкевіча), літуанізаваны беларус! На тым і разышліся.

Іван Драч сёння з болем гаварыў пра тое, што куды часцей, чым рускія, у ролі русіфікатараў на Украіне выступаюць самі ўкраінцы, асабліва ва ўсходніх абласцях. Мне ж падумалася: а хіба ў нас не так?

А на «начным» пасяджэнні, пасля дзевяці вечара, прафесар Норман Дэвіс з Англіі спрабаваў глянуць на нашы балячкі збоку. Наша «дэзінтэграцыя» здавалася яму трывожным сімптомам. Бо ўся Еўропа, увесь свет ідзе да інтэграцыі. І агульная мова павінна быць — руская або польская... На гэта прафесар Джон-Поль Хім-



ка, украінец, які жыве ў Амерыцы і лічыць сябе марксістам, саркастычна заўважыў: а хто мне дакажа, што польская «патэльня», якая тут часам прапануецца, будзе лепшай, чым «маскоўская»?! Услед прагучала яшчэ адно пытанне: можна аднесці былую Рэч Паспалітую да ліку імперый ці нельга?! Удзельнікі канферэнцыі ўвогуле ставяць пытанні (часам правакацыйныя) часцей, чым даюць на іх адказы.

## 3 мая

На ранішнім пасяджэнні з дакладам пра польскія гаворкі на савецкай тэрыторыі выступіў наш Вячаслаў Вярэніч. Даследаваў ён іх на грамадскіх пачатках, пры неспрыяльных адносінах улад. Але імкнуўся быць аб'ектыўным. Прысутныя прыходзяць да вываду, што сабраныя В. Вярэнічам звесткі вельмі прыдадуцца для супольнага сацыяльна-этна-лінгвістычнага атласа, які рыхтуецца ў Люблінскім універсітэце.

Айцец Іван Дацко з Рыма звярнуў увагу прысутных на рукапісныя дзённікі літоўскага грамадскага дзеяча Мікаласа Ромерыса, раскіданыя па ўсім свеце. Пісаны яны не толькі на літоўскай мове, але і па-беларуску, па-польску. Многа ў іх звестак, якія непасрэдна датычацца Беларусі і беларускай культуры.

Пасля абеду сёння пасяджэння не было, і Янка Мойсік, беларус з Беласточчыны, цяпер супрацоўнік беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё, адвёз нас на сваёй машыне ў цэнтр горада — на корса Віктара Эмануэля. Адтуль мы паўз руіны палаца рымскіх імператараў, арку Канстанціна па каменных плітах, выслізганых яшчэ нагамі легіянераў, дайшлі да Калізея, велічнага нават у сваім разбурэнні. На трыбунах няцяжка ўявіць якога Нерона, што прагне крыві мучанікаў, самазадаволеных патрыцыяў. Арэна «раскрыта», і пад ёй відаць змрочныя хады, памяшканні для гладыятараў, хрысціян і дзікіх звяроў. Здаецца, заткні вушы, каб не чуць шматмоўнага гоману турыстаў, засяродзься — і пачуеш ваяўнічае: «Хлеба і відовішчаў» — тое самае, што загубіла магутную Рымскую імперыю і можа загубіць наша грамадства, калі мы будзем такімі ж сляпымі і жорсткімі ў сваёй бездухоўнасці.

Зрэшты, тым, хто паедзе ў Рым і будзе аглядаць Калізей, не раю асабліва засяроджвацца, а больш зважаць на цыганят з Сербіі, якія літаральна атакуюць турыстаў: адзін суне пад вочы кавалак газеты, другі шчыкае за левую руку, а трэці лезе ў правую кішэню... Добра, што «ўнутраны голас» падказаў мне пакласці ў партманет самую «дробязь»: кошт якіх двух гальштукаў у фешэнебельным магазіне. Ды што там цыганяты — куды небяспечней іх маці, што з немаўлятамі на руках і ненавісным бляскам у вачах ідуць на прамы «таран» у кішэню. І толькі тое, што нас было чацвёра, паўстрымала іх ад завяршэння агрэсіі.

— Нічога не заплаціў за ўваход у Калізей, то мусіў аплаціць выхад з яго,— падцвельваюць нада мной калегі.

Назад ідзём праз мост святога Анёла, на якім расселіся негры, прапануючы турыстам свае экзатычныя вырабы, міма сярэдневяковага замка на плошчу святога Пятра, каб агледзець сабор усярэдзіне. Галоўная каталіцкая святыня ўражвае сваімі памерамі (на падлозе адзначана, наколькі яна большая за іншыя еўрапейскія кафедральныя храмы). Чалавек у гэтай велізарнай прасторы неяк губляецца, адчувае сваю мізэрнасць у параўнанні з вечнасцю... У саборы найперш падыходзім да месца, дзе захоўваюцца мошчы святога Пятра, а потым агледзелі надмагілле над труной Іасафата Кунцэвіча.

На зваротным шляху зайшлі на колькі хвілін да Янкі Мойсіка, у беларускую рэдакцыю Ватыканскага радыё. І зноў ніхто нас не спыніў, не праверыў дакументы. Агледзелі мы некалькі студый, добра абсталяваных, бібліятэку. Янка Мойсік паскардзіўся, што сюды з цяжкасцю паступаюць мінскія выданні.

На «начным» пасяджэнні, пасля вячэры, была запланавана сустрэча з пісьменнікамі — Васілём Быкавым, Іванам Драчом, Чэславам Мілашам, Томасам Венцлавай. Але паколькі Быкаў (як і Венцлава) не прыбыў, мяне папрасілі мінут на дваццаць расказаць пра яго творчасць. Выступаючы, падкрэсліў нацыянальную і агульначалавечую каштоўнасць гэтай творчасці, яе сусветнае прызнанне. Іван Драч, працягваючы гаворку, таксама адзначыў выключную чысціню і сумленнасць Васіля Быкава. Апладысменты выклікаў верш украінскага паэта «Літоўская пагоня ад Максіма Багдановіча». Згадваў пра Беларусь і беларусаў таксама Чэслаў Мілаш. Аказваецца, у 30-я гады віленскі ваявода Бацянскі яго звольніў з работы на радыёстудыі за тую «правіну», што туды запрашаліся «чырвоныя» беларускія хары, у тым ліку хор Шырмы. Чэслаў Мілаш прачытаў таксама верш, навеяны ўспамінамі пра тое, як ён дзіцём яшчэ згубіўся ў Оршы ў 1918 годзе, калі разам з бацькамі вяртаўся з бежанства (я папрасіў тэкст гэтага верша, каб Рыгор Барадулін пераклаў яго на беларускую мову). Адказваючы на пытанні, лаўрэат Нобелеўскай прэміі перасцерагаў як ад недаацэнкі нацыянальных каштоўнасцей, так і ад нацыяналізму, які робіць край правінцыяльным. На лёс усходніх славян ён глядзіць аптымістычна. Паколькі на Захадзе вялікія спусташэнні зрабіў Чарнобыль маральны (Дастаеўскі і Ніцшэ прадбачылі гэта), то сталіцы свету могуць перамясціцца: у XIX стагоддзі ёй быў Парыж, а ў XXI можа стаць Кіеў, Мінск або такі Бярдзічаў...

## 4 мая

Дыскусію за «круглым сталом» сёння пачаў прафесар Даніель Бавуа. Ен адзначыў, што як француз ён можа глядзець на нашы праблемы з пэўнай «дыстанцыі», аддаваць перавагу «універсалізму». Бо цяпер пайшла «вялікая мода на малыя айчыны», у выніку чаго шмат рэанімавалася старых утопій і міфаў, шмат узнікла новых. Вядома, міфы ці стэрэатыпы часам патрэбныя, але нельга іх прымаць за рэальнасць. Добра, калі нацыя і нацыянальнае знаходзяць сваё выяўленне ў патрыятызме, дрэнна — калі ў нацыяналізме. Прафесар Бавуа выказаў шкадаванне, што руская мова часам выкарыстоўвалася на канферэнцыі для кпінаў. Таму што прадстаўнікі рускага народа таксама вельмі розныя, і трактаваць Расію як «імперыю зла» сёння будзе анахранізмам. У заключэнне прамоўца заклікаў пісаць новую гісторыю ўсіх чатырох народаў — з пункту гледжання правоў чалавека.

Некаторыя тэзісы Данієля Бавуа выклікалі пярэчанні. Прафесар Анджэй Камінскі з Вашынгтона перасцярог, што нельга ўсе нацыі мераць адной, «універсальнай», меркаю, бо яны знаходзяцца на розных ступенях развіцця. Скажам, беларусы, якім многа трэба зрабіць, каб дагнаць іншых. Ёсць прымаўка, што брэтонская карова худзейшая, чым французская, бо першая шчыкае толькі брэтонскую траўку, другая ж — па ўсёй Францыі. Так і з беларускай нацыянальнай «каровай»: траўку яна есць са сваёй здзірванелай нівы, малако ж, аднак, дае пераважна небеларускае... Прафесар Ісаевіч таксама абараняў нацыянальныя мовы і культуры — без іх няма плюралізму. Агульнаеўрапейская супольнасць не прадугледжвае нівеліроўку («амерыканізацыю») культур. Аднолькава патрэбны і універсалізм і партыкулярызм, бо адзін з іх не можа існаваць без другога.

У абед адбылася першая прэс-канферэнцыя (да гэтага арганізатары нашай сустрэчы наклалі вета на ўсе магчымыя інтэрв'ю). У цэнтры ўвагі быў Іван Драч, якога толькі што прыняў Старшыня Савета Міністраў Італіі Джуліё Андрэоці. Задаваліся пытанні і беларусам. У прыватнасці, журналісты цікавіліся, ці мае уніяцтва на Беларусі такія ж перспектывы, што на Украіне, і ад чаго яны залежаць. Я адказаў, што ў многім залежаць ад таго, як праваслаўнае і каталіцкае веравызнанні будуць «паварочвацца» да беларускіх нацыянальных праблем.

Маркіза Ванда Гаўроньска і графіня Інакалата Саляра дэль Борджа, адгукнуўшыся на заклікі беларусаў, сёння прывезлі нам тры карабы з полівітамінамі і лякарствамі для дзяцей, што захварэлі пасля чарнобыльскай катастрофы. Мы абяцалі перадаць лекі ў гематалагічнае аддзяленне Першай мінскай бальніцы.

А вечарам беларусы сабраліся на вечарыну на кватэры ў Янкі Мойсіка. Паколькі там налічылі трох беларусаў-рымлян, рашылі стварыць мясцовую суполку таварыства беларускай мовы. Потым пад'ехала чацвёртая — дачка былога дырэктара Віленскага беларускага музея Мар'яна Пецюкевіча. Яна выйшла замуж за італьянца, жыве тут, здаецца, нябдага, але сумуе па радзіме. Калі я ёй сказаў, што мы збіраемся апублікаваць рукапісныя ўспаміны яе бацькі, яна стала шкадаваць, што раней, пры жыцці, не заўсёды разумела і падзяляла яго беларускі патрыятызм.

## 5 мая

Настаў час падсумоўваць вынікі канферэнцыі. Нягледзячы на міжнацыянальныя спрэчкі і нават сваркі, на ёй усё ж быў зроблены істотны крок да паразумення паміж прадстаўнікамі культур чатырох суседніх народаў. Здаецца, усе прызналі, што кожны з іх мае неаспрэчнае права на ўласнае бачанне сваёй гісторыі, сваёй будучыні, што памыляцца ў іх ацэнках можа не толькі твой сусед, але і ты сам. Што ж датычыцца будучыні, то на яе найлепей «працуюць» не гучныя заклікі, а канкрэтныя справы. На канферэнцыі мы дамовіліся пра некалькі з іх: супрацоўніцтва ў падрыхтоўцы сацыяльна-рэлігійнага атласа, сумеснае выданне часткі нашай спадчыны, абмен бібліяграфічнай інфармацыяй.

Дзеля працягу нашага супрацоўніцтва на заключным пасяджэнні быў выбраны рабочы камітэт, куды ад беларускіх вучоных увайшлі Валянцін Грыцкевіч, Вітаўт Кіпель і я. Наступную такую канферэнцыю рашылі правесці праз два гады і прысвяціць яе палітыцы Ватыкана на беларуска-літоўска-польска-ўкраінскіх землях.

Паколькі дзень сёння выдаўся адносна свабодны, пахадзіў па вуліцах Рыма, пераканаўся, што ён сапраўды знаходзіцца на «сямі ўзгорках». Пабываў на каларытным рынку, заглянуў у магазіны. Рынак тут насычаны таварамі, аднак цэны — паводле курсу рубля і нават долара — вельмі «кусаюцца». Адчуваюцца інфляцыйныя працэсы, якія, праўда, у апошні час удалося прыпыніць. Да прыкладу, кошт білета ў метро — 600 лір, у той час як рубель прыраўноўваецца да 200 лір, долар — да 1200 лір.

## 6 мая

У сувязі з завяршэннем канферэнцыі намеснік дырэктара Польскага інстытута хрысціянскай культуры ксёндз Стэфан Выленжэк адслужыў з раніцы імшу ў капліцы. Адпраўляюць яе тут пановаму: духоўнік увесь час звернуты тварам да вернікаў. У канцы ксёндз Стэфан прапанаваў усім прысутным паціснуць узаемна рукі.

Па дарозе ў аэрапорт (адвозіла нас мікраартобусам энергічная манашка) мы развіталіся поглядам з «вечным» горадам, якому наканавана было стаць калыскай еўрапейскай цывілізацыі.

Афармленне Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



Каѳедральный Іосифовскій соборъ въ г. Могилевѣ губ.

# ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ У РЫШТАВАННЯХ





## БОЛЬ АЙЧЫНЫ

Пра мінулае Магілёва, пра яго помнікі — тыя, што захаваліся, і тыя, што страчаны — можна было б расказваць доўга. Гэта тэма аб'ёмістай кнігі. Вельмі шкада, што кніга такая дагэтуль не напісана. Між тым разбураліся помнікі даўніны тут з бязлітаснай паслядоўнасцю.

Больш за ўсіх шкада сабора Святога Іосіфа, які быў знішчаны ў трыццаць восьмым. Напалоханыя рэпрэсіямі людзі не мелі магчымасці заступіцца за храм: усякая спроба выступіць у абарону даўніны, помнікаў культуры кваліфікавалася не інакш як імкненне адрадзіць «стары рэжым». Людзьмі кіраваў страх, яны хацелі застацца жывымі. І заложнікамі гэтага іх натуральнага жадання стаў сабор — у яго прасвідраваныя сцены быў закладзены дынаміт.

А гэта ж менавіта ён, гэты сабор, на працягу паўтараста гадоў увасабляў твар горада!

Яго ўзвялі па загаду Кацярыны II, у гонар яе сустрэчы з аўстрыйскім манархам Іосіфам II. Праект сабора, распрацаваны зяцем Дзяржавіна Мікалаем Львовым,— асобай даволі вядомай на Беларусі, калі прыгадаць слаўгарадскую царкву,— быў адзначаны на спецыяльным конкурсе ў Пецярбургу першай прэміяй. За арачнымі проразямі яго верхняга купала «хаваліся» унікальныя фрэскі, гледзячы на якія, тыя, хто знаходзіўся ў зале, назіралі «эфект далёкай светлай нябеснай сферы».

Навошта ж было знішчаць справу рук нашых продкаў? У чым яны, нашы продкі, вінаваты перад намі?

Ускоснае дачыненне да сабора мела і дача Піпенберг, якая знаходзілася ў прыгарадзе Магілёва і належала генерал-губернатару Пасеку. Як сведчаць судовыя архівы, Пасек прыцягваўся да суда за казнакрадства якраз па справе будаўніцтва Іосіфаўскага сабора. Сабор узводзіўся на сродкі казны. Выкарыстаўшы частку гэтых сродкаў, Пасек пабудаваў сабе на беразе Дняпра дачу, дзе меліся: «амфітэатр, храм, альтанкі, жывапіс, статуі, вазы, сам дом». Як бачым, казнакрады былі яшчэ ў тыя далёкія часы.

Сёння ў Магілёве ніхто не ведае назву Піпенберг, гэтак жа, як і многіх назваў нашых старых вуліц і вёсачак.

Тэма мінулага і сённяшняга Магілёва выразна акрэсліваецца і на прыкладзе яшчэ аднаго тутэйшага помніка — Мікольскай царквы. Галоўная асаблівасць гэтага трохсотгадовага збудавання — месца яго размяшчэння. Дзе яшчэ, скажыце, вы бачылі храм у нізіне, у пойме ракі? На маленькім астраўку, з трох бакоў акружаным шырокім поплавам,— белая цэркаўка! Памятаеце, як у В. Шукшына ў апавяданні «Майстар»: «Цэркаўка нібыта хавалася...», «адкрывалася нечакана таму, хто да яе ішоў». Гараджане, што жывуць у гэтым нізінным раёне, які называецца Падніколле, гаварылі мне, што былі гады, калі воды Дняпра затаплялі ўвесь раён,— але ніколі яны не даходзілі да сцен царквы.

Царкву «рэстаўрыруюць» ужо гадоў трыццаць. Відаць, такая зацяжка ў рабоце выгадна сучасным Ньюпасекам. Склады рэстаўратараў гарэлі ўжо не раз. Усялякага дабра, матэрыялаў спісана на сотні тысяч! Нельга сказаць, што на аб'екце па-

нуе цішыня, нешта тут і сапраўды робіцца: варушацца людзі, працуе такая-сякая тэхніка. Але давайце падыдзем бліжэй і паназіраем. Пільнае вока заўважыць рамы на балкон і на дачную веранду, над якімі шчыруюць «рэстаўратары». Ды і тое, што агароджаная тэрыторыя даўно ператварылася ў перавалачную базу, склад ценявой эканомікі, таксама нельга не заўважыць: бясконцай чарадою пад'язджаюць легкавушкі, маўклівыя людзі з шустрымі вочкамі хуценька нешта на іх грузяць, потым, бразнуўшы дзверцамі, імгненна знікаюць, быццам іх тут і не было. Толькі пыл застаецца на царкоўным двары... Так, работа ідзе, але заканчэння яе не прадбачыцца — надта ж гэта зручная і надзейная шырма для наваяўленых дзялкоў.

А тым часам купалы на даху паспелі саржавець. І чарапіца на агароджы і вежах пабілася, месцамі адвалілася. Наўсцяж — і ў агароджы, і ў вокнах самой царквы — чарнеюць дзіркі, у якіх завывае вецер. Сумны лёс гэтай маленькай царквы, якую безвынікова рэстаўрыруе дзяржава, у нечым падобны на лёс нашай шматпакутнай краіны. Ці дабяруцца калі-небудзь да гэтай глухой мясціны перамены?

Кажуць, знаходзіліся спецыялісты, якія прапанавалі адрэстаўрыраваць царкву за год. Але запал ахвотнікаў згасаў яшчэ больш хутка... Відаць, некаму не на руку хуткае завяршэнне рэстаўрацыі. Рабочых даюць сюды максімум на два тыдні, «каб разабраліся, што да чаго», або прысылаюць тых, каго ўвесь час даймае «смага».

Я ад'язджаў — і абурэнню майму не было мяжы. Самае крыўднае, што ў гэтай сітуацыі не было каму паскардзіцца. Уласна, я і не збіраўся гэтага рабіць, разумеючы бескарыснасць мерапрыемства. Я жадаў дапамагчы царкве, а не пагоршыць яе і без таго складанае становішча.

А можа самым найлепшым выйсцем было б перадаць храм вернікам? Тут, на гэтым закінутым лапіку зямлі, мог бы размясціцца праваслаўны манастыр. А тое, як умеюць працаваць манахі, наколькі яны пазбаўлены карысці, ведаюць усе. Праз год-два горад меў бы помнік даўніны, на які б прыязджалі паглядзець людзі.

Справа, вядома, не ў турыстах. Перадаўшы зямлю і храм манастыру, мы б пазбавілі прытулку «несуноў», а галоўнае — вярнулі б гэтай грэшнай сёння зямлі яе святасць. Дый хто лепш за свяшчэннаслужыцеляў умее захоўваць даўніну? Тут можна было б адчыніць бібліятэку царкоўных кніг, архіў, нядзельную школу. Урэшце, тут можна было б ажыццявіць тое, што вось ужо пяцьдзесят гадоў збіраецца зрабіць гарсавет: стварыць варты гэтай цікавай мясціны парк-сад. Гэтай зямлі не хапае руплівага гаспадара, які б ператварыў закінуты куток у любімае месца адпачынку гараджан.

Мне засталося толькі прыгадаць словы Ісуса, калі ён патрабаваў выгнаць з храма тых, хто ператварыў яго ў хлеў. Цяпер, як ніколі раней, актуальны іх сэнс, відавочна іх ісціна. Давайце ж павернемся тварам да яе і дапаможам Мікольскай царкве. Усім народам — бо нас, тых, хто за справядлівасць, за ісціну, большасць. Гэтым мы дапаможам сабе. Не так ужо многа засталося ў нас такіх помнікаў.

**Юрый ТАТАРЫНАЎ.**

**Аўтар 27 гадоў працаваў выкладчыкам у адным з мінскіх прафтэхвучылішчаў. Зараз ён рыхтуе да друку кнігу нататак настаўніка аб жыцці «хабзы» (так самі сябе называюць навучэнцы ПТВ). У іх, на жаль, мала радаснага, нягледзячы на тое, што гэта «пісьмы» адтуль, дзе вучацца і жывуць маладыя. Што ж рабіць, калі праўда такая. «А ўсё ж, што трэба для чалавечага жыцця — бачыць тое, што ёсць, такім, якое яно ёсць, і правільна адчуваць»,— гаворыць аўтар у адной са сваіх мініяцюр.**

**Навум ЦЫПІС**



# ЧАМУ ТАК БАЛЮЧА ДУШЫ...

Як даўно тое было... Ішоў я недзе годзе ў 1961 па старой яшчэ Нямізе і, здаецца, такая нязначная дэталь: сустрэў гэтую жанчыну. Яна была апранута ў сялянскую уніформу — танны бавоўняны «англійскі» касцюм: спадніца і аднабортны пінжак. Яна цяжка крочыла, бо несла на плячах мяшок, поўны боханаў хлеба, якія рабрыста вытыркаліся праз радно. Бачна было, што цяжкая ноша гэта прывычная ёй, як і стомленасць і раўнадушша да ўсяго навакольнага. На загнутым штрыфлі цёмна-шэрага ў светлую палоску пінжака — светла-блакітны з гербам краіны «ромбік» — значок педінстытута. Жанчына была настаўніцай.

Я ўжо выкладаў у сваім ФЗН «Гісторыю партыі» і «Нашу савецкую радзіму», скончыўшы Курскі педінстытут. Значка мне не хапіла. Яны былі рэдкасцю, іх толькі-толькі ўвялі для ўсіх ВНУ. Да шасцідзесятага года ўручалі толькі выпускнікам універсітэтаў. Разам з дыпломамі іх уручылі ў нас толькі выдатнікам. Я ж атрымаў жаданы ромб праз паўгода, пасля пісьма-просьбы, каштоўнай бандэроллю і насіў яго з гордасцю і заўсёды, на ўрачыстасці, нават у рэстаран ці да сяброў.

Калі прайшла міма мяне тая сельская настаўніца з мяшком хлеба, я нырнуў у адну са шматлікіх падваротняў Нямігі і крадком зняў свой значок — сімвал прыналежнасці да слаўнага савецкага настаўніцтва... Цяпер мне сорамна за той, трыццацігадовай даўнасці ўчынак. Але я разумею: не мы ж, настаўнікі, самі сябе грамадска і, здаецца, назаўсёды зняважылі. Зняважылі нас. І гэтае зневажанне працягваецца. Як яго пераадолець? Тры дзесяткі гадоў назад у мяне гэта атрымалася лёгка: проста зняў значок і кінуў у шуфляду стала.

□ □ □

Хто яны, мае навучэнцы? Яны не калектыў, ужо не дзеці, яшчэ не людзі... Яны крыху навучэнцы (па фармальнай прыкмеце і сацыяльнай прыналежнасці). Яны — кантынгент! Гэтае слова я чуў тысячу разоў: «у нас такі кантынгент» (што з іх возьмеш...); «не згубіць бы кантынгент...» (калі колькасць навучэнцаў ніжэй за норму хоць на аднаго чалавека — далоў столькі вось штатных адзінак, гадзін, памер зарплаты адміністрацыі); «кантынгент прыбыў!» (пачатак навучальнага года ці паўгоддзя).

Кожны ўрок пачынаецца з такога абавязковага рытуалу:

— Добры дзень, таварышы навучэнцы!

— Добрага здароўя, таварыш выкладчык.

Гэта адзінае педпатрабаванне, якое паўзе з урокаў пачатковай ваеннай падрыхтоўкі. Усе — «смірна!» Усе — разам! Усе, як адзін! І — на адзін твар (ледзь не вырвалася: на адзін капыл...)

— Добрага здароўя...

Кантынгент? Кантынгент. Ну дык і не пытайцеся, як з людзей, дзе ў кожнага ўсё сваё, ад паходкі да здольнасцей. І атрымаеце вашу кантынгенцкую здачу! — ланцугі, нажы, кастэты, белыя пальчаткі, нацельныя крыжы, чорныя акуляры, голеныя скроні, грамабойныя магі, паведамленні з міліцыі, вензахворванні...

Кантынгент — гэта, калі кожны паасобку быццам бы чалавек, а разам узяты, ды яшчэ і за межамі вучылішча — безаблічны натоўп, бяздушны і жорсткі кантынгент.

□ □ □

Настаўнік — асоба, якая навучае чаму-небудзь. Проста так тлумачыць слоўнік. А я сяджу на сваёй лоджыі з відам на чатыры трубы ЦЭЦ, дапамагаю ёй — куру і думаю, што не настаўнікамі мы былі, а тлумачальнікамі. Вось так як Ожагаў нас растлумачыў (няхай вам любы настаўнік скажа, што

засталося ад яго пасля такога тлумачэння), так і мы каменціравалі фармальныя пастановы партыі, дакументы яе з'ездаў, дагматычныя палажэнні гісторыі, кароткага курса... Мы садзейнічалі ўкараненню ў нармальнае здаровае мысленне дзяцей міфалогіі, перавернутасці, перакручвання: мы іх вучылі жыць у каралеўстве крывых люстэркаў, дзе норма — пакалечанасць. Праўда, гэта была няцяжкая задача, паколькі дзеці нашы зыходна генетычныя наследнікі рэгламентаванай свядомасці.

Адно патрабаванне для настаўніка ўсіх часоў непарушнае — вучыць рэальнасці, быць (на вачах вучняў!) даследчыкам гэтага рэальнага жыцця. Тады дзеці вырастаюць людзьмі, проста нармальнымі людзьмі. А ў нас, настаўнікаў 60-х — 80-х, не было ні рэальных падзей, ні навуковай методыкі даследавання (хвала ўсявышняму, затое праграма партыі была, дзе яна ўрачыста запэўнівала аб прышэсці праз 20 гадоў камунізму; акадэмія педнавук была; ліпецкі метад быў... Чаго толькі не было!), ні інфармацыі, асабліва «адтуль». А ці патрэбна яна была б адтуль, калі б свае праўду гаварылі? Але ж мае дзеткі не на Месяцы жывуць. Яны пытанні задаюць. І адказваць на іх (ад кожнага такога пытання ў майго дырэктара і нампаліта «валасы дыба ўставалі»), дык адказваць не партыі і не правадзейнаму члену з той самай акадэміі і нават не маймў дырэктару — мне адказваць. А як? Чым? Хоць бы раз сабралі на «сакрэтную» нараду настаўнікаў, каб узброіць іх інфармацыяй. Ніхто з вас за Савецкую ўладу так не змагаўся, як мы, таму што мы заўсёды гаварылі «з народам», з самай цяжкай і светлай яго часткай, а вы, час паказаў, і сёння баіцеся выйсці да мітынгуючых. А нас з «голымі рукамі» кожны дзень у самае пекла... Многа гаворыць сёння пра «вобраз ворага». Ён вось, ён — знутры, а не звонку: вучні — настаўнікі. Нас прымусілі (а грамадазнаўцаў — прама) хлусіць нашым дзецям. Тыя, каго мы ўсё жыццё абаранялі, нікчэмныя «чараўнікі ізумрудных гарадоў», намі, настаўнікамі, засланіліся, і дзеці, якіх нельга падмануць, пачалі пагарджаць намі.

Дык жа ж і гэтага мала. Яшчэ і прысылаюць да мяне праверальшчыка, як правіла, яго кваліфікацыя і кампетэнцыя ў маёй справе блізкая да нулявой, і ён вучыць мяне, як трэба вучыць дзяцей, каб зненавідзелі мяне і сваю радзіму. (Альбо, абалваненыя, сталі да ўсяго раўнадушныя да канца дзён сваіх.)

Не-е! Тут адно з двух. Альбо ўлада (такая якая была) дапускае настаўнікаў «да кармушкі» (кватэры, пайкі, санаторыі, замежпаездкі па абмену вопытам і г. д., і да т. п.) — і тады яна, улада, атрымлівае паслухмяных «робатаў» для заводаў і раллі... Альбо — перабудова, і тое, што рэальна паўстала: трэба ўбачыць у настаўніку чалавека, які ратуе Айчыну. Хутчэй, гэта, апошняе, трэба. Адсюль рушыць «цягнік» перабудовы. Альбо... Не, забастоўка настаўнікаў больш страшная за шахцёрскую і нават чыгуначную. Настаўнікі яшчэ ў нас не баставалі... Гэта, відаць, таму, што іх далей за іншыя сацыяльныя групы «ў лес» загналі. Не трэба чакаць, пакуль яны самі возьмуць педуладу ў свае рукі. Тым больш, што мэты ж адны: «жила бы страна родная — и нету других забот».

А аб тым «вобразе ворага», што «за ўзгоркам»... Які ён быў, гэты вораг, га? Што я, настаўнік, ведаў аб ім! Я толькі ў 1989 годзе даведаўся з публікацыі ў «Огоньке», што першыя людзі на Месяцы, амерыканцы Олдрын і Колінз, усталявалі там два флагі,— ЗША і ААН,— побач з імі ўмацавалі 136 маленькіх флажкоў дзяржаў свету і паклалі каля іх медалі з імёнамі касманаўтаў, якія аддалі жыццё пакарэнню космасу. Сярод гэтых імёнаў былі Гагарын і Камароў. На памятным вымпеле, які застаўся на Месяцы, былі напісаны словы: «Тут упершыню ступіла нага чалавека з планеты Зямля ў ліпені 1969 года. Мы прыйшлі з мірам ад усяго чалавецтва».

У ліпені 1969 года...

Я ўжо дзевяць гадоў чытаў «чалавеказнаўства» маім дзеткам. Што я ведаў пра нашага самага «лепшага» за ўсю нашу гісторыю, можа, нават лепшага, чым сам Гітлер, ворага,— Амерыку?

Ці толькі гэта мы не ведалі ці, дакладней, ведалі? А мы ж былі першыя людзі дзяржавы — настаўнікі!

...Што б мы напісалі на вымпеле, якія б мы паклалі медалі і ўзнялі флагі, першымі ступіўшы на Месяц 20 гадоў назад?

...Раптам уявіў зараз твары маіх калег у вучылішчы: як яны стаміліся... Як мала я бачыў іх усмешлівымі... як я цяпер па-здрадніцку далёкі ад іх... Але ж я ратаваўся. Чаму ж так няёмка ў гэтую хвіліну маёй душы?

Сустракаю калегу, якая, як і належыць, пайшла на пенсію ў пяцьдзясят пяць, адпрацаваўшы ў ПТВ больш за трыццаць гадоў. Добрая настаўніца. Дык вось, сустракаю і — не пазнаю: быццам бы гады з моманту нашага расставання ішлі для яе назад. (Няхай бы такая сур'ёзная — хоць адна! — ільгота была для нашых настаўніц, якія катаржна працуюць...)

— Гэта вы?! Ну-у, хоць ты сватайся! Дзе жывую ваду бераце?

— А што,— смяецца,— цяпер у мяне ёсць час і сабой заняцца. Я толькі з выхадам на пенсію адчула сябе свабодным чалавекам. Працую пакаёўкай у гасцініцы. Суткі там, двое дома. Сабачку завяла, гуляю, чытаю. Хаджу ў кіно...— свабодная! Я як успомню наш кашмар!.. Не верыцца, што вытрымала. Бяжыце вы адтуль! Есць жа чалавечыя прафесіі. Бяжыце!

Мы развіталіся, і яна пайшла па праспекце лёгкай паходкай.

Яшчэ праз квартал сустрэўся знаёмы пісьменнік.

— Ты чаго, стары, такі пануры?

— Ды не... Так, справы...

Я і не «заўважыў» асаблівай панурасці.

— Ты вось што, ты ўнутры сябе будзь свабодны, тады і знешне пасвятлее,— параіў ён.

«Гэта праўда,— адзначыў я.— Толькі наадварот». І зноў прыгадалася «маладая» пенсіянерка, і так захацелася не пайсці ў той дзень на работу.

□ □ □

Вельмі нават сімпатычная і ў быце разумненькая, з добрай жыццёвай рэакцыяй, маладая яшчэ, але ўжо разведзеная выкладчыца рускай мовы. І, чаго граху таіць, гультайка. Увогуле ўвесь «прафесіянальны» набор немалой часткі маладых педагогаў. Яе напарніца, «старая ваўчыца», русістка экстракласа, «ламавік». Усім і ёй цалкам зразумела, што зрушыць з месца «гэты воз» непісьменнасці, якая ў «хабзе» з'яўляецца і ўсеагульнай, і, магчыма, ужо «абавязковай» (без гэтай прыкметы ты «не наш»!),— задача для вар'ята. (Не забуду свайго ачмурэння, калі яна, «ламавік», паказала мне дыктант на паўстаронкі, дзе былі словы «оцец», «исчо», «имеочиство»...— усяго 64 памылкі!) Тым не менш, наша фанатычка, якая ішла дадому не раней як у 20.00, ваявала за рускую мову з адчаем асуджанага на смерць і ўпартасцю дзіцяці, якому не дазваляюць лезці ў лужыну ў святочным абутку. Яна рэгулярна пакідала «хабзайцаў» пасля ўрокаў і пісала, пісала, пісала з імі дыктанты і работы над памылкамі. Аднойчы я стаў сведкам іх размовы, маладой і фанатычкі.

— Іна Антонаўна, з-за вас мяне завучыха распінае. Але не магу ж я сядзець тут да вечара кожны дзень! Вы што думаеце, ім ваша пісьменнасць патрэбна?

— Патрэбна. Яна ўсім патрэбна. А яны толькі жыць пачынаюць, як жа без мовы. Яна ж, як вядома, сродак зносін.

— Але вам жа плацяць за ўрокі! Вось вы ў рабочы час і вучыце іх, а то атрымліваецца, што вы кругласутачна на вахце, а я на вашым фоне — злосная прагульшчыца. Мне што — ад дзіцяці адмовіцца і ад асабістага жыцця з-за вашага стаханаўства?

— Леначка... Ну гэта ж дзіўна... Я ж нікога не прымушаю. Я працую, як магу... Я інакш не ўмею.

— Канешне! Вы, як фельчар у нашай вёсцы.

— Не разумею... Пры чым тут фельчар?

— А пры тым, што ён таксама сам сабе работу загадзя рыхтаваў, як вы. Ставіце двойкі і потым пакідаеце адстаючых пасля ўрокаў. Іншыя настаўнікі, думаеце, не ўмеюць іх ставіць ці ў іх менш тупых навучэнцаў?

— Так, але... Леначка, пры чым тут ваш фельчар?

— А пры тым, што ён быў малады і прыгожы. Дзеўкі ўсе да яго ліплі. І, зразумела, цяжарылі. Ішлі зноў жа да яго. Ен рабіў ім аборты і браў немалыя грошы. Калі б вам за пазаўрочныя заняткі плацілі, я б вас зразумела. А так?

Вы б бачылі выраз твару «старой ваўчыцы»... Яна некалькі імгненняў сядзела моўчкі, потым, нарэшце апамятаўшыся, сказала:

— Ну, Леначка! Гэта ж... Гэта ж... непрыстойна! За сваю правіннасць браць грошы!

— А працаваць, як вы, бясплатна,— гэта! — прыстойна?! Ды яшчэ каб вамі мне вочы калолі...

Калі да такой паралелі «дадумалася» маладая настаўніца, дык чаму б мне не дадумацца да другой? Ці не здаецца вам, што мы пабудавалі свае адносіны ў нашай айчыне па схеме таго хітрага медыка са спецыяльнай сярэдняй адукацыяй? Цяпер яшчэ дадумаць гэтую нечаканую думку да канца: хто ж выступае ў ролі фельчара, які двойчы выйграе, а хто «іграе» ролю яго шматлікіх пасій, што прагнуць кахання і двойчы расплачваюцца?

У завяршэнне ж канкрэтнага факта застаецца дадаць, што маладая рацыяналістка, набыўшы вопыт і некаторае метадычнае майстэрства, так працуе, як і шмат гадоў назад, а фанатычка гэтак жа ідзе дадому пасля таго, як сцямнее. Вучні ж, як той, так і другой, у сярэднім, мовы не ведаюць.

□ □ □

У якіх умовах жывуць мае «дзяўчынкі-хлопчыкі»? Якое асяроддзе іх жывіць? Вядомы эканаміст і доктар навук М. Шмялёў: «Людзі настолькі змучаны барацьбой за самае неабходнае, галечай, сцяной вакол сябе, калі надзвычайныя намаганні трэба траціць на ўсё элементарнае ў жыцці, што гэта не можа не нарадзіць злосць і непрыстойнасць, зняважу і варожасць да суседа».

Вучоныя падлічылі (ох ужо гэтыя вучоныя!..): кожны васемнаццаты савецкі інфаркт здараецца з чалавекам з чаргі.

Геракліт Эфескі: «Лёс чалавека заключаны ў яго характары». А што гэта такое? Ожагаў вызначыў так: «Сукупнасць усіх псіхічных, духоўных уласцівасцей чалавека, якія выяўляюцца ў яго паводзінах». «Матэрыял», з дапамогай якога ён ствараецца і самаствараецца — гэта ўся «табліца Мендзялеева». Тут і генетыка, і маральная атмасфера грамадства, сям'я і школа, наш доблесны камсамол і ўвесь набор жанраў мастацтва... Зрабіце яшчэ папраўку на ідыятызм існавання ў вядомыя дзесяцігоддзі (надакучыла называць іх застойнымі).

□ □ □

Гады тры назад падслухаў размову двух кандыдатаў педнавук, метадыстаў:

— У наш час немагчыма даць дзецям добрае выхаванне.

— Ну чаму ж...

— Не кажы, яны абавязкова імкнуцца быць падобнымі на сваіх бацькоў.

Значыць, ствараючы характар, мы вызначаем лёс нашых дзяцей. Ну і які ж мы стварылі характар?..

Добрую песеньку спявае мая ўнучка: «Только от жизни собачьей собака бывает кусачей».

А яшчэ нечага хочам ад «хабзы».

□ □ □

Чаму вучаць настаўнікі? Фізіцы, гісторыі, літаратуры, хіміі?.. Не! Не. «С кем протекли мои боренья? С самим собой, с самим собой». Вось гэтаму «барэнню» вучыць настаўнік, калі ён настаўнік. Ён павінен пасеяць у вучні і даць жыццё высакароднасці, гордасці, прыстойнасці... Высокія, смешныя, прапаўшыя сёння словы: імі няма чаго адлюстроўваць. Пакуль не здабудзем іх у сэнсе і слове, не будзе нам ні спакою, ні радасці, ні багацця. Самога жыцця не будзе. Калі мы не апамятаемся цяпер, дык «ад задачы цяжкай мы пяройдзем да задачы невыканальнай».

□ □ □

Што рабіць! Што рабіць? Свет уратуе прыгажосць. (Ледзь не разарвалі на шматкі за гэтыя словы «слінявую» інтэлігенцыю. Калі? Заўсёды, калі яна гэта гаварыла і па такому ўзору стварала.) Настаўнік уратуе. Настаўнік-асоба. (Культура, дабрата, веды, годнасць, сумленне, розум...) Той настаўнік, які сам вучань. Той, які дзе не зразумее,— адчуе. Таму што ўсе мае вучні амаль за межамі разумення — іх трэба адчуваць, «угадваць». І — тое, што страчана сёння начыста — жыць з імі адным жыццём. Але мне гэта ўжо не ўдасца: я пакінуў вучылішча. Пасля 27 гадоў. І зусім не з-за маіх вучняў. Я іх люблю.

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

# САВЕЦКІЯ МАДОННЫ



Пад уражаннем ад наведвання выставы пад інтрыгуючай назвай «Мадонны» і выспелі гэтыя радкі. І прозвішча мастака — аўтара гэтых карцін,— Аляксея Кузьміча, я раней не чуў. Работы яго ніяк не ўкладваліся ў звыклыя рамкі таго сацыялістычнага рэалізму, які набіў аскому не толькі ў шматпакутнай літаратуры, але і ў не менш шматпакутным мастацтве.

Служакі татальнага застойнага балота паспрыялі — засмактала ў гэту сваю багну не адзін светлы талент, змушаны служыць дагматычным ісцінам.

І вось работы Аляксея Кузьміча прарваліся, іншага слова не падбярэш, «у людзі». За пятнаццаць гадоў упершыню выстаўляў мастак свае рэчы.

Пакінуўшы выставу, апанаваны супярэчлівымі думкамі, міжволі пытаюся: дзеля чаго стварыла прырода лепшы свой твор — жанчыну, не пашкадаваўшы на яе сваіх найлепшых шчодрасцей? Каюся, доўгі час я, як і ўсе журналісты, узнёсла апяваў яе, гераічную савецкую жанчыну. Як жа! Адваявала ў кастрычніку семнаццатага раўнапраўе, скінула з сябе ланцугі сацыяльнай няроўнасці і цяпер, дзякуючы ўсё таму ж раўнапраўю, нараўне з мужыкамі дзяўбе такім жа цяжкім ломам шашу, апантана ўгрызаецца ў граніт новабудоўляў гістарычных пяцігодак, цягае на сабе, як вол, цэглу, укладвае бетон у падмуркі гмахаў, спіць у бараках і палатках, пазбаўлена элементарных зручнасцяў. Стаханаўка, ударніца камуністычнай працы — сваёй працай набліжала светлае заўтра...

Заўтра... І той жа ржавы лом у руках, і насілкі, і цялежка, і рыдлёўка, і брудныя, закураныя ліцейныя цэхі аўтамабільных і трактарных гігантаў, і хімічныя мегаполісы, такія, як Магілёўскі завод штучнага валакна, дзе ў наваколлі за дзесяткі кіламетраў смярдзіць і забівае дых. А Гродзенскі азотнатукавы, а Светлагорскі хімічны комплекс!

«Над страной весенний ветер веет, с каждым днем все радостнее жить»... Салодзенькія мелодыі, як і гістарычныя кадры з тых перадваенных кінафільмаў, атруцілі нашу Памяць, і трымаецца гэтая атрута ой як моцна. Удумайцеся: у час Вялікай Айчыннай дзесяць мільёнаў савецкіх жанчын апранулі салдацкія шынялі і нароўні з мужчынамі зведалі ўсе жахі вайны. А колькі нашых бабуль, матуль прайшло праз пекла ГУЛАГа!

На персанальнай выставе мінскага мастака Аляксея Кузьміча я бачыў Жанчыну, прываблівую, пры-

● **Мадонна Кіеўскай Русі.**

гожую, непаўторную. Мадонну! Адкуль яна? У штодзённым жыцці такіх ужо няма. Праедзьце ў гарадскім транспарце ці станьце ў чаргу: што? Мадонна? Гэтая злосная, з засмучаным тварам, неахайная, з цяжкімі хатулямі ў руках, з мяшком хлеба, абчапляная таварамі першай неабходнасці. Адкуль яна, гаротніца? З Выселак, Наваельні, Заляшан? З тых мясцін, дзе мясцовае начальства са стараннасцю выконвала мудрыя ўказанні зверху і так шпарка бегла да камунізму, што начыста забылася пра клопат аб простым чалавеку...

А тут мастак Аляксей Кузьміч: нібыта прыехаў з другой планеты, надзеў на сябе ружовыя акуляры і, «узброіўшыся» імпартовымі фарбамі, паказвае нам Мадонну, прыгожую, абаяльную, непаўторную. І ў яе, бачыце, адзін клопат — як бы не праспаць ранішні золак, каб пацалаваць праменьчык сонца і пахваліцца сонейку аксамітам свайго бялюткага цела...

Ну навошта ж цвяліць сабаку! Няўжо мастак не бачыць чорнай бездані ад нашага злачыннага гаспадарання, смяротнага чарнобыльскага попелу на родных палях? Дык што ж ён, летуценнік, хоча паказаць? Такія мадонны не стаяць у чэргах, вырываючы адна ў адной танную каўбасу, не паліваюць матам іншых мадоннаў, што гэтаксама хочуць есці і мець хаця б адзін кавалак мыла на месяц... Ды палюбі бліжняга, каб сэрца тваё вылечылася. Божачка, пашкадуй мадонну нашых дзён!

Гартаю кнігу водгукаў — своеасаблівае мініяцюрнае люстэрка нашае культуры, калі хочаце. Адны ад захаплення слоў узнёслых не знаходзяць, а другія... У другіх адна ацэнка: адзін сорам, парнаграфія, распуста!

— Чаму ў вас, Аляксей, на палотнах — адны мадонны? І з дзіцем, і на полі сярод кветак, і...

— А я веру ў прыгажосць,— адказвае на маё пытанне мастак.— Веру ў бясконца жывое, сцвярджальнае — жанчыну! Веру ў чыстае каханне, у вернасць... І толькі тады, калі мы ўзвядзём нашы адносіны да жанчыны ў культ, у высокім разуменні гэтага слова, тады і адчуем сябе іншымі.

— Пачакайце, Аляксей, няўжо вы верыце ў тое, што, апяваючы ў сваіх карцінах прыгажосць, вы зробіце ўсіх лепшымі, чым яны ёсць на самай справе? — пытаюся ў



мастака.— Ды ніхто не паверыць вам, што вашы мадонны якраз тыя, на каго ім усім трэба раўняцца. Ну, добра, у вашай мадонны ўсё добра. Муж мае капейку, забяспечвае яе... Адсюль і пекныя ўборы, і дагледжанае цела, і кватэра, запалоненая дэфіцытам. А ведаеце, колькі жанчын сталага веку жыве ў інтэрнатах па шэсць душ у адным пакоі, дый на камунальных кватэрах тысячы і тысячы туляцца. Дзе ўжо тут вылежвацца ў начных сарочках!

— Ну навошта ж так спрашчаць,— папракае, не згаджаецца Аляксей Кузьміч.— Мае мадонны — жанчыны будучыні, наш заўтрашні дзень, калі хочаце. Марыць трэба... А калі мара моцная, дык яна ўрэшце і збудзецца...

Лірык — мастак Аляксей Кузьміч. Шчаслівы дар мастака — захаваць некранутай юнацкую захопленасць, адданасць выбранай тэме, бачыць прыгожае ў наш век песімізму, недаверу, дэфіцыту мыйных сродкаў, харчу і тых рэчаў, якія ў гады вайны не «пераганяліся» на талонную сістэму.

Хто возьмецца сцвярджаць, што мастак Аляксей Кузьміч надта салодзенькі аптыміст? Варта прыгадаць работы з серыі «Памяць». На карціны нельга глядзець раўнадушна. Жанчыны-пакутніцы, жанчыны гаротнага лёсу. Выпала на іх долю спаўна. Толькі Бог ведае, колькі выплакана слёз матчыных. А трэба жыць, гадаваць асірацелых дзяцей роднай сястры, даспяваць тыя песні, што маці не даспявала, дапрасці тую кудзелю, што бабуля не паспела...

— Мая мама Аляксандра Максімаўна памерла ў гады вайны,— расказвае Аляксей.— А бацька, Васіль Хвядосавіч, радавы пяхотнага палка, быў паранены пад Варшавай, вярнуўся дадому. Нядоўга цешыўся на роднай старонцы, памёр ад ран.

А сям'я ў нас была вялікая, так і гадаваліся, канечне ж, усім цяжка было... Дый я рана на свой хлеб пайшоў. Працаваў на Краснаярскай гідрастанцыі... Многа чытаў, вучыўся маляваць.

Персанальная выстава Аляксея Кузьміча з поспехам вандруе па Беларусі. І шматлікія гледачы спыняюцца перад мадоннамі Кіеўскай Русі, смуткуюць разам з пакутніцамі...

**Вячаслаў ДУБІНКА.**

- **Мацярынства.**
- **Грэшніца.**
- **Стары і мора.**
- **У раі.**



# НАШ ВЕРНІСАЖ

# ЖАНОЧЫ СУД

Раз у год, калі снег яшчэ толькі пачынае сыходзіць з палёў, паміж дзвюма высокімі хваінамі, што стаяць на шляху між Пружанамі і Ражковічамі, з'яўляецца прывід — Балотная Княгіня. І менавіта ў гэты ж час сюды трапляе грэшнік. Яго чакае Балотная Княгіня на справядлівы суд...

...Язэп быў прыгожы, статны хлопец. Такія падабаліся дзяўчатам. І ён ніколі не ўпускаў выпадку, калі было можна, застаўшыся сам-насам з дзяўчынай, задаволіць сваё жаданне. І невядома, колькі б ён карыстаўся сваёй сілай і прыгажосцю, каб не здарыўся з ім адзін выпадак. А адбыўся ён, калі аднойчы Язэп вяртаўся з горада. Стомленая кабылка ледзь цягнула даверху нагружаны пакупкамі воз. Пачынала цямнець, а дадому было яшчэ далёка. Раптам кабылка рванулася і заржала: усяго за некалькі крокаў ад воза ўзнікла чалавечая постаць. Спалоханы Язэп амаль адразу супакоіўся: на шляху стаяла маладзенькая дзяўчына.

— Дзядзечка! Падкіньце да Ражковічаў,— тоненькім голасам папрасіла яна.

— Які я табе дзядзечка! — буркліва адказаў Язэп і прыпыніў кабылу, каб дзяўчына ўзлезла на воз. Нейкі час яны ехалі моўчкі. Потым разгаварыліся. Дзяўчыну звалі Любкай. Яна была вельмі прыгожая, весела смяялася, і Язэпу здалося, што яна не супраць трапіць у яго абдымкі. Спыніўшы кабылу, ён паваліў Любку на вузлы з набытым дабром. Далёка разнёсся дзявочы крык...

Нечакана халодная вільготная рука лягла на плячо Язэпа. Ён узняў галаву і моўчкі адпусціў Любку. Прама перад ім стаяў увесь у белым прывід з вялікімі зялёнымі вачамі і доўгімі сівымі валасамі. Ад страху Язэп не заўважыў, як Любка злезла з воза і, размазваючы па шчоках слёзы, кінулася бегчы ў бок сяла.

— Няўжо табе мала таго зла, што ты ўжо нарабіў? — пачуўся рыпучы гук, зусім не падобны на голас жывога чалавека.— Навошта ты хацеў пакрыўдзіць гэтае дзяўчо? — пытаўся далей прывід, і Язэп не мог знайсці ў сабе сілы, каб што-небудзь адказаць.

А прывід пачаў расці, нібы на дражджах, пакуль не ўзняўся над вяршалінамі дзвюх магутных хваін.

— Ідзі за мною, Язэп, я — Балотная Княгіня,— прагрымела, нібы гром з неба,— цябе чакае справядлівы суд!

Ногі самі панеслі Язэпа ўслед за прывідам, і ён не заўважыў, як апынуўся на лясной палянцы, якая, нягледзячы на холад, была падобна на яркі дыван з жывых кветак.

— Ты — вялікі грэшнік,— сказала Балотная Княгіня, якая зноў паменшылася да чалавечага памеру.— Але не мне судзіць цябе. Гэта справа тых, каго ты звёў са свету.

І толькі цяпер Язэп заўважыў, што вакол яго, амаль нябачныя, нібыта сатканыя з туману, мітусяцца постаці. Адна з іх, у якой хлопец пазнаў нябожчыцу Марыльку — вясёлую сяброўку дзяцінства, выйшла наперад. Яны раслі разам, разам гулялі, і не было дня, каб не ўспаміналі адзін пра аднаго. Але аднойчы, роўна дзесяць гадоў назад, яны пабеглі на возера катацца на санках. Лёд быў тонкі, Марылька праваліліся і пачала тануць. Язэп мог яе выратаваць, але, спалохаўшыся, што яна пацягне яго за сабой у ваду, пабег прэч. Хлопец назаўсёды запомніў яе мёртвы тварык з застылым выразам жаху і дакору, калі вясковыя дзядзькі выцягнулі яе з вады.

Ледзь чутна Марылька прашаптала:

— Я абвінавачваю цябе ў злачыннай баязлівасці. Ты заслугоўваеш смерці.

Сказала і адышла. На яе месцы з'явіўся другі цень. Язэп адразу пазнаў сваю сястру Зосю, якую пахаваў два гады назад. Зосі не пашанцавала з мужам — ён быў стары раўнівец. На вяселлі нявеста горка плакала, але ніхто не звярнуў увагі на слезы шаснаццацігадовай дзяўчыны. Не пашкадаваў сястры Язэп і тады, калі аднойчы ноччу яна ў адной кашулі прыбегла да яго з мальбой выратаваць, схаваць ад раз'юшанага мужа. Язэп не толькі не схаваў сястры, але і сам перадаў у рукі мужа, які той жа ноччу забіў Зосю, прыраўнаваўшы да кагосьці з вясковых хлопцаў.

Зося цвёрда вымавіла, гледзячы з нянавісцю прама ў вочы брату:

— Я абвінавачваю цябе ў чэрствасці і асуджаю на смерць.

Ад страху ў Язэпа аж мурашкі пабеглі па целе.

З-за спіны Зосінай цені з'явілася яшчэ адна дзявочая постаць, надзвычай худзенькая, з хваравітым тварам.

— Янка...— адным вуснамі прашаптаў Язэп.

Янка была звычайнай вясковай дзяўчынай, не вельмі прыгожай, не вельмі разумнай, але ласкавай і добрай. У іх было шмат агульных начэй і ранкаў. І аднойчы Янка прызналася свайму каханку, што марыць быць яго жонкай і мець ад яго дзяцей. Магчыма, Язэп не кінуў бы сціплую працавітую дзяўчыну, калі б на яго шляху не ўзнікла Вераніка... Потым казалі, што Янка ў адчаі пайшла да вясковай знахаркі, каб пазбавіцца ад Язэпавага дзіцяці, якое хутка павінна было нарадзіцца, і ад гэтага памерла...

Янка вінавацiла яго ў абыякавасці, а ён ужо глядзеў у другі бок, адкуль набліжаўся, як лёс, цень Веранікі.

Язэп вельмі кахаў яе, але ніяк не мог прызнацца ў сваіх пачуццях красуні. Баяўся, што яна адмовіць. І спазніўся са сваім прызнаннем. Вераніка стала жонкаю другога, і муж завёз яе ў чужую вёску. Там яна, ціхая, гаротная, і памерла праз год, хаця, казалі, кахаў яе муж і ніколі не крыўдзіў...

З надзеяй углядаецца Язэп у твар Веранікі. Няўжо яна не абароніць яго? Але самотны твар у каханай:

— Я абвінавачваю цябе ў нерашучасці. Ты павінен памерці...

А калі ўрэшце ў пятым цені Язэп пазнаў маці, рукі і ногі яго аслабелі і ён ледзь не ўпаў. Сваю віну перад маці ён добра ведаў, і іншага прысуду, чым смерць, не чакаў.

Але маці, доўга гледзячы на сына, раптам сказала:

— Ты ні ў чым не вінаваты.

І закрычалі цені, выказваючы сваю нязгоду.

— Хіба ён быў паслухмяны?— спыталася Балотная Княгіня.— Хіба не зносіў у карчму апошнія твае грошы?

— Але тады ён яшчэ не зарабляў сам і не ведаў кошту грошай,— адказала маці.

— Хіба ў той дзень, калі ты памірала, твой сын не весяліўся ў карчме з сябрамі?

— Ён не ведаў, што я паміраю.

— Але нават калі даведаўся, што маці перад смерцю кліча яго, каб благаславіць, ён не прыйшоў да цябе.

— Тады ён ужо быў п'яны, не трымаўся на нагах. Сваё ж благаславенне я паслала яму з апошнім уздыхам, і яно павінна было знайсці яго.

Кожнае новае слова маці ажыўляла Язэпа. Але Балотная Княгіня сказала:

— Ты адна не выратуеш сына. Большасць суддзяў патрабуе смерці. І ён — памрэ.

І ўжо Язэп пачаў губляць прытомнасць, як раптам маці, амаль няўлоўным рухам, расшпіліла камізэльку і выпусціла нешта вялікае і чырвонае.

— Певень! Певень! — закрычалі ад жаху начныя прывіды.

— Яна выпусціла пеўня, чый крык будзіць раніцу! Знікаем, сёстры, наш час скончыўся. Яна выратавала сына!

У перадранішнім холадзе звонка пракрычаў певень, і ўсё паплыло перад вачамі Язэпа...

Яго выпадкова знайшлі вяскоўцы амаль на краі балотнага акна. Кабылка ж Язэпава сама прыйшла дамоў і прывезла ўсе пакупкі. Але з таго часу сумным, маўклівым стаў Язэп. Доўга не казаў нікому пра свае начныя прыгоды. І толькі састарэўшы, перад самай смерцю, прызнаўся ва ўсім людзям, павініўся перад імі. Відаць, многія, хто не верыць у прывіды, думаюць, што Балотная Княгіня проста прысцілася Язэпу, калі ён п'яны, не даехаўшы дамоў, зваліўся з воза. Хто яго ведае, што тут праўда, а што — хлусня.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.**

**А. МАРАЧКІН.**
**Жаночы суд.**

## ПАЭЗІЯ



Яўгенія
**МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

■

Божа праведны, будзь жа
літасціў
Да няшчасных сваіх дзяцей.
Калі іх ты стварыў
і выпесціў,
Дай ім розуму і надзей.

У бязвер'і дарогу мацае
Статак іх на зямлі ўсёй.
То са СНІДам, то з радыяцыяй,
То з нітратамі, то з вайной.

Паміраюць ад ран і голаду,
Знемагаючы ў барацьбе,
Пад пракляцці табе і золату
Вынішчаюць саміх сябе.

Ад Чарнобыля, ад Арменіі —
Боль пякучы і горкі ўздых.
Божа-госпадзі, дай
збавенне ім,
Дай жа зрок ім і чуйны слых.

Неразумным, што прагнуць
ісціны,
Не знаходзячы анідзе,
Божа праведны, дай жа
выйсце ты,
Дай жа хлеб ім і новы дзень.

■

Лісток на дрэве кволенькі
дрыжыць,
Вось-вось спадзе для вечнага
спакою.
У ім так шмат агульнага
са мною...
Яшчэ, здаецца, пачынаю жыць,
А ўжо гадоў так многа
за спіною.

Яшчэ, здаецца, пачынаю жыць
І разумнець, і разумець
другога,
Ды ўсё хутчэй жыццёвая дарога
Да фінішу апошняга бяжыць,
І, каб хацела, не зменіць
нічога.

Лісточак мой сарваўся
і ляціць,
І кружыць над маёю галавою.
Як шмат у ім агульнага
са мною...
А мне ж яшчэ так хочацца
любіць
І хочацца застацца маладою.

Справы сямейныя

# ПАСАЛОДЗІМ КАРАВАЙ ДЫ МЯДКОМ САЛОДЗЕНЬКІМ



Пра сучаснае вяселле пісаць, што вясёлую песню ў хмурны дзень спяваць. І праўда ж... **Галасочак бог даў, але песні ўсе задушэўныя пахаваў.** А як песня жаданая ў душу папросіцца, дык пэўна галасочак прападзе...

Беларускае вяселле ад слова «весела». Вяселле накоціцца — уся чыста вёска п'яна, уся грамада ў гулях цешыцца, глухі звонкія песні чуе, безгалосы і той спявае, мясціна абуджаецца — стараюцца музыкі слынныя. Дзе, як не на вяселлі, дасціпнае слова сказаць, арыгінальным кпінам свата ці свацейку «падкалоць», маладых жартам трапным павіншаваць.

**У вясельнай грамадзе і жмінда рубельчыкам звонкім у кішэні трасе, каравай апетытны купляючы. На вяселлі і суседзі мірацца, а родныя душы адна да другое туляцца.**

Некалі шлюбны працэс складаўся з чатырох галоўных момантаў. На пачатку быў барыш, затым запоіны ды замовіны. І нарэшце — вяселле. А ў самым галоўным — вяселлі — мелася некалькі частак: благаславенства, пасля яго вянец. Пасля вянца «госцікі» — сваты спяшаліся да маладой, дзе смакавалі яе каравай. Вось тут і пахваліцеся бацькі і сваякі, які пасаг прыгатавалі. І завяршала вяселле гулянка ў маладога. Весяліліся. Каравай смакавалі.

І было на тым даўнейшым вяселлі столькі свойскіх пачастункаў, пералік якіх шмат месца зойме... І каўбаска, пальцам пханая, гатункаў дваццаць, і бліначкі, і вяндлінка, і сальца запечанае, і з часначком, і тварог, і смятана, і бульбачка запечаная, і бабка са скваркамі, і пячэнне свайго вырабу, і... Болей не будзем. Перакінемся лепш на музыку.

**Бедавала Марылька, бедавала, што зарана зімачка напала, сняжком рутачка прыпала — не з чаго маладзе вянка звіць.**

Як не спяваць, не весяліцца. **На вяселлі добрае слоўца лепш за пітво, бо вяселле і шчасце на адным кані едуць...** Маладыя ў гэты дзень на ўвесь свет шчаслівыя:

— Мы пачынаем сваю сцежачку жыццёвую, пераступаем парог гняздзечка роднага.

Так было спрадвеку ў беларусаў. Вяселле — значная падзея ў жыцці і пачынала свой бег, уцягваючы ў святочную віхуру і старога, і маладога. Толькі арыгінальных абрадавых песень на беларускім вяселлі спявалася каля двухсот. То быў бясконцы, непаўторны народны спектакль, у якім бралі ўдзел усе жыхары наваколля. Амаль каля дзесяці тамоў акадэмічных кніг прысвечана непаўторнай з'яве з жыцця беларусаў — вяселлю... На жаль, гэта толькі рукапісны, а дакладней надмагільны помнік нашай Спадчыне...

Якое яшчэ вяселле ў наш такі неспакойны і трывожны час, у гады ўжо ўшчэнт змаранай Перабудовы! Хіба цяпер да вясёлых, жартоўных песень, дасціпных кпінаў і пракідных жартаў? Няма імпэту і на скокі да ачмурэння. Мы ж колькі гадоў таму пастроіліся адзін аднаму ў патыліцу... Божа, якое здзіўляючае свет, цярпліваe чаканне. Якія там дэфіцыты — бохана б хлеба, карабка запалак, хатулька напалову гнілой, хворай на нітраты бульбы...

**Кажаце, вяселле і сарочку знойдзе. А мо як у выслоўі: добрая жонка сіроцкі дом зберажэ.**

А мо і праўда, не гукаць музыкаў, каб тыя абуджалі сцішанае, нібы перад навальніцай наваколле?.. Не трэба весялосці. Паставіў пячаткі ў пашпартах, атрымаў гербавае пасведчанне аб шлюбе, і ціхенька, сціпла, у родным закутку сярод сваіх блізкіх «зрабіў» па шкаліку горкай і жыві, на часіны лепшыя надзею трымаючы.

А чаму і не... І возьмецца «патылічная» чарга за рукі і ў дружным карагодзе заспявае песню шчыруючы. Ці да вясёлых тут эпітэтаў, калі няўмольная статыстыка «выліваe» на нас вёдры сумных даследаванняў. З іх мы ведаем, колькі шлюбаў распадаецца, а закаханыя галубкі, якія яшчэ ўчора кляліся ў вернасці кахання, сёння — як ворагі на неспадзяваным полі жыцця.

### ХОЦЬ БОСЫ СЯДЖУ, АЛЕ З ПЕРЦАМ ЕМ

У канцы лістапада мінулага года давялося нам, мінскім журналістам, праехаць па дарогах Нарачанскага краю. Мэта паездкі: пошук магіл воінаў рускай арміі, якая брала ўдзел у крывавай бітве першай сусветнай вайны.

Удзёнку патрапілася нам дзіўная калона легкавікоў самае рознае клёпкі — ад сучасных «лад» да пасляваенных «эмак». Ішлі легкавушкі з форсам, запаліўшы фары,





са стужкамі і сцяжкамі на капотах. Мы спыніліся, даючы дарогу. На першай «Волзе» штучны белы гусак туліўся да гускі, а крыху воддаль «пярсцёначак» прышчапіўся да «пярсцёначка». Калона расцягнулася ці не на кіламетр. Я пачаў лічыць... Адна, дзве, тры... Звыш пяцідзесяці машын спяшалася па асфальтоўцы, скіраваўшы ў бок Купы, што на Мядзельшчыне.

Неяк не па сабе стала. І ад дажджлівага, хмурнага дня, і ад тых цёмных, бясконцых чэргаў, што бачыліся нам у Вілейцы, Нарачы, Маладзечне, Княгініне, Будславе і Крывічах. Чэргі па тавары «повседневного спроса». Прыкра было бачыць запушчаныя, у брудных лужынах мясціны, занядбаныя да сораму могілкі,ператвораныя ў сметнікі. І тут кавалькада з паўсотні вясельных прыватных легкавікоў...

Мы, не вагаючыся, рушылі следам. І былі сведкамі, як набірала ход вяселле ў вёсцы Купа... **У крамах пуста, а на вясельным стале густа.** Адна з тых унікальных супярэчнасцей нашага сацыялізму. **Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў па пальцах палічыш.**

— А можа гэтыя грошы (а на вяселле ляснула некалькі тысяч) патраціць на рамантоўку хаты, дый у двары парадак не пашкодзіць навесці,— пытаемся ў галоўнага фундатара вяселля, загадчыка фермы, дзецюка гадоў пад пяцьдзесят.

— Бяды вялікай... На мой век і такой хопіць, а дачка адна... Я і ў адной ватоўцы да пенсіі дацягну, але ніводзін у вёсцы не папракне, што я жмінда... На адну гарэлку паўтары тысячы паклаў, пяць бычкоў капыты адкінулі.

**А мо і праўда, сёння паабедаем, а як заўтра — не ведаем.**

### ХЛЕБ ДЫ ВАДА — УСЯ НАША ЯДА

Паслухайце гісторыю. Старшыні адной з гаспадарак на Случчыне пашчасціла пабываць гадоў колькі таму ў Егіпце. Госціць, на дзівосы ўзіраецца, уражаннямі назапасіўся на паўжыцця прыгадак. Запрасілі купку савецкіх госцікаў на вяселле, што мела месца ў ста кіламетрах ад Каіра.

Госціку, як вядома, і лепшая скварка, і лепшая чарка. На талерку разам з закуссю паклалі і скібу хлеба. Случчак зірнуў на тую скібачку і зглытнуў сліну ад крыўды: яму, дзецюку ў самым росквіце,— і такая норма?.. Суцешыў случчака наш работнік пасольства:

— Гэта нявеста табе сваю аддала. З хлебам тут, сам ведаеш. І болей не будзе. Затое вінца колькі хочаш.

Старшыня з хлебнае Случчыны тую скібу цішком у кішэню паклаў, загарнуў старанна ў хусцінку і прывёз дахаты. З тае пары шмат часу праляцела. Не палічыць, колькі вяселляў у навакольных вёсках адсвяткавалася. І на кожным, дзе даводзілася быць ганаровым госцікам, старшыня, выбраўшы момант, збіраў каля сябе вяскоўцаў, з таямнічым выглядам выцягваў з кішэні хусцінку, разгортваў яе і паказваў прысутным... скібу хлеба з Егіпта і гаварыў:

— Вось столькі з'ядае егіпцянін за ўсё вяселле, а вы як хлеб шануеце? На сметнік, у карыта... Дый на вяселлі кожны з вас з'ядае столькі, колькі егіпецкай сям'і хапае мо на тыдзень...

### БОГ ДАЕ СВЯТА, А ЧОРТ РАБОТУ

**Маладым хоць у вір, абы нам пір.** Уявіце сабе чалавека, які год таму пайшоў на пенсію, маючы добры мазоль пасля сарака гадоў ударнае працы на ніве сацыялістычнага спаборніцтва. Жыве ў Бабруйску. У нядзельныя дні ён займае сваё, аблюбаванае месца ў хмызняку, якраз насупраць бабруйскага кургана Славы. Вунь бачны хаты вёскі Сычкава, што якраз паваротку шашы на Асіповічы. Курганок даўно «замкнуты» ў вясельны канвеерны ланцужок: ЗАГС, дзе машын збіраецца больш, чым бывае каўбасы ў бабруйскіх крамах, урачыстае «пячаткаванне» пасведчанняў, фатограф з бытоўкі, забаўнік-культмасавік з «відэадавескам» у паўтысячы, чорны «наркомаўскі» ЗІМ па чырвонцу за дзесяць мінут, і нарэшце — у рабоце «хабіст» Сцяпан Ільіч. Яму б у сацыёлагі падавацца, а ён, бачыце, сядзіць у хмызняку, нязручнасці цярпіць.

Ну вось і пачынаецца. Эскорт легкавікоў абмінае Сычкава, коціць да курганка. Смех, жарты, сват, сваценка, бацькі, сябры... Як скончыцца асфальтоўка, малады ўскіне на рукі маладую і, цяжка сапучы, зробіць першы крок... (Сцяпан Ільіч, дзе твой секундамер? Цісні на пупочак — бяжы, стрэлачка, лічы...)

Сцяпан Ільіч добра ведае, што на дзесятай лічбачцы малады кіне сваю няўцеху — ідзі на сваіх, галубка... Слабак, значыцца, з бацькавых штаноў не вырас, а ўжо пнецца... Сцяпан Ільіч праз якую мінуту, другую вызначыць, якая маладая пара разбяжыцца, вузельчык не завязаўшы. Ён пільны, прадбачлівы, вопыт мае, другі гадок у хмызняку выседжвае... Дробязей няма ў ягонай справе. І па кветках у руках, і па ўсмешках на тварах сяброў, і па эскорту, і па фотаздымшчыках, што шастаюць наўкола, і па... Гэткі б беспамылковы прагноз — ды да вяселля. Цаны б яму не было.

І хочаце верце, а хочаце... Даў сабе ўстаноўку Сцяпан Ільіч:

— Тысячу вяселляў тут адседжу, тады паглядзім, што атрымаецца.

І сядзіць цярпліва. Як калатунчык бушлат яго трасе, дык тэрмас выручае, а як самота за горла бярэ,— радыёпрыймач скруху адганяе.

### ДОБРАЕ СЛОЎЦА ЛЕПШ ЗА ПІТВО

Ева Ільінічна Кавалёва — гаспадар утульнага пакоя Палаца ўрачыстасцей на праспекце Пушкіна. Фрунзенскі ЗАГС — лепшы ў сталіцы. Якімі клопатамі жыве гэтае бюро? За год амаль дзве з паловай тысячы маладых пар атрымалі шчырае блаславенне Евы Ільінічны. Але ж, запярэчыць яна сама, мы выдалі амаль і паўтары тысячы пасведчанняў аб разводзе. Кожны другі шлюб нешчаслівы... А тое няшчасце, інакш і не назавеш, «куецца» на «кавадле» нашай паўсядзённасці.

Гэта статыстычныя даныя толькі аднаго раёна, а як у гэтым плане выглядае ўвесь наш паўтарамільённы горад? Не вельмі прывабна. За мінулы 1989 год было зарэгістравана звыш шаснаццаці тысяч шлюбных пар. А вось разводаў за той жа перыяд набралася амаль палова — да сямі з паловай тысяч. Не дужа багаты Мінск і на залатыя вяселлі — за мінулы год іх адзначылі ўсяго сто пар...

Як і ў кожнай клапатлівай гаспадыні ў Евы Ільінічны шмат за што баліць галава.

**— І дурань кашу зварыць, калі крупы ёсць.** Жарты жартамі, але дэфіцыт бярэ за горла перш за ўсё тых, хто толькі ўступае ў самастойнае жыццё. І тысячы пытанняў паўстае перад маладымі. І шлюбныя ўборы, і пярсцёначкі, і жытло, і мэбля. А куды ж гукаць госцікаў, чым частаваць, калі талонная сістэма павязала нас па руках і нагах. А тут яшчэ рынак спяшаецца, што конь наравісты. Вось і выходзіць, як у выслоўі: і танцуе, грае, толькі есці не мае. Як не прыгадаць слоўцы вясельнай песні, якую спявалі ў тыя часіны, калі бабулі нашы насілі косанькі прыгожыя:

Да к сцюдзёнай зіме плацце працьь,
А к краснай вясне — кросны ткаць,
А к ціхаму лету — жыта жаць,
А к цёмнай ночы — на таку малаціць...

Згодны я і з Евай Ільінічнай — усяму свой час. Нялёгка сёння сямейнае гняздо звіваць, затое больш трывалае яно будзе, да розных нягод звыкла. Веру, што пражывём мы трывожную зіму, дачакаемся вясны надзей, выкараскаемся з ліпкай павуціны трывожнага крызісу — жыццё спяшаецца па сваіх законах.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**
**Фота Анатоля Клешчука і Леаніда Левіна.**

---

**Што больш за ўсё палохае маладую, калі яна пераступае парог дома мужа? Тое, што яна не ўмее гатаваць, або неабходнасць больш часу аддаваць сям'і і менш — сабе? Не, не ўгадалі. Больш за ўсё яе хвалюе, ці паладзяць яны з свекрывёй. Вось некалькі парад, якія, магчыма, дапамогуць стварэнню нармальных узаемаадносін у новай сям'і:**

## НЯВЕСТЦЫ НЕ ВАРТА:

— унушаць свекрыві, што тая стамілася і ёй лепш прылегчы ў той момант, калі вяселле за сталом дасягнула апагея і свекрыві гэта вельмі падабаецца;

— спыняць размову, калі ў пакой заходзіць свякроў;

— унушаць дзецям, што ў бабулі бываюць старэчыя дзівацтвы;

— у прысутнасці свекрыві гаварыць пра іншых: «Ну, дык гэта ж стары чалавек...»;

— ужываць аргумент: «У вашым узросце...»;

— прымаць як належнае, што менавіта хатнія справы — яе доля;

— купляць ёй у падарунак рэчы, якія выклікаюць непрыемныя асацыяцыі;

— у яе прысутнасці часта скардзіцца, што кватэра цесная.

## У СВАЮ ЧАРГУ, СВЯКРОЎ ПАВІННА:

— некалькі абмежаваць сваю зацікаўленасць падрабязнасцямі жыцця маладых;

— не дапытвацца пра тое, чаго ёй не гаварылі;

— не дазваляць сабе выяўляць свае капрызы і незадаволенасць;

— не патрабаваць ад маладых, каб яны як мага радзей адлучаліся з дому;

— не злоўжываць выразам: «У мой час...»;

— не асуджаць нявестку перад сынам;

— не вельмі часта і многа расказваць пра сваю маладосць.

А вось прыкладна тыя падарункі, якія свекрыві было б прыемна атрымаць да свята або да дня нараджэння: духі, пальчаткі, панчохі, мастацкае або ілюстраванае выданне, брошку, тапачкі, ну, і, вядома, кветкі.

**Ян КАМЫЧАК.**
**«Ветлівасць на кожны дзень».**
**Пераклад з польскай.**

# ВІТРАЖ СВАІМІ РУКАМІ



Не паспелі пабрацца, а ўжо хочацца свой куточак, хоць маленькі пакойчык, але ўласны. Што ты зробіш — кожная птушка сваё гняздзечка ўе, там і дзетак выводзіць. А сваё гняздзечка і аздобіць хочацца па-свойму. Пры сённяшнім пагалоўным дэфіцыце тое-сёе карысна бывае і ўласнымі рукамі зрабіць. Прыкладзеш рукі — і ўбачыш, як выгадна адрозніваецца твая кватэра ад іншых, падобных адна на адну, як дзве кроплі вады,— тыповая мэбля, посуд, нязручныя зэдлі, бляклыя шпалеры, фіранкі з «хіміі» і шмат чаго яшчэ.

Арыгінальны вітраж на дзвярах можна зрабіць сваімі рукамі, рашуча адступіўшы ад набіўшага аскоміну аднастайнага выгляду. Для выканання задуманага патрэбны: нажніцы, сталёвая лінейка, клей, рознакаляровая папера, пергаментная калька, акварэльныя фарбы. І ў дадатак... трошкі цярпення, крыху старання і, безумоўна, фантазіі.

У сваёй кватэры для вітражоў я выкарыстаў выцінанкі. І сюжэт іх даволі просты. Раслінны арнамент, стылізаваныя птушкі на дрэвах, карункавыя кампазіцыі, жартоўныя прымаўкі і прыпеўкі.

Акрамя выцінанак, на вітраж просіцца і цікавы плакат, і дзіцячы малюнак, і вабная гравюра з календара і любых сэрцу фотаздымкаў, гербарый. Нават звычайнае льняное палатно з карункамі пад шклом робіць непаўторнае ўражанне.

Задуманая кампазіцыя выканана. Астатняе — справа тэхнікі. Замацуйце ваш арыгінальны вітраж паміж двух шкляных лістоў (а для гэтай мэты згодзіцца звычайнае трохміліметровае шкло). Прыбілі штапікі, начапілі дзверы і... любуйцеся самі і суседзяў запрашайце.

**Вячаслаў АНДРЭЕЎ.**

---

**Як бы там ні было пуста ў крамах і дорага на рынку, але вясельная бяседа ўсё роўна збіраецца — жыццё ёсць жыццё. І найлепшае выйсце ў гэтым выпадку прыгадаць старадаўнія сялянскія рэцэпты — продкі нашы таксама ладзілі вяселлі і да стала падавалі смачныя, апетытныя стравы. Вось некаторыя з гэтых рэцэптаў:**

**КАРАВАЙ.** Прыгатаваць рошчыну: дрожджы развесці ў цёплым малацэ, дадаць соль, усыпаць палову нормы мукі і старанна перамяшаць. Паставіць для браджэння ў цёплае месца на 2 гадзіны. Калі рошчына ўзнімецца і пачне ападаць, пакласці ў яе мёд, яйкі, разынкі, смятану, масла і вымешваць цеста да таго часу, пакуль яно не пачне адставаць ад сценак посуду. Затым зноў паставіць у цёплае месца для браджэння. Калі аб'ём цеста павялічыцца ў два разы, абмяць яго і зноў пакінуць для браджэння. Калі цеста паднімецца, добра выбіць на стале і пакласці ў форму, змазаную тлушчам. Паверхню каравая ўпрыгожыць фігуркамі з цеста. Праз 30—40 мінут выпякаць у печы або нагрэтай духоўцы, змазаўшы паверхню каравая ўзбітым яйкам для ўтварэння румянай скарыначкі.

**ЯЙКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ ГРЫБАМІ.** Звараныя крута яйкі аблупіць, зняць нажом тупы канец яйка, дастаць жаўток. Апрацаваць сушаныя грыбы: зварыць, пасячы, змяшаць з падсмажанай цыбуляй і расцёртым жаўтком, пасаліць. Атрыманым фаршам запоўніць яйкі, пакласці іх у салатнік, прыкрыўшы зверху зрэзанымі «шапкамі» бялкоў, заліць зверху падліўкай (маянэз змяшаць з роўнай колькасцю смятаны, дадаць крыху соусу «Паўднёвы»). Зверху фаршыраваныя яйкі аздобіць зяленівам.

**МЕДАВУХА.** Мёд разам з сотамі развесці астуджаным варам, зліць у драўляную бочачку. У цёплай вадзе развесці дрожджы, выліць у бочачку і добра перамяшаць. Вытрымліваць у халаднаватым месцы 6—8 дзён. На 2,5 літры вады — 150 г мёду, 5 г дражджэй.

**КВАС СТАРОБІНСКІ.** Свежы жытні хлеб нарэзаць тонкімі лустачкамі і падсушыць у духоўцы да светла-карычневага колеру. Перакласці сухары ў каструлю, заліць кіпенем і паставіць у цёплае месца на 3,5—4,5 гадзіны. Настоеныя ў вадзе сухары ў выглядзе сусла працадзіць праз тонкае палатно або некалькі слаёў марлі, дадаць разведзеныя ў цёплай вадзе дрожджы, лісце мяты, чорных або чырвоных парэчак, цукар-пясок. Паставіць пасудзіну на 11—12 гадзін у цёплае месца для браджэння, пасля сусла, якое перабрадзіла, зноў працадзіць і разліць у шкляны посуд і шчыльна закаркаваць. Квас вытрымліваецца ў цёмным халаднаватым месцы 4 сутак, пасля чаго гатовы да ўжывання. На 500—600 г жытніх сухароў — 4,5 л вады, 40—50 г дражджэй, 210—230 г мёду або цукру.

**ВАНТРАБЯНКА.** Парэзаць на кавалачкі свіное лёгкае, сэрца, вушы, губы, дадаць мясныя абрэзкі, варыць на слабым агні да няпоўнай гатоўнасці. Абварыць пячонку, парэзаць на невялікія кавалачкі. Нарэзаць на кубікі свежае сала са скуркай. Усё гэта скласці ў вялікую эмаліраваную міску, дадаць спецыі: молаты перац, кмен, часнок, молатую соль. Добра перамяшаць і начыніць сумессю добра вычышчаны і вымыты страўнік, які служыць абалонкай для вантрабянкі. Напоўнены страўнік зашыць ільнянымі ніткамі, адварыць на невялікім агні, затым пакласці на драўляную дошку, зверху накрыць другой дошкай і прыціснуць каменем на 26—28 гадзін. Халодную вантрабянку парэзаць прадаўгаватымі лустачкамі. Падаваць з бульбай, аржанымі блінамі, агароднінай, салатамі.

**Запісаў Іван КОРЗУН.**





Углядзіцеся, чытач, у гэтыя фотаздымкі. Уявіце такую карціну: раніца працоўнага дня, металічная вяртушка на прахадной круціцца з самай вялікай хуткасцю. Цяжка дыхаючы, на хаду расшпільваючы вопратку, нервова пагладаючы на гадзіннік, жанчыны таропка падаюць пропуск ахове і бягуць да сваіх рабочых месц. Ззаду засталіся «чачотка» на азяблым прыпынку, «штурм» доўгачаканага маршрутнага аўтобуса. Нарэшце — родны цэх, дзе да абеду ні прысесці, ні разагнуцца...

Жанчыны, якіх вы бачыце, працуюць на ордэна Леніна Аршанскім ільнокамбінаце, прымаюць актыўны ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве і асваенні новых відаў прадукцыі. Жыццё дыктуе ім свой дакладны, не разлічаны на сантыментальны рытм. Іх называюць таварышамі па працы, патрабуюць на роўных за справу, якая стала прафесіяй, не даруюць спазненняў і дрэннага настрою. І, наогул, лічаць двухжыльнымі. А мо яно і сапраўды так? Паглядзіце, якія вялізныя мяхі і кантэйнеры цягаюць яны!

# ЛЕПШЫЯ МУЖЧЫНЫ — ГЭТА ЖАНЧЫНЫ?





Рэдка тут можна ўбачыць яркую жаночую ўсмешку, вясёлы смех. Не да гэтага ткачыхам і прадзільшчыцам. Паспець бы заданне выканаць, машыны абслужыць, а яны часта псуюцца, ведама ж — старыя. Да таго ж, страшэнны шум, загазаванасць,

запыленасць — на ткацкай вытворчасці, напрыклад, яны перавышаюць допушчальныя нормы ў дзесяткі разоў. Спытаеце: а што робяць мужчыны? Яны, у асноўным, займаюцца наладкай станкоў. Часта іх можна ўбачыць у курылцы, у кабінетах майстроў і начальніка змены за абмеркаваннем «дзяржаўных» спраў.

«У нас цяпер раўнапраўе», — часта гавораць скептыкі. Але ці трэба злоўжываць з такой цяжкасцю заваяваным раўнапраўем? Ці можна жангліраваць словамі аб тым, што, маўляў, наш слабы пол самы моцны ў свеце? Кажуць, што высокая культура вызначаецца адносінамі да жанчыны. Не будзем драбязіць: размова ідзе не толькі аб тым, каб саступіць ёй дарогу ці месца ў аўтобусе. Размова ідзе аб тым, каб, нарэшце, ад дыскусій перайсці да канкрэтнай справы: вызваліць жанчыну ад начных змен, забяспечыць работай, якая пад сілу.

Ці мы, як і раней, будзем даказваць, што галоўнае ў жанчыны — душа? А як яна — жанчына, не душа — выглядае, не так важна?

**Уладзімір ІВАНОЎ.**
**Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.**







ЯНКА СІПАКОЎ

ПАЭМА Ў ПРОЗЕ

# ВАРЗОБ

«Ведаеце, як я навучыўся чытаць? — усміхаюцца яго ласкавыя вочы.— У мяне было шаснаццаць брацікаў і сястрычак. Так што работы хапала. Я калыхаў люльку з сястрою. А сам — з кнігаю. Засне сястра — мне дадуць новую работу. Давядзецца пакласці кнігу. Дык я, калі сястра пачне засынаць, ушчыкну яе, яна зноў заплача. Маці здзівіцца: «Нешта малая доўга не спіць, ці не захварэла?» Суцішыцца, я ізноў — даруй, сястра! — ушчыкну. Так з кнігаю і праседжу ўвесь дзень. Так і навучыўся сам чытаць. Маці дзівіцца, бацька дзівіцца.

Кажуць: «Бог даў».
О, гэты бог!
«Божа мой! Ты ў сэрца мураша
Цэлы неабдымны свет змясціў,
Не расшырыўшы пры гэтым сэрца мураша,
Свет не звузіўшы ані на волас,
божа мой»...
Сайф расказвае пра свой боль.
Ён і апавяданне пра гэта напісаў. Усім спадабалася. «Бамадары» называецца.
«Без маці» значыць.
Калі яму было тры гады,
яго кінула маці. Ён сам вырас, ажаніўся. Сына займеў. Абедаць хадзіў у дыетычную сталоўку — крыху прыхварэў. Аднойчы расказаў пра сваё жыццё афіцыянтцы. Тая расплакалася — чуллівая была, спагадлівая.
А потым прыйшла посуд прыбіраць і прызналася:
«Я ж твая маці».
Потым
так прывязалася да ўнука — яму ж зараз тры гадкі, якраз столькі, колькі было Сайфу, калі яго кінулі,— што ўжо і ён не ведаў, што рабіць: усю ласку, якую не аддала сыну, яна, вінаватая, аддавала ўнуку.
Але ж душу гэтым не залапіш:
ні сынаву, ні тым болей сваю — у ёй усё
роўна будзе дзірава.
«Калі вялікая ў табе душа,— дары яе ўсім
без роздуму,
калі малая,— то няхай яна ў табе самім,
нібы лампада, зззяе».
А ў блакітных вачах Абдулхаміда
мільганулі карычнева-цёмныя іскры азіята:
— Вось там,—
усміхнуўся ён і паказаў на вяршыні, за якія
нават воку сягаць было і далёка, і балюча,—
там Куляб, і там жыве і сёння Музафар.
І расказаў быль пра Музафара.
Вайна.
Сакратар райкома гаворыць: «Немцы Маскву ўзялі. Трэба нешта думаць». А Музафар — начальнік міліцыі. «А што нам думаць,— будзем Куляб абараняць»,— адказаў ён. Узяў усю зброю, што была ў міліцыі, і — у горы. Вайна скончылася, а ён і пасля вайны Куляб абараняе. Нікога не падпускае да сябе — заняў адзін кругавую абарону і страляе па кожным, хто пакажацца ў гарах.
І ніяк нельга яму перадаць, што вайна даўно скончылася, што Куляб ужо не трэба абараняць.
І ўсё ж неяк перадалі, неяк пачуў ён:
«Музафар!
Маскву немцы не ўзялі, і Куляб не трэба абараняць».
Пачуў ён і пакінуў свой умацаваны раён.
Але ж яго сустрэлі няласкава —
ён жа, выходзіць, злачынец. Музафара вырашылі
звязаць.
«Ну добра,—
згадзіўся ён.— Звяжыце сабе, але не сур'ёзна».
І дазволіў гэта зрабіць сябру.
Аднак —
і сярод людзей, як і сярод сабак, часам
ёсць такія тыпы: радаслоўная — цудоўная,
а морда — брыдкая...
Аднак —
ох ужо гэтыя звычайныя чалавечыя слабасці! — сябру спадабалася роля канвойцы: ён гнаў Музафара (са звязанымі рукамі!), бягом гнаў у Куляб, у яго родную міліцыю, як і трэба гнаць злачынцу. Музафар злаваўся, лаяўся, хацеў ударыць нягодніка нагою, але на баку таго зараз ужо была і сіла, і ўлада — звязаныя Музафаравы рукі, Музафарава нагайка і нават Музафарава стрэльба,
з якою ён абараняў ад немцаў Куляб.
«Ну, пачакай жа, скаціна!
Я табе пакажу, як толькі ты мяне развяжаш»,—
злаваўся ён і рашуча, як ашалелы бык, круціў
галавою.
Але Музафара не развязалі — яго пасадзілі.
«Мой сябра з маім ворагам сягоння быў».
«Уцякай ад матыля, калі ён побач з гадам быў».
Вярнуўся Музафар у Куляб самотны —
жонку, аказваецца, забраў той сябра-канвойца,
які з такой асалодаю гнаў яго ў Куляб.
Але Музафар перш за ўсё пайшоў да жонкі:
«Па карану ты мая жонка».
«Дык у мяне ж сямёра дзяцей ужо, Музафар».
«Ну і што, што сямёра.
Але ж па карану ты ўсё роўна мая жонка.

І твае дзеці стануць маімі».
Што ж, бывае і такое:
чым больш нас крыўдзіць каханая,
тым больш мы любім яе.
І сёння ў Кулябскім раёне
жыве селянін Музафар і гадуе многа сваіх
і зноў жа сваіх дзяцей і ўнукаў.
Чужыя дзеці
становяцца сваімі, калі ты любіш таго, хто
нарадзіў іх.
«Нам, дэрвішам, навошта гаворыш ты аб раі?
наш рай — гэта жыццё вось тут, у родным краі».

А Варзоб шуміць унізе,
а вяршыні бялеюць уверсе, а гульбарфы — сама чысціня, белыя, з блакітным адлівам, кветкі — уважліва глядзяць на цябе — не ты на іх,
а яны на цябе.

Недзе на схілы гор
выйшлі ўжо ангорскія авечкі — як статак шэрых камянёў, сцішыліся яны між зялёнай травы, недзе ў лагчынах ужо сеюць бавоўнік, а між цяснін у блакітных вачах горных памірцаў, як у блакітным небе, адбіваюцца, мусіць, вось такія самыя воблакі, што імкліва праплываюць і над
намі.
Уверсе, мусіць, моцны вецер —
ён разрывае воблакі, разрывае малюнкі, у якія яны сплываюцца,— выкручвае рукі чалавеку, ломіць напал дрэва, разбурае быццам сапраўдную хату, і тая развальваецца, разлазіцца на вачах —
і ад такога хаосу ў небе і на душы робіцца неяк
трывожна-трывожна.
А затым —
сівы, падцягнуты дзед з ордэнамі і медалямі на пінжаку распытвае пра Проню, якую ён вызваляў; актрыса Мар'ям Ісаева ўспамінае беларускі лес, у якім яна была ў Дні дэкады таджыкскай літаратуры і мастацтва, і журацца па нашых спаленых вёсках; Курбан-алі Раджаб, знаны выканаўца народнага эпасу «Гуруглі» — «Чалавек, які нарадзіўся ў магіле», кажуць, гучыць у яго выкананні як найлепей,— задумваецца раптам і, гледзячы на горы, трывожна пытаецца:

Заканчэнне. Пачатак у № 2.

«Дык што ж гэта ЯНЫ робяць?!»
І я разумею,
што не пра горы ён кажа, не пра Гуруглі ён гаворыць, не пра чалавека, які нарадзіўся ў магіле, думае, а пра ўсіх нас, хто нарадзіўся нармальна, на зямлі, непакоіцца.
Ён пытаецца пра тых нягоднікаў, якія, нібы вар'яты, носяцца з жахлівымі ідэямі: зачарніць, да прыкладу, бялюткія шапкі Паміра — каб яны сцяклі вадою ў нізіны. Во колькі тады паліву будзе! А потым яшчэ прагнуць спусціць з гор найпрыгажэйшае Сарэзскае возера — скарбніцу, крыніцу чыстай пітной вады.
А тады што?!
«Яны прагнуць дабываць ваду з агню,
а з вады агонь жадаюць высеч».
«Яны нікчэмныя такія, хачу зраўняць я іх з асламі,
Парожнія, як барабаны, хоць і наўючаныя справамі».
Не, самая жудасная, мусіць, жывёліна на зямлі ўсё ж — чалавек. Асабліва калі гэты чалавек — дурань з ініцыятывай.
Як нам зрабіць,
каб адабраць у яго хоць ініцыятыву? Хай ужо застаецца сабе дурнем — што зробіш! — толькі без ініцыятывы.
Хаця і дурні, здаецца, патрэбныя.
Каб узвышаць разумных.
На іх фоне вялікія робяцца яшчэ болей вялікімі.
А перад імі, вялікімі, ужо ў сваю чаргу мізарнеюць яшчэ больш мізэрныя.
Самі дурні мізарнеюць...
Кветкі да ног вялікіх.
Да ног Авіцэны, слыннага Ібн Сіна, які разззлаваў султана Махмуда, адмовіўшыся служыць пры двары.
Кветкі да ног,
а запомніліся чамусьці рукі — рукі лекара і спагадніка.
Стаўлю кветкі
да ног вялікага Рудакі, які заплаціў вачыма за волю і непаслушэнства, стаўлю кветкі да ног, а бачу зноў жа толькі рукі — рукі сляпога, які бачыць і чалавека, і дарогу рукамі.
Кветкі да ног Айні.
«Чыёй поўняю ты гэтай ноччу была
і чыёй насалодай была,
чыю хату ўсю ноч асвятляла
і чыёю спакусай была?»
«Вось я памру
і сіратой пакіну жыць сваю тугу».
«Ты бачыў свет, ды ўсё, што ў ім знайшоў,—
лухта,
І ўсё, што чуў твой слых, што слова меў,—
лухта,
Усё, што з краю ў край ты абышоў,—
лухта,
І ўсё, што ты купіў, набыў, прыдбаў,—
лухта!»
Я паклаў бы кветкі
і да ног Амара Хаяма, але, на жаль, тут няма помніка яму.
Мы з вамі, вочы, на свяце,
а свята — гэта заўсёды гасціннасць. Усюды так і гучыць: «Хуш амадзед». Я ўжо ведаю, што па-нашаму гэта будзе: «Калі ласка».
Ведаю,
што Зухра — гэта наша зорка Венера, што Зулейха — гэта палка і безразважна закаханая жанчына, пра якую марыць кожны мужчына, што Харут — гэта анёл, якога багі скінулі з нябёсаў за каханне да звычайнай зямной жанчыны.
Услухоўваюся ў незнаёмую мне мову, і да мяне прыходзіць радасць, што я нічога не разумею, што яна такая далёкая ад маёй руплівіцы. Прыходзіць радасць і трывога.

Успамінаю,
што недзе чытаў, як у падмаскоўным санаторыі паміраў Лахуці. Перад смерцю ён разгаварыўся. Доўга, выразна і, зразумела, гаварыў ён нешта на фарсі, на сваёй роднай мове, але там не знайшлося ніводнага чалавека, які б зразумеў, пра што гаворыць, у чым спавядаецца, развітваючыся з жыццём, паэт.
«А хто прайшоў наш шлях,— назад не прыйдзе,
Няма ў каго спытаць, дзе лепей,— там ці тут».
Шуміць веснавы Варзоб,
бялеюць чысцюткія вяршыні Паміра, цвітуць гульбарфы і пахнуць такой жа свежасцю, як і пырскі ракі, як і сняжынкі вяршыняў,— яны сёстры, бо вада Варзоба — гэта тыя ж сняжынкі, толькі ўжо аблашчаныя сонцам.
Дык дзе ж яно, віно дружбы, сябры?
Дык за што?
Канечне ж, за гэтыя горы і за гэтыя гульбарфы!
Мы і самі не зломкі,
мы і самі сёе-тое можам, але ж давайце запросім за наш дастархан вялікіх — Рудакі і Хаяма, Хафіза і Джамі запросім.
«Віно — як вораг п'яніцу, з цвярозым дружыць
крута:
Не многа п'ём — лякарства ў ім, а многа п'ём —
атрута».
«Хутчэй віна сюды, не час цяпер для сну,
Я славіць ружамі грудзей хачу вясну,
Але я розуму, дакучліваму старцу,
Каб усыпіць яго, у твар віном ліну».
І ўжо:
«Глядзі, як падаецца розум
Падману дочухны лазы!»
І ўжо:
«А можа, досыць, што ў мячэці
Не буду лашчыць я дзяўчат?!»
Ах, гэты Хафіз!
Ах, гэты богазневажальнік і жартаўнік!
«Кахаць красунь я не адмоўлюся
і піць віно, і піць віно».
Э не, гэта табе не Юсуф, народжаны Джамі.
Той, што ўцякаў, як вар'ят, ад Зулейхі, якая аж палала ад страсці і кахання:
«Яна яго жамчужыны хацела,
І ракавінай млела яе цела».
Э не, гэты не такі:
«Прыгажунь мы ўсіх абдымем,
Перап'ём усё віно!»
«Хушамадзед»...
Мне чуецца гэтае запрашэнне, як адно слова. Хоць у галаве ўжо іншыя словы, якія па-іншаму пачынаюць хваляваць і непакоіць: «Да пабачэння!»
Віно развітання прыспешвае віно сустрэчы.
На сотні вярблюдаў вязу я табе сваё захапленне табою.
Сустракай жа мой караван, каханая.
Цяпер ужо твае вочы — мае вочы.
Яны раскажуць, што адбылося ў нас за той час, пакуль я слухаў таямнічы Варзоб, любаваўся белымі, зманлівымі снежнікамі Паміра.
Час дадому...
Тым больш, што гульбарфы,
прынесеныя ў цудоўную гасцініцу, пастаўленыя ў шыкоўную вазу, завялі імгненна на вытанчаным стале. Іх, канечне ж, не трэба разлучаць з гарамі. Яны павінны чуць шум Варзоба, адчуваць пад сабою халадок каменя і бачыць белыя вяршыні Паміра.
Гэта — абавязкова.
Як сонца і зямля — абавязкова.
Гэта іх жыццё і іх радасць.
Дык няхай жа вечна бялеюць незачэрненыя
вяршыні гор!
Няхай радасна блішчаць між цяснін чыстыя,
не спушчаныя на зямлю, азёры!
Няхай шуміць Варзоб
і цвітуць там, дзе яны ўзышлі, гульбарфы!

Дома сумуе чалавек па дарозе, а ў дарозе — па дому.
Што ж,
«тую дарогу, па якой прайшоў ці праехаў,
з сабою не забярэш».
І яшчэ:
«— Які край самы прыгожы і самы лепшы?
— Той, дзе ты!
— Які горад самы цудоўны?
— Той, дзе ты!»
Добрай раніцы, родныя мае вочы...
Што тут у нас?









Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

# КАВАЛЬ І АДНАВОКАЕ ГОРА

Было ў аднаго багатага чалавека трое сыноў: адзін шавец, другі кравец, а трэці — каваль. Вельмі ўдалыя малайцы. Працуюць сабе — гора не ведаюць. Другім у бядзе спачуваюць. Неяк пачулі браты, што суседзі пра іх гавораць: «Не зведалі яны яшчэ гора». І раз гэта пачулі, і другі, і трэці. Прыйшлі яны тады да бацькі і пачалі наракаць:

— Колькі мы ўжо на свеце жывём, а яшчэ гора не бачылі. Хочацца ведаць, якое ж яно.

— Ну, што ж,— кажа бацька,— можа й праўда: той жыцця не знаў, хто гора не спазнаў. Ідзіце, сынкі, у свет, знойдзеце гора.

Развіталіся браты з бацькам і выправіліся ў дарогу.

Доўга яны ішлі, ці коратка, а захацелі есці. Зайшлі ў карчму пры дарозе, палуднуюць і слухаюць, што людзі гавораць.

Адзін мужычок у палапленым кажушку плача, слязамі заліваецца:

— Ох, бяда мне, бяда: у хаце дзеці галодныя, а хлеба ні крошкі няма.

Дзіўна братам — хлеба ў іх заўсёды хапала.

Другі мужычок таксама бядуе:

— Бяда, бяда, кароўку адзіную ваўкі зарэзалі, дзеці без малака асталіся.

Дзівяцца браты: у іх цэлы статак на выгане каля хаты астаўся.

Трэці мужычок жаліцца:

— Бедны я, бедны! Мядзведзь пчолы з дуплаў павыдзіраў, няма мёду, няма чаго на рынак везці.

І гэта дзіўна братам: іхнія пчаліныя дуплы такія моцныя, што ніякі мядзведзь не возьме.

Пасядзелі браты, паслухалі чужую бяду і пайшлі далей — сваё гора шукаць.

Тым часам і ў дрымучы лес зайшлі. Бачаць, стаіць высокая хата, а дзверы дубовыя ў ёй каменем вялікім завалены.

Узяліся браты і адвярнулі камень ад дзвярэй. Увайшлі, а пасярод тае хаты цэлы авечы статак размясціўся. На сценах аўчыны вісяць, у печы агонь гарыць і ў вялізным катле мяса варыцца.

Вынялі браты па кавалку мяса, паселі за сталом, абедаюць. Ажно чуюць, бяжыць нехта, зямля дрыжыць.

Не паспелі яны апомніцца, увалійся ў хату волат з адным вокам у лбе:

— Хто тут мяне шукаў? — пытае.— Я і ёсць Гора аднавокае.

Браты ад страху мяса з рук выпусцілі, чакаюць, што далей будзе.

Схапіла Гора старэйшага брата:

— Ты хто?

— Шавец.

— Нашто мне шавец — у мяне боты новыя! Сядай каля печы, чакай, калі я цябе смажыць пачну.

— А ты хто? — схапіла Гора аднавокае другога брата.

— Кравец,— адказвае той, а ў самога зуб на зуб ад страху не пападае.

— Нашто мне кравец! — злуецца Гора.— У мяне кажух новы. Сядзі каля печы, чакай, калі я цябе падсмажу!

Трэцяга брата схапіла Гора аднавокае:

— Ты хто?

— Каваль!

— Тады выкуй мне другое вока! — Узрадавалася Гора.— З адным цяжка жыць на свеце. А інача — і цябе засмажу!

— Як бачыш, зраблю табе другое вока! — адказвае каваль.— Прынясі мне толькі жалезны штыр, тоўстую вяроўку і молат.

Прынёс аднавокі волат усё, што каваль заказаў.

— А цяпер, Гора, кладзіся на лаву! — кажа каваль.

Як толькі ўмасцілася Гора на лаве, каваль хуценька прывязаў яго тоўстаю вяроўкаю, тады ўсунуў у печ жалезны штыр і напаліў яго да чырвонага. Потым падышоў да лавы і торкнуў напаленым штырам Гору ў вока, а зверху яшчэ й молатам ударыў.

— Вось табе другое вока, Гора!

Зараўло Гора ад болю, ірванулася — вяроўка, як нітка, трэснула.

Бегае па хаце сляпое Гора, а злавіць братоў не можа. Усё на авечак налятае.

— Пачакайце,— грозіць братам,— я вас усё роўна адсюль жывымі не выпушчу!

— Здымайце са сцен аўчыны,— шапнуў каваль братам,— шыйце кажухі.

Узяліся кравец і шавец за работу, як бач, тры кажухі гатовы.

— А цяпер вывернем іх аўчынамі наверх і апранем на сябе, браткі,— раіць каваль.

Толькі яны так зрабілі, села Гора на парозе, адчыніла дзверы і пачало авечы статак з хаты выпускаць. Схопіць авечку, абмацае аўчыну і за дзверы. Так разам са статкам выкінула сляпое Гора за парог і трох братоў.

Вярнуліся яны жывыя дахаты, а бацька ў іх пытае:

— Ну што, сыны мае, бачылі гора?

— Бачылі! — кажуць.

— Дык якое ж яно?

Смяюцца сыны:

— Як хочацца спаць, ды не спіцца, як хочацца есці, ды не есца, як хочацца піць, ды не п'ецца, то гэта і ёсць гора. Лепей не знаць, не ведаць яго!

**Апрацоўка Хрысціны ЛЯЛЬКО.**



**Людміла ХЕЙДАРАВА**



### *Дзед і ўнук*

Кажа ўнуку ранкам дзед:
— Ну й атава — па калена!
Накашу кароўцы сена
На зімовы на абед.

Гожа дзед атаву косіць.
Толькі ўнук — як закрычыць:
— Пад касою траўка просіць:
«Жыць-жыць, жыць-жыць!»

Крочыць дзед з касой дадому,
Кажа ўнуку ён малому:
— Што ж, пайду пілу вазьму,
Трэба ж дровы на зіму.

Ну, прыйшлі ў лясныя шаты.
Тут забаў дзятве багата.
Вось і вольха-сухастой.
Дзед прыладзіўся з пілой.

Зноў да дзеда ўнук бяжыць:
— Губіш вольху, дзед,
няйначай!
Пад пілою вольха плача:
«Жыць-жыць, жыць-жыць!»

На канапе дзед ляжыць
І мяркуе: «Вось задача,—
Траўка просіць, вольха плача —
Як мы самі будзем жыць?»

■

Кнопкі з лічбамі на іх,
Знакі дзеянняў любых,
Сам складае, аднімае,
Нават, кажуць, памяць мае,
Вылічаць аматар —
Мікракалькулятар.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

# ВУЖ

Гэтай істоты шмат хто брыдзіцца і баіцца, нават з дарослых. А дарма. Хоць і называюць яе — з-пад куста шыпуля, за нагу шчыпуля — ніякай шкоды людзям яна не чыніць. Пэўна, ты ўжо здагадаўся, дружа, пра каго я вяду гаворку. Вядома ж, пра вужа! А калі ты падумаў пра гадзюку — таксама не надта памыліўся. Але яе трэба асцерагацца. Укусіць — будзе бяда. Таму раю зусім не чапаць паўзуноў. Яны цябе, калі на іх не наступіш, заўсёды абмінуць. З часам гадзюку паляўнічыя злавяць. Умелыя і адважныя людзі выціснуць з яе яд, з якога зробяць пасля вельмі каштоўныя лекі. Як бачыш, і гадзюка прыносіць карысць.



Цяпер — толькі пра вужа. Жыве ён скрозь: у лесе, на балоце, у хмызняках, па берагах азёраў, рэк і нават, здараецца, у блізкім суседстве з намі. Напрыклад, каля выкапаных сажалак або ў глухіх кутках старых паркаў і садоў. Корміцца вуж слімакамі, жабамі, жукамі, птушынымі яйкамі. Ён добра поўзае па галінках дрэў, хутка плавае. Нездарма і рыбка трапляе яму на спажыву. Малыя вужаняты з'яўляюцца на свет з дробных, падобных на птушыныя яек. Іх адкладвае вужака ў леташнюю лістоту ці мяккі, вільготны мох. Кубло яна робіць на сонечным, угрэўным месцы. Прэлае лісце і мох доўга трымаюць цяпло. Вось так, дзякуючы сонечным промням, і вылупліваюцца з яек вужаняты. Яны мігам распаўзаюцца з кубла, бо напачатку ў іх шмат ворагаў.

Цікаўны чалавек, калі сустрэне гада, адразу скеміць, хто ў яго на дарозе. На вужовай галоўцы здалёку відаць дзве жоўтыя або аранжавыя плямкі, а ў гадзюкі іх няма. Не крыўдзі, мой дружа, паўзуноў, і, магчыма, табе пашанцуе ўбачыць самога вужовага караля. Як гавораць паданні, ён калісьці жыў на нашай зямлі.

Хадзіў нібыта вужовы кароль па-чалавечы, падпіраючыся хвастом, нібы кійком. І не было яму роўнага сярод усіх вужоў. На галоўцы ў караляззяла бліскучая залатая карона, а свістаў ён такім волатаўскім посвістам, ажно водгулле разлягалася па ўсёй Белай Русі. У сівую даўніну нашы прашчуры сябравалі з вужамі. Давалі ім прытулак, кармілі хлебам і малаком. Нікога не кусаў вуж, поўзаў па хаце, як сапраўдны гаспадар. Прысядуць людзі палуднаваць — і ён тут як тут, цягнецца пыскаю да ежы. Здаралася, хтосьці з дзяцей не вытрымліваў, біў вужаку лыжкаю па галоўцы. Вуж пакрыўджана сыкаў, адпаўзаў на хвілінку і з другога боку сунуўся да міскі. Даўней людзі верылі: калі з імі побач вуж, будзе шчасце і дастатак у хаце. А калі ён паміраў, то вельмі смуткавалі і рабілі з вужовага тлушчу свечку на ліхі дзень. Надыдзе бяда — селянін запальваў свечку. Святло ад яе разлівалася па ўсёй зямлі. Трапляла ў самыя глыбокія і цёмныя норы. Тады ўсе вужы спяшаліся на дапамогу добрым людзям. А наперадзе іх ішоў сам кароль з залатою каронаю на галоўцы. І чорная бяда адступала.

**Васіле НЕДЗЯЛЕСКУ**

### *Самы, самы...*

Толькі ноч ляціць на скон,
Зайка лапай гоніць сон.
З самай раніцы па лесе
Пачынае зайка гон.
— Даганяеш, зай, каго?
— Даганяю? Што ты... Не!
Я ўцякаю... Страшна мне!
— А ўцякаеш ад каго?
— Ад яго... Ад яго,
злога ворага свайго!
Самы дужы, самы хітры,
Самы-самы ў лесе ён!
— Можа, леў, ці ліс, ці —
слон!?
— Не, яшчэ дужэйшы звер!
Вось — бяжыць за мной цяпер.
Я шпарчэй — і ён шпарчэй.
Я — убок, ён — следам скок.
Скача побач цэлы дзень.
— Эх ты, зай, каго баішся?!
Гэта ж твой уласны цень.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



### *Ліс-разбойнік*

Ліс прачнуўся рана-рана.
Дрэмле бор сняжком
прыбраны.
Дрэмлюць сосны, дрэмлюць
хвоі,
Ліс жа марыць аб разбоі.
Ой, разбойнік ён, разбойнік!
Ён вядзе з усімі войны:
То ганяе зайку ў лесе,
То ў чужую хатку лезе.

А вяртаецца з разбою —
Рыжы хвост стаіць трубою!
І баяцца ўсе звяры
Паўз яго хадзіць нары.
Толькі вожык самы храбры —
Ад яго яшчэ не драпаў.
Ён сказаў аднойчы лісу:
— Лепш, разбойнік, адступіся!
Ну, а ліс смалою лезе:
— Гаспадар я,— кажа,— ў лесе,
А з такіх, як ты, харобрых,
Я абед гатую добры...
Носам тыцнуўся ў іголкі —
Цэлы месяц жыў на зёлках.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

### *Капрызнае кола*

Стамілася Кола:
— Круціцца не буду!
Я так знемаглося
Ад спешкі, ад гуду.

Гузоў мне набілі
Дарог каляіны.
Я збегала ўдоўжкі
Прасторы краіны.

Пачуў Грузавік,
Уздыхае сярдзіта:
— Не жалься, лайдача.
У кузаве — жыта!

Заплакала Кола
Ізноў на дарозе:
— Мне цяжка, ой цяжка
Гібець на марозе.

Яго Грузавік наш
Ізноў суцяшае.
На плечах ягоных —
Паклажа цяжкая.

Ён трактар у вёску
Без лішняй турботы
Павінен даставіць
Для слаўнай работы.

Ды зноўку капрызнае Кола
Заныла:
— Дарога даўгая
Мяне натаміла!

Надзьмулася Кола
Сярдзіта і чынна:
— Не буду круціцца!
І... стрэльнула шына.

Прыстаў Грузавік
На узбочча дарогі.
Выходзіць з кабіны
Шафёр яго строгі.

Крануў ён рукою
Гарачую шыну:
— Стамілася бегаць?
Жадаеш спачыну!

Ну што ж ты, капрыза,
Жартуеш са мною!
І кола паставіў
Шафёр запасное.

Імчыць Грузавік
Па дарозе вясёла.
А ў кузаве едзе
Капрызнае Кола.

Цяпер яму ўцешна,
Цяпер яму ўлежна.
Ад гулкай дарогі
Ляжыць незалежна.

Глядзіць сабе Кола
Угару на аблокі.
Пагляду адкрыты
Свет небны шырокі.

І мары лунаюць
Трапётка, бясконца:
«Высока ў нябёсы
Ўзляцець бы, як сонца!».

Ды згасіў нябёсы
Час позні, вячэрні.
Прыстаў Грузавік
Ля калгаснай майстэрні.

Капрызнае Кола
Скацілі ў бакоўку.
Пакінулі ў друзе.
І сніць яно зноўку,

Як мерае спешна
Дарог кіламетры,
Як шэпчуцца з шынай
Імклівыя ветры.

Як сонца высока
З сінечы смяецца,
Як песняю гулкай
Дарога снуецца...

Ляжыць яно, Кола,
Каўтаючы скруху,
Спаўна зразумеўшы,
Што шчасце —
У руху...

Малюнкі Людмілы КАРНЕЕВАЙ.



Уладзімір
**СКАРЫНКІН**

## *Балада пра жароны*

Абрабаваныя вайною,
Мы цяжка здабывалі хлеб.
Я са спагадай
і віною
Гляджу на жорны,
ступу,
цэп.

Апорай нашай
і падмогай
Былі яны ў галодны час.
На жаль,
не разам з Перамогай
Дастатак завітаў да нас.

Як весні гром, на лад мажорны
Зімой
у холад ледзяны
Грымелі ў сенцах нашых
жорны —
Муку малолі на бліны.

Круціў айчым жарон імкліва
Ў валёнках шэрых без галош.
Як мякка сыпалася мліва
У саламяны ладны кош!

Там,
дзе цяпер вісяць бароны
І заржавелыя плугі,
Імшэлі сцішана жароны
Не першы год
і не другі.

Асела ля дзвярэй падлога —
І нам спатрэбілася зноў,
Як і ў галодны час,
падмога
Цяжкіх шурпатых камянёў.

Падперлі лагу ў калідоры
Абчэсаныя валуны...
Я лепшай не знайшоў апоры
І больш надзейнай,
чым яны.

## *Уваскрэслая царква*

Царква,
як Хрыстос,
уваскрэсла!
Убачыш —
у неба ўзляціш.
Яна —
і закрытая —
несла
Высока і горда
свой крыж.

## *Успамін пра Кактэбель*

У аўтобусе «Мінск — Валожын»
Я імчуся,
а сэрца сніць
Сіні край,
дзе паэт Валошын
На высокім пагорку спіць.

Ля зямлячкі маёй
Марыі
Спіць пад лохам.
З усіх дарог
Беларусі і Кімерыі
Зараз бачу я гэты лох.

Дзень за днём
ледзь не месяц цэлы
Спасцігала душа мая
Край адрынуты і здзічэлы,
Сіратлівы такі ж,
як я.

Таямнічым святлом
паляны
Любіць поўня там азарыць.
Будуць чайкі і дэльтапланы
Нада мной па начах кружыць.

Цёплы вецер падзьме з Таўрыды —
З бухты ціхай
у мой пакой
Прыплывуць касякі стаўрыды
З пераліўчатаю луской.

Прыпісаўся я не часова
Там,
дзе сонечны небакрай.
Па натхненне
абавязкова
Зноў прыеду я
ў гэты край.

Пад лясістай Святой гарою,
Дзе і зараз жывуць багі,
Зноў сябе дабрынёй узброю
І забрала здыму тугі...

У аўтобусе «Мінск — Валожын»
Я імчуся,
а сэрца сніць
Сіні край,
дзе паэт Валошын
На высокім пагорку спіць.

✦

Не ўсё спазнаў,
не ўсё спасціг,
Не ўсё спасцігну і спазнаю.
Я кожны момант,
кожны міг
За локаць сам сябе кусаю.

І не таму,
што я не змог,
Як азвярэлы паляўнічы,
Саперніка штурхнуць
убок
Нахабна локцем
ад здабычы.

Калі неспадзявана мне
Зноў будзе горача і туга,
Відаць,
і па сваёй віне
Я не адчую локця друга.

✦

Блізкі гай —
зялёны,
А далёкі —
сіні.
Клёны б'юць паклоны
Маладой асіне.

Маладосці ў клёнаў
Я крыху пазычу.
Выйду ў лес,
галёкну,
Любую паклічу.

Крочыў я нясмела
З юнаю багіняй.
Будучыня днела
За смугою сіняй.

Да густой ляшчыны
Прывяла дарога.
Я для той дзяўчыны
Не зрабіўся богам.

Сціпла палымнеюць
Дзьмухаўцы ў нізіне.
Дні былыя днеюць
За туманам сінім.

Як яны далёка —
Дні і золкі тыя!
Я дарма галёкаў
Вёсны залатыя.

Б'юць паклоны клёны
Маладой асіне...
Блізкі гай —
зялёны,
А далёкі —
сіні.

✦

Цёхкай грамчэй,
не саромся, салоўка!
Хай застануцца ў душы на вякі
Трэццяе возера,
Траццякоўка,
Ціхая вёсачка Траццякі.

Гэта мая найсвяцейшая тройца,
Каталізатар душэўных адліг.
Веча дваццаты,
бунтар і забойца,
Сядзь ля мяне
і суцішся на міг.

Дзякуй жыццю,
што дало прывілею
Тут мне знаходзіць натхненне
і схоў.
Лёгкія хвалі гайдаюць лілею
З пахам пяшчотным французскіх
духоў.

З берага
ў рэчку глядзіцца казуля —
Ножкі не хоча, напэўна, мачыць.
Божа,
няўжо варажбітка зязюля
Не выпадкова сягоння маўчыць?
З раніцы ў лесе ішла перастрэлка
Дзятлаў пярэстых
між сосен сівых.
Божа,
няўжо набліжаецца стрэлка
Гэткай парой
да адзнак ракавых?
Цёхкай грамчэй,
не саромся, салоўка!
Хай застануцца ў душы на вякі
Трэццяе возера,
Траццякоўка,
Ціхая вёсачка Траццякі.

✦

Нідзе ні гудка,
ні сірэны.
На шолахі ліп і асін
Настроіла восень антэны
Бліскучых даўгіх павуцін.

Празрыста,
ўрачыста,
прасторна
Ў маёй неспакойнай душы.
І сонца гарыць міратворна,
І вучаць дабру мурашы.

І думаць зусім не ахвота
Пра блізкасць завей і параш...
Сцякае з бяроз пазалота
Крылатымі кроплямі ў кош.

Алена
**РУЦКАЯ**



## *Абнаўленне*

Вясна! Яшчэ тваіх прыкмет
Нямнога у сшарэлым свеце,
І халады бароніць вецер,
Нібы зімовы запавет.

Але аблогам да ракі,
Друз размываючы скарэлы,
Як за разгонам думкі смелай,
Імкнуць нястрымна раўчукі.

Пажухлы леташні дзірван
Скрозь працінае зеляніна,
Так праўда мужна і няспынна
Заўжды праб'ецца праз падман.

Яшчэ завея з закутоў
Сняжок апошні вымятае,
Прадонне ж неба зацвітае
Блакітам радасным наноў.

Ужо, паверыўшы ў цяпло,
Жаўрук збудзіцца кліча поле,
І хмарам шызым не адолець
Таго, што з верай ажыло.

■

Помнім прытчу аб мудрым старым,
Што даводзіў,
Сынам даўшы ў рукі лазіны,
Проста як
Іх раструшчыць,
Узяўшы пруткі па адным.
Іх тады не скрышыць,
Калі будуць у шчэпе адзіным.

Вось другога зракліся, відаць,—
Аніяк не звязаць,
Тых лазін не злажыўшы, вязанкі.
Тым мацней,
Чым іх болей сабралі
У снопе тугім,
І прынеслі, як дар,
І з найлепшага — не з падаянкі.

Братніх спадчын каштоўны
струмень
Сілу ўсім надае,
Як жывая вадзіца,
Толькі той,
Хто прыйшоў бы жабрак,
Ад свайго не збярогшы і цень,
Той пустой амялою
На галіны чужыя садзіцца.

Братніх моў зіхатлівы вянок,
Ён нас лучыць,
У шчасці і горы яднае.
Толькі той,
Хто аддаў на збядненне
Свой родны выток,
Той не кветкі ў сувой —
Пацяруху нямую ўплятае.



уразіць, і тады яны раскашэльваюцца. Сур'ёзных дзялкоў я не бачыў. У абедзенны перапынак я пачакаў, пакуль усе выйдуць, і непрыкметна падышоў да адной сакратаркі не першай маладосці. Я не памыліўся ў выбары: яна не любіць свае маладой каляжанкі і расказала мне ўсё.

— Ну і што?

— У Монікі ёсць сябар.

— Хто ён?

— Усё па парадку, шэф. Яны знаёмыя прыблізна чатыры месяцы. Штодня абедаюць разам у рэстаранчыку на Севастопальскім бульвары. Ён зусім малады, яму дзевятнаццаць гадоў, працуе прадаўцом у кнігарні на бульвары Сен-Мішэль..

Мегрэ перабіраў свае люлькі, раскладзеныя на стале. Не заўважыўшы, што адна з іх недакураная, пачаў набіваць іншую.

— Хлопца завуць Альбэр Жарыс. Я вырашыў зірнуць на яго і пайшоў у рэстаранчык. Там была процьма народу. Нарэшце я знайшоў Моніку, яна сядзела за столікам адна. Сам я сеў у процілеглым куце і паабедаў, скажу шчыра, вельмі блага. Дзяўчына здалася мне ўзнерваванай, увесь час пазірала на дзверы.

— Ён так і не прыйшоў?

— Не. Яна расцягвала свой абед, як толькі магла. У такіх установах абслугоўваюць хутка і не любяць марудлівых наведнікаў. Урэшце яна выйшла і хвілін пятнаццаць чакала яго на вуліцы.

— А потым?

— Яна так выглядала сябра, што нават не заўважыла мяне. Потым пайшла да бульвара Сен-Мішэль. Вы ведаеце вялікую кнігарню на рагу?

— Ведаю.

— Яна зайшла туды, загаварыла з прадаўцом, потым падышла да касіра. Выгляд у яе быў расчараваны, і яна пайшла з магазіна.

— Ты зноў пайшоў за ёю?

— Я вырашыў, што лепш заняцца яе сябрам. У кнігарні я спытаўся ў адміністратара, ці ведае ён пана Альбэра Жарыса. Ён адказаў, што ведае, але Жарыс працуе толькі да абеду. Я быў здзіўлены, і адміністратар растлумачыў мне, што ў іх працуюць пераважна студэнты, а яны не могуць стаяць за прылаўкам увесь дзень.

— Дык ён — студэнт?

— Чакайце. Я пацікавіўся, ці даўно працуе ён у кнігарні. Выявілася, трохі больш як год. Спачатку ён працаваў поўны дзень. А месяцы тры назад аб'явіў, што слухае лекцыі на юрыдычным факультэце, і перайшоў на паўдня.

— У цябе ёсць яго адрас?

— Ён жыве са сваімі бацькамі на вуліцы Шатыён, насупраць царквы Монруж. Але я яшчэ не скончыў. Сёння Жарыс не прыйшоў на працу. За ўвесь час, што ён працуе, гэта здарылася з ім два ці тры разы, і кожны раз ён папярэджваў па тэлефоне. А сёння — не.

— А ўчора ён працаваў?

— Працаваў. Я падумаў, што вас зацікавіць, дзе ён жыве, і паехаў на вуліцу Шатыён. Кватэра дагледжаная. Дома была маці.



# Чалавек на лаўцы

Праз некалькі хвілін ён ужо ехаў у службовай машыне на вуліцу Клін'янкур.

Раён быў ціхі, небагаты. Магазін панны Леон, пад шыльдаю «Усё для самых маленькіх», ледзь віднеўся, заціснуты паміж мяснай лаўкаю і шынком для шафёраў.

Як толькі Мегрэ ўвайшоў у магазін, панна Леон ціха выслізнула насустрач камісару. Жанчына нагадвала мнішку. Кідаўся ў вочы тоўсты нос.

— Што пану трэба?

— Камісар Мегрэ, крымінальны вышук.

Жанчына сумелася.

— Учора забілі аднаго з вашых былых саслужыўцаў, Луі Турэ...

З усіх жанчын, з якімі камісар паспеў сустрэцца па справе Турэ, гэтую раптоўнае паведамленне ўразіла найбольш: яна знерухомела, вусны збялелі.

— Даруйце, што я так знянацку...

Панна Леон моўчкі пакруціла галавою, паказваючы, што камісару няма чаго прасіць прабачэння.

У суседнім пакоі рыпнула крэсла. У ім сядзела старая жанчына, мабыць, маці панны Леон. На каленях у яе была кошка.

— Каб знайсці злачынцу, нам трэба сабраць як мага больш звестак аб забітым...

Панна Леон зноў моўчкі кіўнула.

— Я думаю, вы добра ведалі нябожчыка.

Яе твар нібыта прасвятлеў.

— Як гэта здарылася? — спыталася яна нарэшце, з цяжкасцю выгаварыўшы словы. Зазірнуўшы ў суседні пакой, запыталася: — Не хочаце сесці?

— А мы не патрывожым вашу маці?

— Яна зусім глухая. Ёй будзе нават прыемна паглядзець на іншага чалавека.

Мегрэ не стаў казаць, што яму не надта хочацца ў неправетраны, перагрэты пакой, і прыняў прапанову.

Цяжка было вызначыць узрост панны Леон. Напэўна, ёй было больш як пяцьдзесят. Маці выглядала гадоў на восемдзесят. Свой тоўсты нос дачка, напэўна, займела ад бацькі: на сцяне вісела фатаграфія мужчыны з такой самай «бульбінай». Жанчына, бадай, усведамляла сваю непрыгожасць з самага дзяцінства.

— Я толькі што быў у кансьержкі на вуліцы Бондзі.

— Яна, канечне, не магла паверыць?..

— Не магла. Відаць, што яна яго любіла.

— Яго ўсе любілі. — Панна Леон пачырванела. — Які ён быў добры! — таропка дадала яна.

— Вы яго часта бачылі?

— Ён прыходзіў да мяне... Нячаста, вядома. Я жыву далёка ад цэнтра, а ён чалавек заняты.

Жорж СІМЯНОН. Працяг. Пачатак у №№ 1—2.



— Вы, здаецца, збіраліся абедаць?

— Нічога, я не спяшаюся.

— Я вас прашу, не звяртайце на мяне ўвагі.

— Цяпер ужо ўсё роўна: маё яйка зварылася ўкрутую.

Усё ж стары пайшоў па яго на кухню. Гарэлка перастала шыпець.

— Сядайце, пан камісар. Толькі лепш распраніцеся. З-за свайго бранён у мяне застарэлы, я мушу залішне паліць грубку.

Напэўна, ён быў таго ж узросту, што і маці панны Леон, да таго ж, яго ніхто не даглядаў. Можа, сюды ніхто і не заходзіў. Адзінай радасцю старога ў гэтым жытле мусіў быць від з акна на Сену і на кветкавы базар.

З-за прыступаў кашлю, дый з-за таго нават, што стары еў сваё яйка неверагодна марудна, размова з ім доўжылася сама меней паўгадзіны.

Але пра што новае даведаўся ўрэшце Мегрэ? Стары паўтарыў усё тое, што расказалі ўжо кансьержка і панна Леон.

Закрыццё фірмы Капланаў для яго таксама стала катастрофаю, ён нават не стаў шукаць новае месца працы. Праўда, у яго былі сякія-такія грошы. Ён збіраў іх гадамі і думаў, гэтага хопіць, каб забяспечыць сабе адзінокую старасць. Але з-за дэвальвацыі яму іх цяпер хапала адно на тое, каб не памерці з голаду. Яйка было, магчыма, ягонай адзінай штодзённай ежаю. Ён быў удаўцом, дзяцей не меў, родных не засталося. Аднак, калі пан Турэ прыйшоў да яго, ён не вагаючыся пазычыў яму грошы.

— Ён сказаў мне, што для яго гэта пытанне жыцця і смерці, і я зразумеў, што гэта сапраўды так. Праз некалькі месяцаў ён мне ўсё вярнуў.

А калі б Турэ не вярнуў? На якія грошы купляў бы тады стары сваё штодзённае яйка? Ці ж не баяўся ён гэтага?..

— Пан Луі да вас часта заходзіў?

— Два ці тры разы. Першы раз, калі прынёс грошы. Ён падарыў мне тады люльку.

Стары ўзняўся, каб узяць люльку з паліцы і паказаць яе. Тытунь ён, мабыць, таксама эканоміў.

— А калі вы яго бачылі апошні раз?

— Тыдні тры назад, на лаўцы на бульвары Бон-Нувэль.

Мабыць, стары бухгалтар прыходзіў у гэты квартал таксама як паломнік — паўспамінаць мінулае.

— Вы з ім тады гаварылі?

— Я прысеў побач. Ён хацеў пачаставаць мяне шкляначкай у суседнім кафэ, але я адмовіўся. Помню, быў сонечны дзень. Мы пагамапілі з ім не ўстаючы.

— Скажыце, а на ім былі жоўтыя чаравікі?

— Не звярнуў увагі.

— Ён не казаў вам, чым займаецца?

Сэмброн пакруціў галавою. Мегрэ адчуваў, што стары, як і панна Леон, меў да нябожчыка вельмі цёплае пачуццё. Сімпатычны, відаць, быў чалавек гэты Луі Турэ — камісар міжволі пачынаў шчыра яго шкадаваць, нібыта ведаў раней, а бачыў жа толькі застылы твар, здзіўлены смерцю.



— З Бельвіля. Ён расказваў мне: калі памёр яго бацька, маці пераехала ў Парыж. Гэта яна прывяла яго да старога Каплана.

— Маці памерла?

— Даўно ўжо.

Мегрэ чамусьці здавалася, што жанчына нешта ўтойвала. Яна глядзела яму ў самыя вочы, аднак камісар адчуваў у іх нейкі няўлоўны рух.

— Я чуў, што яму было цяжка знайсці новае месца.

— Хто гэта вам сказаў?

— Мне так здалося са слоў кансьержкі.

— Самі разумееце, як гэта цяжка — знайсці працу, калі табе ўжо за сорак і няма спецыяльнасці. Мне самой...

— Прыйшлося шукаць працу?

— Толькі некалькі тыдняў.

— А пан Луі як?

— Ён шукаў нашмат больш.

— Вы гэта дакладна ведаеце?

— Дакладна.

— Ён заходзіў да вас тады?

— Заходзіў.

— Вы яму чым-небудзь дапамаглі?

Цяпер камісар ужо не сумняваўся, што панна Леон сабрала на чорны дзень сякія-такія грошы.

— Чаму вы ў мяне пытаецеся пра гэта?

— Таму, што пакуль я не буду ведаць, які гэта быў чалавек у апошнія гады, у мяне няма ніякага шанцу натрапіць на след забойцы.

— Я раскажу вам усё, — сказала яна, падумаўшы. — Але прашу вас, каб усё засталося паміж намі. Галоўнае, каб пра гэта не даведалася жонка.

— Вы яе ведаеце?

— Ён расказваў мне пра яе. Яе швагры ўсе добра ўладкаваныя, у кожнага свой дом.

— У яго таксама.

— Гэта яна прымусіла яго купіць дом і пасяліцца ў Жувізі, побач з яе сёстрамі.

Голас у панны Леон задрыжэў.

— Ён баяўся сваёй жонкі?

— Проста ён нікому не мог зрабіць балюча. Калі за некалькі тыдняў да Новага года мы засталіся без працы, ён не захацеў псаваць сваім родным настрой пад канец года.

— І нічога ім не сказаў, каб яны па-ранейшаму думалі, што ён у Каплана?

— Ён спадзяваўся знайсці працу праз некалькі дзён, потым — праз некалькі тыдняў. Але ж гэты дом... Ён купіў яго ў крэдыт і павінен быў плаціць за яго штогод. Разумееце, у якое становішча трапіў бы ён, калі б не заплаціў тады?..

— У каго ён пазычыў?

— У мяне і пана Сэмброна. Гэта наш бухгалтар. Ён ужо не працуе. Жыве адзін, на набярэжнай Межысэры.

— Як у яго з грашыма?

31

— Вы ведаеце, чым ён займаўся апошнім часам?
— Я ў яго пра гэта ніколі не пыталася. Па-мойму, ён жыў нябедна. Думаю, пан Луі меў уласную справу — ён мог заявіцца да мяне ў любы час дня.
— А ён не расказваў пра людзей, з якімі кантактаваў?
— Мы пераважна ўспаміналі нашае жыццё ў фірме Капланаў, пана Макса... А жонку яго вы бачылі? — неяк нерашуча запыталася яна.
— Учора ўвечары.
— І што яна вам сказала?
— Яна не разумее, чаму ў яго ў момант смерці былі на нагах жоўтыя чаравікі. Яна лічыць, што іх абуў забойца.
Але панна Леон, як і кансьержка, таксама бачыла яго ў жоўтых чаравіках.
— Ён іх часта абуваў.
— Уже тады, калі яшчэ працаваў у Каплана?
— Не, толькі пазней. Прайшло досыць шмат часу, як я яго першы раз у іх убачыла.
— А колькі прыблізна, не скажаце?
— Прыблізна год.
— Вас здзівіла, што ён быў у жоўтых чаравіках?
— Здзівіла. Гэта было не ў яго стылі.
— Што вы тады падумалі?
— Што ён змяніўся.
— Ён і праўда змяніўся?
— Ва ўсякім разе, ён быў ужо не такі, як раней. Жартаваў інакш. Нават рагатаў.
— А раней ён смяяўся?
— Цішэй. У ягоным жыцці з'явілася штосьці новае.
— Жанчына?
Мегрэ разумеў, што пытанне жорсткае, аднак яго трэба было задаць.
— Магчыма.
— Ён дзяліўся з вамі сваёю таямніцаю?
— Не.
— А за вамі ён ніколі...
— Ніколі! — пачырванеўшы, таропка перапыніла яна.— Клянуся! Я ўпэўнена, што яму гэта нават у галаву не прыйшло б.
Кошка, якая сядзела на каленях у старой, пераскочыла на калені да Мегрэ.
— Няхай сядзіць,— сказаў ён панне Леон, калі тая хацела сагнаць кошку.
Старая расчаравана пазірала на яго.
— Закрыццё фірмы Капланаў для вас усіх было цяжкім ударам?
— Вельмі цяжкім.
— А для пана Турэ асабліва?
— Пан Луі быў больш за ўсіх прывязаны да гэтага дому. Там яму ўсё было роднае. Ён жа, зразумейце, пачаў працаваць там кур'ерам з чатырнаццаці гадоў!
— Адкуль ён прыехаў?



— Як жа вы развіталіся?
— Мне здалося, што нехта ходзіць вакол лаўкі і робіць пану Турэ нейкія знакі.
— Мужчына?
— Мужчына. Сярэдніх гадоў.
— Што ён сабою ўяўляў?
— Такія звычайна сядзяць на бульварах на лаўках. Нарэшце ён падсеў да нас, але не загаварыў. Тады я пайшоў. Калі я азірнуўся, яны гаварылі.
— Па-сяброўску?
— Ва ўсякім разе, мне здалося, яны не спрачаліся.
Вось і ўсё, пра што даведаўся Мегрэ.
Калі ён вярнуўся ў камісарыят, яму пазваніў суддзя Камельё:
— Сёння ўранку пракурор перадаў мне справу Турэ і сказаў, што расследаваннем займаецеся вы. За штосьці-небудзь ужо зачапіліся? Рабаўніцтва, я мяркую?
— Магчыма.
— Сям'я патрабуе выдачы цела. Я не магу гэтага дазволіць без вашай згоды.
— Доктар Поль ужо агледзеў труп?
— Я толькі што гаварыў з ім. Нож прайшоў наскрозь і прабіў левы жалудачак сэрца. Смерць была імгненная.
— Ніякіх іншых раненняў ці слядоў ад удараў?
— Ніякіх.
— Не бачу неабходнасці замінаць таму, каб сям'я атрымала цела. Толькі няхай адзежу забітага адправяць у лабараторыю.
— Добра. Трымайце мяне ў курсе.
Камельё рэдка быў такі мяккі. Прэса амаль нічога не паведаміла пра забойства, і суддзя меркаваў, што гэта простае рабаўніцтва. Справа не выклікала ў яго цікавасці, як, відаць, не выклікала і ў іншых.
Мегрэ падышоў да каміна, дастаў шчыпцамі вугалёк, запаліў люльку і з гадзіну займаўся нудной канцыляршчынай: падпісваў акты, рабіў на іх заўвагі.
— Можна, шэф?
Гэта быў як заўсёды расфранчаны, надушаны, быццам толькі што выйшаў з цырульні, Сантоні. «Ад цябе парфумаю, як ад бабы, нясе»,— казалі яму таварышы.
Сантоні ззяў:
— Я, здаецца, напаў на след.
Мегрэ паглядзеў на яго затуманенымі вачыма.
— Спачатку хачу далажыць вам, што кантора «Жэбер і Башэльe», дзе служыць нашая панна, займаецца перапродажам акцый. Справы там дробязныя. Яны за бясцэнак скупляюць безнадзейныя акцыі, а потым прадаюць іх крыху даражэй. Уся іхняя праца — бадзяцца па дамах, шукаючы дурняў-пакупнікоў. Панна Турэ сядзіць у канторы толькі ўранку, а пасля абеду шукае кліентаў.
— Зразумела.
— Іх кліенты — пераважна дробязныя службоўцы. Іх трэба чым-небудзь



— Ён ледзьве зводзіць канцы з канцамі.
— Чаму пан Луі не звярнуўся да пана Каплана?
— Той нічога не даў бы. Такі ўжо ў яго характар. Дарэчы, у дзень закрыцця фірмы ён выдаў кожнаму канверт з трохмесячнай зарплатай, дык пан Луі пабаяўся з-за жонкі пакінуць гэтыя грошы пры сабе.
— Яна правярала яго кашалёк?
— Напэўна. Я захоўвала яго грошы ў сябе. Тры месяцы ён забіраў іх у мяне па частцы, усё роўна як зарплату. Калі гэтыя грошы скончыліся, тады ён і пазычыў у мяне. Але ён мне ўсё вярнуў.
— Калі?
— Месяцаў праз восем—дзевяць.
— Вы доўга яго не бачылі пасля таго, як ён узяў у вас грошы?
— З лютага па жнівень.
— Вы тады не хваляваліся?
— Я ведала, што ён прыйдзе. Нават калі і не зможа іх вярнуць...
— Ён сказаў вам, што знайшоў новую працу?
— Сказаў.
— Ён быў ужо ў жоўтых чаравіках?
— Угу. Потым ён зрэдку заходзіў да мяне. І кожны раз прыносіў які-небудзь падарунак, цукеркі маме.
Толькі цяпер Мегрэ здагадаўся, чаму старая ўвесь час глядзела на яго з расчараваннем. Госці, напэўна, прыносілі ёй салодкае, а ён прыйшоў з пустымі рукамі. Наступным разам трэба будзе прыйсці з цукеркамі, падумаў ён.
— Ён не гаварыў пра сваіх новых знаёмых?
— Якіх новых знаёмых?
— Па працы.
— Не.
— А не казаў, у якім квартале працуе?
— З усіх вуліц ён згадваў толькі адну — Бондзі. Ён туды часта заходзіў. Паглядзець, ці не разбурылі яшчэ наш дом. Дом стаяў, як і раней, і пан Луі ўсё шкадаваў: мы маглі б яшчэ й дагэтуль працаваць там.
Пазванілі. У краму ўвайшла жанчына. Панна Леон, выцягнуўшы шыю, паглядзела на яе.
— Не хачу вас болей затрымліваць,— узняўся Мегрэ.
— Заўсёды буду вам рада.
— Дзякую.
Мегрэ ўзяў з прылаўка свой капялюш і выйшаў.
— Куды паедзем, шэф? — спытаўся вадзіцель.
— У бліжэйшы бар.
— Дык тут зусім побач, насупраць магазіна.
Але Мегрэ было б няёмка, калі б ён адразу ж пасля сустрэчы зайшоў у бар на вачах у панны Леон.
— Праедзем куды-небудзь далей.
Цяпер яму трэба было патэлефанаваць пану Каплану і знайсці па адраснай кнізе пана Сэмброна.
А раз ужо дзень пачаўся з кальвадосу, то ён вырашыў выпіць яшчэ кілішак.



## 3. ЯЙКА ЎСМЯТКУ

Мегрэ паабедаў у піўной «Дэльфін», за сваім улюбёным кутнім столікам. У яго не было ніякай тэрміновай справы, і ён мог бы паесці дома, але хацелася пабыць аднаму. Як заўсёды, у гэты час тут пацягвалі аперытыў інспектары з набярэжнай Арфэўр. Яны скоса пазіралі на камісара, а ён глядзеў праз акно на Сену.
Інспектары моўчкі пераглянуліся. Яны былі з іншага аддзела, але добра ведалі камісара. Калі паходка ў Мегрэ рабілася цяжкая, позірк — туманны, а выгляд — пануры, усе разумелі, што ён разгадвае нейкую галаваломку. Нехта мог усміхнуцца, але кожны паважаў яго, бо ведаў: рана ці позна злачынца будзе знойдзены і прызнае сваю віну.
— Цяляціна ў вас сёння добрая?
— Вядома, пан Мегрэ. Хочаце піва?
— Не. Паўбутэлькі чырвонага бардо.

Ён заказаў віно толькі таму, што прапанавалі піва. Калі б яму прапанавалі віно, ён бы пэўна папрасіў піва. Мегрэ быў раздражнёны пасля наведвання Сэмброна.
А было ўсё так.
Спачатку ён патэлефанаваў Максу Каплану, але яму адказалі, што той паехаў у Анціб, на сваю прыморскую вілу, і калі вернецца ў Парыж, невядома. Тады Мегрэ і накіраваўся да Сэмброна, на набярэжную Межысэры.
— Дзе жыве пан Сэмброн? — запытаўся ён у кансьержкі.
— На самым версе. Вы не памыліцеся.
Дарэмна ён шукаў ліфт. Яго не было. Прыйшлося ўздымацца пешшу. Дом быў стары і брудны. На апошнім, сёмым, паверсе слаба свяціла лямпачка. Побач з адзінымі на пляцоўцы дзвярыма вісеў шнур. Мегрэ пацягнуў за яго, і з кватэры пачулася слабае дзінькання званочка, потым — крокі. Дзверы адчыніліся, і камісар убачыў амаль што прывідны твар — неверагодна худы і бледны, зарослы белым шчаціннем. Вочы ў старога слязіліся.
— Пан Сэмброн?
— Ён самы. Будзьце ласкавы, заходзьце.

Нават такую кароткую фразу ён не змог прамовіць як след: пачаўся прыступ кашлю, які глуха аддаваўся ў яго ў грудзях.
— Выбачайце. У мяне бранхіт...
У кватэры стаяў нейкі непрыемны саладжавы пах. Чулася, як шыпіць газавая гарэлка, кіпела вада.
— Камісар Мегрэ. Крымінальны вышук.
— Я ведаў, што вы прыйдзеце да мяне. Вы ці хто-небудзь з вашых інспектараў.
Пасярод стала, накрытага стракатым абрусам, які цяпер можна было купіць хіба што ў барахольшчыка, ляжала газета, разгорнутая на той самай старонцы, дзе было кароткае паведамленне аб смерці Турэ. Побач з газетаю стаялі талерка, шклянка з вадою, трохі падфарбаванай віном, ляжаў невялікі кавалак хлеба.

# ПАЧВАРА Ў РЭЛІКТАВЫМ ЛЕСЕ



**Сяргей КАВАЛЁЎ**

Няма ніякіх сумненняў — пачвара маскультуры паступова захопіць рэспубліканскі кніжны рынак і пасуне адтуль як дзяржаўнае савецкае пісьменства, так і сусветную класічную спадчыну.

Спатрэбяцца маскультуры і тыя некалькі сціплых радоў на задворку кніжнага рынку, якія займала да гэтага беларуская літаратура. І беларускія дзеткі, для якіх найвялікшым героем усіх часоў і народаў быў дасюль Міколка-паравоз, будуць захапляцца прыгодамі знакамітага Тарзана.

Але гэта будзе прывазная, імпартная маскультура, а вось ці народзіцца масавая літаратура ўнутры беларускае літаратуры, ці прыжывецца пачвара ў самім рэліктавым лесе — сказаць цяжка, хоць запіс у рэкруты камерцыйнае літаратуры, здаецца, пачаўся.

Тэарэтычна, павінна адбыцца дыферэнцыяцыя, падзел беларускае савецкае літаратуры на высокую (элітарную), сярэднюю (афіцыйную) і нізкую (масавую).

Практычна, беларуская літаратура рызыкуе застацца ў межах сярэдняе літаратуры і адтуль з зайздрасцю і неразуменнем узірацца ў недасяжныя вышыні элітарнае творчасці і з пагардаю адварочвацца ад камерцыйнае вытворчасці.

Зрабіць такую выснову дае падставы спецыфічны характар беларускае савецкае літаратуры.

Абкружаная з усіх бакоў чырвонымі сцяжкамі-лозунгамі «партыйнасць», «класавасць», «народнасць», «інтэрнацыяналізм», гэтая літаратура стваралася, у прынцыпе, не для чалавека, а для дзяржавы і таму не надта залежала ад колькасці чытачоў і ад іх густаў. Бо арыентавалася на абагульнены, маналітны народ, а ў сапраўднасці — на мясцовае і маскоўскае начальства.

У такіх умовах камерцыйнаю літаратураю адналькава з'яўлялася і нечытэльная паэтычная ленініяна і дастаткова папулярны сярод насельніцтва «народны раман».

Цяжэй за ўсіх было нешматлікім элітарным творцам, эстэтам: ускладненасць формы і цьмянасць зместу выклікалі падазронасць і варожасць у чыноўнікаў і функцыянераў, якія патрабавалі ад мастацкае літаратуры дакладнасці і выверанасці партыйных пастаноў і дакументаў.

Паступова фарміраваліся спецыфічныя рысы сярэдняе, афіцыйнае літаратуры: прэтэнзіі на класічнасць пры нізкім мастацкім узроўні, непрыманне наватарства і занядбанне традыцый, падмена нацыянальнае адметнасці правінцыйнаю абмежаванасцю, агрэсіўнае маралізатарства і ўнутраная бездухоўнасць, пакланенне канонам і стандартам, парушэнне гармоніі зместу і формы, пагарда да займальнасці і чытэльнасці твора і г. д.

Толькі адзінкам з пісьменнікаў хапіла смеласці і таленту, каб вырвацца з сацрэалістычнага загону, але мільгаценне чырвоных сцяжкоў перад вачыма запала ў свядомасць на ўсё жыццё.

Дзесяткі ж, сотні вершатворцаў і прозапісцаў сістэматычна, планава, праз кожныя два-тры гады выдавалі на-гара ўсё новыя зборнікі і раманы, якія варта было б выстаўляць не ў кнігарнях, а ў крамах «Лянок» і «Паўлінка» побач з псеўданароднымі вырабамі з саломкі ды льну.

З перабудовай у беларускую літаратуру прыйшлі новыя ідэі і палітычныя лозунгі, але структура літаратурнага працэсу і сацыяльнае становішча нацыянальнае літаратуры ў грамадстве не змяніліся.

Не змянілася і мастацкая спецыфіка літаратуры, захавалася ранейшая іерархія жанраў, ранейшая іерархія саміх пісьменнікаў.

З'явіліся новыя тэмы, але выяўляліся яны ў ранейшай газетна-публіцыстычнай (у паэзіі), або эмпірычна-бытапісальнай (у прозе) манеры.

Замест твораў пра Кастрычніцкую рэвалюцыю і Вялікую Айчынную вайну сталі друкавацца творы пра Крычаўскае паўстанне і Курапаты: тых жа аўтараў, у тых жа самых часопісах, у той жа дыдактычна-апісальнай манеры.

У агульнасусветным кантэксце сучасная беларуская літаратура выглядае гэтакім некранутым шматлікімі культурнымі модамі і хваробамі XX стагоддзя запаведнікам, гэтакім рэліктавым лесам, гожым і нават велічным, але застыўшым, спыненым у сваім эвалюцыйным развіцці, а таму — безабаронным і нежыццястойкім.

Па сваім сацыяльным становішчы беларуская літаратура — элітарная («эмігранцкая») літаратура. Ствараецца на элітарнай беларускай мове, якая, выцесненая з актыўнага ўжытку прымусовай русіфікацыяй, зрабілася нейкаю святочнаю, экзатычнаю, кніжнаю моваю. Мае вузкае, спецыфічнае кола чытачоў — дзеячаў і аматараў нацыянальнае культуры.

Але па сваёй мастацкай сутнасці, па сваіх эстэтычных перакананнях сучасная беларуская літаратура — сярэдняя, афіцыйная літаратура, законнанароджанае дзіця савецкае культуры.

Што ж у такой парадаксальнай сітуацыі можа спрыяць узнікненню беларускае масавае літаратуры?

Знешнія прычыны? Унутраныя зрухі?

Якія ў гэтае камерцыйнае літаратуры могуць быць стымулы, якія мэты?

Бачацца два магчымыя шляхі з'яўлення масавае беларускае літаратуры.

Першы шлях — натуральны, у рэчышчы еўрапеізацыі савецкае літаратуры. З прыходам рынку павінна ўзнікнуць і рынычная літаратура. З адменаю дзяржаўнага кантролю за літаратурным працэсам, з адменаю дзяржаўных датацый на культуру знікне магчымасць у пісьменнікаў зарабляць такія-сякія грошы сярэдняю літаратураю.

Тыя, для каго творчасць — прызванне, у каго хопіць мужнасці і здольнасцяў, будуць ствараць элітарную безганарарную ці малаганарарную літаратуру.

Тыя, для каго творчасць — сродак зарабляць грошы, у каго хопіць кемлівасці і ўмельства, возьмуцца рабіць камерцыйную прадукцыю.

Другі шлях — штучны, у рэчышчы беларускага нацыянальнага адраджэння.

Ствараць масавую літаратуру, каб пашырыць сферу функцыяніравання беларускае мовы! Выкарыстаць выдатную магчымасць данесці роднае слова, слова Купалы і Коласа да шырокага насельніцтва рэспублікі!

І на першым, і на другім шляху з'яўлення масавае беларускае літаратуры ўзнікаюць, аднак, сур'ёзныя перашкоды.

Рыначная літаратура з прыходам рынку, вядома, узнікне, але хто сказаў, што яна ўзнікне ў Беларусі на беларускай мове?

Галоўная мэта камерцыйнае літаратуры, яе асноўнае эстэтычнае крэда — прыбытак, велічыня якога вызначаецца колькасцю спажыўцоў.

Ствараць масавую літаратуру на беларускай мове — гэта значыць свядома абмяжоўваць наклад, тэрыторыю распаўсюджання, колькасць патэнцыяльных чытачоў, а ў выніку — свядома змяншаць у некалькі разоў прыбытак.

Камерцыйны пісьменнік можа пісаць на беларускай мове толькі напачатку, калі яшчэ спраўна функцыяніруе сярэдняя літаратура і не зачыніліся крыніцы яе фінансавання: тады можна надрукаваць беларускамоўны маскультурны твор у дзяржаўным ці грамадскім часопісе, прапусціць праз дзяржаўнае выдавецтва. А пасля перакласці гэты твор на рускую мову і тады ўжо выходзіць з ім на рынак: і на рэспубліканскі, і на саюзны (яшчэ лепш было б перакласці твор на англійскую мову і выходзіць на сусветны рынак, але там — прафесійны бізнес ад літаратуры, там — шалёная канкурэнцыя, і там самадзейнаму савецкаму камерсанту-саматужніку «лавіць» няма чаго).

Толькі рана ці позна карысць ад беларускае мовы стане мізэрнаю і аўтар пачне пісаць адразу на рускай мове, калі,

вядома, ён вырашыў усур'ёз займацца вытворчасцю камерцыйнае літаратуры, а не гуляць у яе.

А хутчэй за ўсё дзяржаўныя датацыі на культуру не будуць адменены. Бо, калі савецкая дзяржава давяла беларускую нацыянальную культуру да крызіснага стану, дык няхай зараз і расплачваецца за гэта.

Шкада адно, што дзяржаўныя датацыі і далей пойдуць не на падтрымку сур'ёзнае літаратуры, а на ўтрыманне ўсяго комплексу шэрае сярэдняе літпрадукцыі.

У такім разе займацца камерцыйнаю літаратураю беларускаму пісьменніку ўвогуле не будзе сэнсу, бо такія-сякія заробкі гарантуе звыклая праца ў сярэдняй літаратуры, а для таго, каб атрымаць звышзаробкі ў масавай літаратуры, трэба пісаць па-руску і, значыцца, стаць рускім пісьменнікам.

Штучнае стварэнне беларускае масавае літаратуры з мэтаю пашырэння сферы ўжывання мовы, з мэтаю далучэння шырокіх слаёў насельніцтва да беларускае літаратуры — занятак тым больш абсурдны і бесперспектыўны.

Па-першае, маскультура ніводнага чалавека ніколі яшчэ да сапраўднае культуры не далучыла: ні да сусветнае, ні да нацыянальнае.

Наадварот, вынікам яе ўздзеяння з'яўляецца адчужэнне індывіда ад сапраўднае духоўнае культуры, растварэнне гэтага індывіда ў касмапалітычным натоўпе спажыўцоў.

Нельга дзеля ўяўнае карысці нацыянальнае культуры апускацца да падробак пад маскультуру і распаўсюджваць тым самым антыкультуру.

Калі на сценах недарэчныя, брудныя надпісы — гэта ў любым выпадку праява бескультур'я, на якой бы мове яны не пісаліся.

Па-другое, у беларускае літаратуры і масавае літаратуры розныя колы чытачоў.

Сёння, калі чалавек чытае ці спрабуе чытаць на беларускай мове, усведамляе сваю нацыянальную прыналежнасць,— значыцца, ён узняўся на дастаткова высокі культурны ўзровень, прайшоў своеасаблівую духоўную эвалюцыю. Наўрад ці ён адчувае патрэбу чытаць на роднай, для яго асабіста як бы вернутай з нябыту мове руж овыя бульварныя раманы і чорныя касмічныя трылеры...

І ўсё ж такі пэўныя шансы ў масавае літаратуры на беларускай мове ёсць.

Бо яе асноўныя спажыўцы — дзеці, падлеткі, моладзь.

Менавіта тая частка чытацкае аўдыторыі, з якою афіцыйная, сярэдняя літаратура не знаходзіць агульнае мовы з прычыны свае пагарды да займальнасці і чытэльнасці твора, да дэтэктыўнага, прыгодніцкага, фантастычнага жанраў.

Развіццё прафесійнае мастацкае белетрыстыкі — эфектыўны і пакуль што адзінавядомы сродак барацьбы нацыянальнае літаратуры супраць касмапалітычнае масавае літаратуры.

Нашая літаратура да такое барацьбы зусім не падрыхтаваная і з-за непаваротлівасці, састарэласці не здольная апярэдзіць падзеі, выкарыстаць свае ўнутраныя творчыя магчымасці і магутнасці дзяржаўных выдавецтваў для стварэння комплексу чытэльнае дзіцячападлеткава-маладзёжнае белетрыстыкі, якая б па сваіх мастацкіх вартасцях не выходзіла за межы сапраўднае літаратуры, не апускалася да ўзроўню кіча, маскультуры, рамесніцкае падробкі.

Беларускія выдавецтвы амаль не выкарыстоўваюць попыту на чытэльныя жанры і ўмовы кніжнага дэфіцыту для таго, каб друкаваць як мага больш папулярных замежных аўтараў не на рускай, а на беларускай мове (зборнікі «Замежны дэтэктыў» і «Замежная фантастыка» — прыемнае выключэнне).

Што ж, ва ўмовах сапраўднага рынку тыя ж выдавецтвы ў пошуках прыбытку, відаць, адчыняць дзверы і перад масаваю літаратураю, але пры адсутнасці дэфіцыту на падобную прадукцыю друкаваць яе па-беларуску стане ўжо нявыгадна (прызнаемся шчыра: тую ж «Замежную фантастыку» на беларускай мове палова пакупнікоў набыло з прычыны адсутнасці ў вольным продажы аналагічных зборнікаў на рускай мове, наклад якіх у некалькі разоў вышэйшы).

Зрэшты, сапраўднага рынку ў нас яшчэ няма. І невядома калі будзе.

А вось дэфіцыт на паперу і друкарскія фарбы ёсць ужо цяпер.

У такіх умовах штосьці прагназіраваць і прадказваць — занятак няўдзячны і марны.

Нейкія высновы аднак трэба зрабіць. Што за развагі без высноў?

Дык вось, пачвара наўрад ці народзіцца ў рэліктавым лесе.

Яна вынішчыць яго, калі выпаўзе з джунгляў.

Або проста не зверне на яго ўвагі: пачвары патрэбна вялікая сацыяльна-геаграфічная прастора, рэліктавы лес расце ў запаведніку.

Брудныя хвалі масавае, камерцыйнае літаратуры дакоцяцца да Беларусі.

Але гэта будуць хвалі чужое літаратуры, на чужой мове, якая жыхарам рэспублікі больш зразумелая і патрэбная, чым свая, родная.

Будучыня ж беларускае масавае літаратуры залежыць ад поспеху нацыянальнага адраджэння, ад пранікнення беларускае мовы ва ўсе сферы грамадскага жыцця.

Гісторыя культуры шчодрая на парадоксы.







Казімір КАМЕЙША

## Сучасная прыпавесць

Хадзіў, як усе, па зямлі.
Ад плуга ён сам, ад разоркі.
Ён крыкнуў аднойчы:
— Баліць!..
Ніхто не пачуў яго толькі.

А хтосьці яшчэ папракнуў
Разоркаю тою і плугам.
Куды ж яму йсці, павярнуць?
Тады павярнуў ён да друга.

А ў друга таксама баліць,
Ад болю што толькі
не робіць —
То стогне, то плача
наўсхліп.
Ды што ў яго ўсё ж
за хвароба?

Дыягназ не новы прытым
Ды з налеццю моднаю трошкі:
Адчуў на ілбе на сваім,
Што славы прабіліся рожкі.

І рэжуцца цяжка,
баляць.
Таго, хто зайшоў, ён
не бачыць.
Хоць, кажа, ты друг
і зямляк,
А боль твой нічога
не значыць.

Зноў крыга на крыгу ўстае,
Вясна зачынаецца толькі.
У кожнага болькі свае,
Твае ж не баляць ім нікольні.

## Бераг

Прамільгнуў перад вачыма,
Як далёкі ветразь, лёс.
Вёсны ўсе свае і зімы
Ты да берага прынёс.

І назад не азірнуцца,
І наперад не глядзеў.
Быў чужым у небе бусел,
І чужым — спякотны дзень.



Стане ў свеце вузка-вузка,
А была такая шыр.
...Чорны крык сарвецца
з вуснаў,
Потым — вір,
А потым — жвір.

## Свята зімы

Падпаліла снягі·каліна,
І гараць тым агнём снегіры.
Свет, і праўда, сышоўся
клінам
Каля снежнае сінь-гары.

Шчасце толькі табе.
Мне ж уцеха.
Дзень мой лёгка бяжыць,
як рысак.
Не да снегу мне,
Не да смеху.
Да чаго мне, не ведаю сам.

А гара — толькі нейкая рыска,
Дзе калінай гарыць гарызонт.
І па шчоках сячэ вятрыска,
І танютка пяе палазок.

Сонца толькі і хопіць
на ўсмешку,
А шуміць маладая пара,
І качае цябе, як снежку,
І сваволіць крутая гара.

Ты пабегла, згубілася недзе
За разгоністай тою гарой.
І трывожна гарыць на снезе
Рукавічкі тваёй снегірок.

## У Кактэбелі

На пляжы, як на загнеце
Удымелы, пад густ дымараў,
У кактэбельскім леце
Разам з летам гару.

На хвалі гляджу, на аблокі
І ніць тую бачу-такі,
Што недзе ад вока далёка
Сшывае з блакітам блакіт.

Па хвалях,
па самых грэбнях,
Праходзіць спакусы мяжа.
І людзі на звонкім прыгрэве
Зусім бесклапотна ляжаць.

Чаго я сюды валокся
Ад пахкіх сваіх палян?
Суцешце хоць Вы,
Валошын
Максі-мі-ліян.

У садзе ранетаў, як зораў,
Ранетная ў садзе пара.
Як светла ўзыходзіць
над морам
З профілем Вашым гара!
Суцешылі...
Звыкласцю роднай
Мяняюцца вечар і дзень.
І крокамі Вашымі
Роўна
Прыбой па ўзбярэжжы ідзе.

СЛУЖБА



ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

## ДАПАМОГУ — «УЗАЕМАДАПАМОЗЕ»!

**Каля пяці гадоў існуе рэдакцыйная «Служба ўзаемадапамогі». За гэты час шмат што зроблена. Шкада, што «капітал», які набываюць дзякуючы аддзелу многія нашы чытачы, не ўзважыць ні на якіх шалях. Бо гэта — душэўны капітал. Утвараюцца новыя сем'і. Адзінокія людзі набываюць надзейных сяброў. Нехта знаходзіць патрэбную кніжку ці старую пласцінку. Адшукваюць адзін аднаго ветэраны-франтавікі. Утвараюцца новыя суполкі па інтарэсах.**

**Што мы можам рабіць адзін для аднаго яшчэ? Падавайце ідэі! Дапамажыце «Узаемадапамозе» ў пошуку новых дзейсных форм зносін з чытачамі. Самыя цікавыя ідэі мы напэўна скарыстаем.**

**Чакаем пісьмаў!**

## НАШ АДРАС: САВЕЦКІ САЮЗ

Шчырае дзякуй вашай выдатнай рубрыцы. З яе дапамогай мы знайшлі адзін аднаго.

Калі ў рэдакцыі будзе магчымасць, надрукуйце, калі ласка, нашу, цяпер ужо сумесную, аб'яву:

Звяртаемся да суайчыннікаў, якія жывуць па-за межамі Беларусі і для якіх часопіс «Беларусь» — сцежка да радзімы продкаў. Звяртаемся да тых, хто рупліва ахоўвае ў сэрцах і ў сваім асяродку родную мову, культуру. Мы вельмі хочам перапісвацца з вамі, тымі беларусамі, што воляю лёсу апынуліся за мяжой. І пажадана, канечне, па-беларуску. Адгукніцеся, сябры!

Наш адрас: СССР, 614077, г. Перм-77, вул. Крупскай, 87, кв. 52, Сіняўскім Аксане і Сяргею.

## З НЯБЕСАЎ НА ЗЯМЛЮ...

Гавораць, што шлюбы бяруцца на нябёсах. Калі гэта так, то ці там пра мяне забыліся, ці чарга яшчэ не падышла.

Вось і вырашыла я спусціцца з нябёсаў на зямлю і тут пашукаць шчасця. Прычым з дапамогай вашай службы.

Мне 47 гадоў, адукацыя вышэйшая, рост 165 см, вага 69 кг, валасы чорныя, вочы шэрыя.

Любімы пісьменнік — Джэк Лондан, кампазітары — Грыг, Свірыдаў.

Шмат гадоў назад была замужам, але ад гэтага шлюбу засталіся цяжкія ўспаміны. Выхоўвала дваіх дзяцей, адзінокай сябе не лічыла. Але вось яны выраслі, і я засталася адна.

Спадзяюся з вашай лёгкай рукі знайсці мужчыну, які не марнуе свой час у вінных чэргах, які не развучыўся кахаць і быць каханым.

Калі вы і не надрукуеце гэты ліст, я буду ведаць, што зрабіла ўсё, што магла, бо для мяне было яго напісаць раўназначна подзвігу.

Спадзяюся і чакаю. Жыву ў райцэнтры на Брэстчыне.

**Таццяна.** (311).

## «ГЭТА ЦЯЖЭЙ ЦЯЖКАЙ РАБОТЫ — АДЗІНОТА...»

Мне 40 гадоў. Па нацыянальнасці беларус. Адукацыя сярэдняя спецыяльная. Не п'ю і не куру. Жыву ў вёсцы. Маю ўласную кватэру з прыродным газам. Люблю займацца прысядзібнай гаспадаркай і садаводствам. Працую апаратарам паравых катлоў высокага ціску. Пасля работы двойчы на тыдзень у доме культуры акампаніру на акардэоне хору і вакальнай групе. Усё, здаецца, ёсць у мяне, апроч... надзейнай сяброўкі жыцця.

Гады мінаюць, а як жыў адзін, так і жыву. Адзінота ж цяжэй самай цяжкай работы.

З павагай, найлепшымі пажаданнямі і надзеяй.

**Іосіф.** (312).

## АЎТАРЫТЭТ ЁСЦЬ, А КАХАННЕ!..

Тры гады сачу за «Узаемадапамогай», перажываю за чужыя лёсы, а цяпер вось наважылася напісаць сама. На вялікую дапамогу не разлічваю, але раптам...

Пяць гадоў жыву адна з сынам, якому 14 гадоў. Спачатку адзіноты не заўважала, а пасля стала зусім не па сабе. Працую ў саўгасе на выбарчай пасадзе, карыстаюся аўтарытэтам сярод людзей, але высвятляецца, што чалавеку для шчасця трэба куды больш. Хацела б пазнаёміцца з чалавекам добрай душы, крыху старэйшым ці маладзейшым за мяне (мне 36 гадоў), каб я магла падзяліцца з ім усім, што ў мяне за душой.

Адрас прашу ў часопісе не ўказваць. Не хачу, каб мой крык душы пачулі мае аднавяскоўцы.

**Зоя.** (313).

## ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

Мне 14 гадоў, завуць Света. Мару набыць шмат сяброў. Люблю пісаць пісьмы. Збіраю кулінарныя рэцэпты. Люблю музыку, спорт. Цікаўлюся пляценнем макрамэ.

Буду ўдзячна «Узаемадапамозе», калі мой адрас вы надрукуеце ў часопісе: 211800, Віцебская вобл., г. Глыбокае, вул. Кірава, д. 64, ГАРАЧКА Свеце.

## ДА ЎВАГІ ТЫХ, ХТО ШУКАЕ ЗГУБЛЕНЫХ Ў ВАЙНУ РОДЗІЧАЎ!

У папярэднім нумары «Беларусі» мы расказвалі аб высакароднай дзейнасці актывістаў антыфашысцкага міратворчага руху з заходніх раёнаў Германіі, якія вядуць пошук месц пахавання савецкіх грамадзян, што воляю лёсу апынуліся ў гады вайны на нямецкай зямлі (у асноўным былі вывезены на прымусовыя работы) і там скончылі свой жыццёвы шлях.

У памянёнай публікацыі былі абнародаваны першыя спісы нябожчыкаў, пахаваных на могілках горада Офенбаха.

«Служба ўзаемадапамогі» рэгулярна, з выпуску ў выпуск, будзе працягваць публікацыю гэтых спісаў, падрыхтаваных аб'яднаннем асоб, якія падвяргаліся ганенням пры нацызме — Саюзам антыфашыстаў з раённага аддзялення горада Офенбаха.

**ВАЛЬКО Слава** 11.11.43—5.7.44
**КАРАЕНКА Казімір** 3.1.44—8.11.44
**СТУБНЕЦКАЯ Вера** 3.7.44—13.11.44
**ХАЛАГНЯ** (?) 23.11.44—23.11.44
Мёртванароджанае
**БАБКЕ Карнэлія** 17.11.44—24.12.44
**СКОСЕЦНЫ** (?)
Мёртванароджаны хлопчык
**АДАМЕНЯ** (?)
Мёртванароджаная дзяўчынка
**ЛЕЎЧАНКА Паўла** 14.9.44—27.1.45
**АНДРОН Ядвіга** 27.2.44—2.2.45
**ЗМАРЗЛІК Эмілія** 3.11.44—5.2.45
**ЗАХАРЧАНКА Уладзімір** 6.11.44—12.3.45
**МІКОЛЕНКА Мікалай** 10.6.26 — 22.10.43
Паветраны налёт
**БАЛКІНА Вера** 25.11.11—26.10.43
**ІВАШНІЦКІ Павел** 15.1.09—12.10.43
Паветраны налёт
**СІРАВОНАЎКА Пелагея** 27.9.24—16.11.43
**ТРАХІМЕНКА Ганна** 18.9.26—16.11.43
**МАЗУР Янка** 18.9.99—26.2.44
**КАМАЧЭНКА Андрэй** 19.12.90—16.11.43
**ТАРАНЕНКА Рыгор** 21.2.23—26.5.44
**ЕСВІК Сцяпан** 5.8.10—22.10.44
**ЯЛЕНКА Нотрыя** 22.11.23—17.12.44
**МАРЧЫК Ганна** 28.10.24—25.1.45
**АРЛОВА Ніна** 10.9.26—28.2.45
**ЛІТВІНКА Вольга** 4.7.20—3.4.45
**ВОЛКАВА МАРЫЯ** 22.7.17—11.4.44
**ЯСІНОВЫ Іван** 20.10.06—27.4.45
**АНАЦКАЯ Аксана** 28.1.22—5.11.44
**ПАХУТА Яўгенія** 16.4.24—5.11.44
**ШАПАВАЛ Марта (Марыя — ?)** 20.4.20—5.11.44
**ПАТАПЕНКА Параска** 20.5.24—5.11.44
**МАКЛАКОВА Ніна** 23.12.24—5.11.44
**КАЛУГІНА Надзя** 7.11.27—5.11.44
**ЗАХАРАНКА Васіль (Уладзімір — ?)** 28.4.05—5.11.44
**ПАЛЯШЧУК Іван** 23.3.08—5.11.44
**АСЯЗІНСКІ Валянцін** 23.10.26—5.11.44

**Заўвага:** пералічаныя вышэй асобы загінулі 5.11.44 г. у час паветранага налёту.

**ТАДУЛЕВІЧ Іван (Мар'ян — ?)** 15.8.02—5.11.44
**ЮШКО Таццяна** 22.1.17—5.11.44
**ЧАНДУХ Настасся** 9.9.25—20.12.42
**РАЗНО Веавіла** 20.5.22—12.1.43
**ІШЭНКА Аляксандра** 14.2.23—8.6.43
**БРЫЖСКАЯ Галіна** 16.7.21—12.8.43
**ПЕЛЬХАЎ Пятро** 13.2.88—28.2.46
(з якой краіны — невядома)
**ПЭГЛІЦІС Карліс** 12.5.97—17.2.47
(з якой краіны — невядома)
**ІДУСАЎ Мазгар** 20.6.10—18.3.44
(ваенная асоба)
**КУТАВОЙ Акін** 8.9.10—18.3.44
(ваенная асоба)
**ІВАНОЎ** (?) ?—20.3.44
**КРАСНАК Іван** ?—20.3.44
**ВЕДЗЯБУРА Ілья** 20.7.98—16.11.44
**КАЗЛОВА Андрэя** 25.10.14—9.11.44

Нямецкія антыфашысты, якія складалі гэтыя спісы, дакладна ведаюць месцазнаходжанне кожнай магілы. Калі хто-небудзь з вас, дарагія чытачы, знойдзе ў гэтых горкіх спісах прозвішча, якое яго зацікавіць, пішыце ў рэдакцыю, у «Службу ўзаемадапамогі», а мы, наколькі зможам, паспрыяем вашаму далейшаму пошуку.

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**



## ПРОСТА, АЛЕ АРЫГІНАЛЬНА

рашаецца мініяцюра, складзеная маладым пінчанінам Аляксандрам Кагоцькам.



Выйгрыш.

## ПАЛЬЦА Ў РОТ НЕ КЛАДЗІ

Гросмайстар Аркадзь Плакхін, на ліку якога чатыры залатыя медалі чэмпіёна СССР, 12 — БССР і больш як за два дзесяткі толькі залатых медалёў за камандныя чэмпіянаты краіны, прафсаюзаў, добраахвотных спартыўных таварыстваў, адзначыў летась сваё 50-годдзе. Аўтарытэт, што і казаць. Таму яго выказванні хоць і вельмі кароткія, але слушныя.

На пытанне, як у нас наконт маладой змены, ён мне адказаў:

— Гуляюць, канечне, добра. Але ўсё ж адчуваецца недахоп практыкі ў турнірах вышэйшых ліг. І ўсё ж ім пальца ў рот не кладзі.

Гэта датычылася майстроў спорту Андрэя Валюка з Гродна, Мікалая Бярэзіна і яшчэ двух мінчан Аляксандраў — Гантмана і Ніжэвінскага.

А як жа гуляюць паміж сабой нашы маладыя майстры? Безумоўна — бескампрамісна. Вось, напрыклад, партыя з чэмпіяната СССР 1989 года. Белыя былі ў 20-гадовага А. Гантмана, а чорныя — у 16-гадовага А. Валюка.

1. a3—b4 b6—c5 2. b4—a5 c5—b4 3. g3—h4 b4—a3 4. h2—g3 (ідучы на абвастрэнне, белыя ўжо на пачатку абіраюць малавядомы план гульні) 4. ... f6—g5 5. h4:f6 g7:e5 6. g3—h4 (зноў абвастрэнне, замест спакойнага размену 6. c3—d4) 6. ... f8—g7! (чорныя не застаюцца ў даўгу і знаходзяць востры і разам з тым вельмі моцны ход) 7. e3—d4 e7—f6 8. d2—e3? (белыя «зарваліся». Трэба было 8. d4—c5 d6:b4 9. c3—d4 і г. д.) 8. ... h6—g5! (цяпер паратунку ў белых няма) 9. g1—h2 e5—f4 10. e1—d2 d6—c5 11. d4:b6 a7:c5 12. c3—b4 (калі 12. c3—d4, то 12. ... g7—h6! 13. d4:b6 f6—e5 14. h4:d4 b8—a7).



Выйгрыш чорных.

Далей было: 12. ... c5—d4! 13. e3:c5 f6—e5 14. h4:d4 c7—d6 15. c5:e7 a3:g1 16. e7—f8 b8—c7 17. f8:e3 g1:a7, і белыя здаліся.

## ВАЛЬТЭР І ШАШКІ

**З артыкула А. І. Герцэна «Княгіня Кацярына Раманаўна Дашкава».**

«У Жэневе яна ходзіць да Вальтэра, здзіўляецца яму, але можа пасмяяцца з якімсьці доктарам над тым, што Вальтэр злуецца, выходзіць з раўнавагі, калі прайграе ў шашкі, і прытым робіць самыя крывыя грымасы. Доктар заўважае, што гэтыя грымасы корчыць не адзін Вальтэр: ён загадвае свайму сабаку падняць морду, і Дашкава коціцца са смеху ад незвычайнага падабенства сабакі з гаспадаром».

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Непаўторны скарб, лепшае ўпрыгожанне. 7. Прыстасаванне для вязання. 8. Карціна Героя Сацыялістычнай Працы народнага мастака СССР А. Дайнекі. 11. Роля народнай артысткі СССР Т. Ніжнікавай у оперы Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся». 12. Савецкая дзяржаўная дзеячка, прафесійная рэвалюцыянерка. 13. Цёплая вязаная кашуля. 15. Разведчыца партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі», Герой Савецкага Саюза. 17. Абкіданая або нашыўная пятля на верхняй вопратцы. 18. Каштоўны камень. 19. Савецкая артыстка балета, балетмайстар, народная артыстка СССР. 20. Удзельніца падпольнай камсамольскай арганізацыі «Маладая гвардыя», Герой Савецкага Саюза. 21. Тканіна з гладкім, бліскучым правым бокам. 23. Гераіня п'есы У. Вішнеўскага «Аптымістычная трагедыя». 26. Беларуская савецкая актрыса, заслужаная артыстка БССР. 28. Дзеячка міжнароднага жаночага руху, рэвалюцыянерка, савецкі дыпламат. 30. П'еса рускага савецкага драматурга В. Любімавай. 31. Кветка. 32. Вялікая тонкая шарсцяная, кашміровая хустка ў кветкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Беларускі фальклорна-харэаграфічны ансамбль. 2. Савецкая кінаактрыса, народная артыстка СССР. 3. Звярок з каштоўным футрам. 5. Кветка. 6. Шарсцяная варсістая тканіна, шарсцяны аксаміт. 9. Спалучэнне фарбаў, колераў. 10. Савецкая артыстка балета, народная артыстка СССР. 14. Роля народнай артысткі РСФСР З. Вінаградавай у аперэце Ю. Мілюціна «Пацалунак Чаніты». 15. Партыя народнай артысткі СССР Н. Ткачэнкі ў аднайменнай оперы Дж. Пучыні. 16. Доўгі ворс на тканінах і трыкатажных вырабах. 17. Від прычоскі. 22. Выдатная савецкая гімнастка. 24. Круглыя крапінкі, кружочкі на тканіне. 25. П'еса А. Афінагенава. 27. Верш, у якім Янка Купала ўслаўляе працу калгасніцы. 29. Партыя народнай артысткі БССР С. Друкер у аднайменнай оперы Дж. Вердзі.

Склаў Пётр ШЫЦІК.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 2

1. Марціра. 2. Бастыён. 3. Пантэра. 4. «Канцэрт». 5. Немагай. 6. Мемуары. 7. Мазурук. 8. Караван. 9. Кавалер. 10. Парашут. 11. Мундзір. 12. Тупалеў. 13. «Тачанка». 14. Карабін. 15. Бінокль. 16. Сіманаў. 17. Ватуцін. 18. Патруль. 19. Мінамёт. 20. Мікулін. 21. Фамін. 22. Старт. 23. Штурм. 24. Гусар. 25. Жукаў. 26. Лафет. 27. Адсек. 28. Парад. 29. Горкі. 30. Армія.



Беларусь

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 3 (627) САКАВІК 1991 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: будні і святы ансамбля «Медуніца».

Фота Віктара ДРАЧОВА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.01.91.
Падпісана да друку 15.02.91.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,4.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 13 300 экз.
Зак. 9.
Цана 40 кап.

Адрас рэдакцыі:
220005, Мінск,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



# АЛІМПІЙСКІ АГОНЬ У СЭРЦЫ

*«Самае галоўнае — вытрымка ва ўсім. Мы многа добрага пачынаем, але не завяршаем».*

Юрый РЭРЫХ.

Ці можна займацца фізкультурай і спортам па знаках астралагічнага вучэння? Згадзіцеся, вы ніколі не задавалі сабе падобнага пытання, лічачы яго наіўным і несур'ёзным.

А між тым з экрана тэлевізара, па радыё, са старонак шматлікіх брашур, кніг, часопісаў і газет нас штодзень заклікаюць да заняткаў спортам як панацэі ад усіх хвароб. Калі вы выйшлі з таго ўзросту, каб стаць, як у нас цяпер гавораць, «самаакупнай» зоркай,— запісвайцеся ў атрады ФАКаў, таварыстваў, клубаў. Тут вас у максімальна кароткі тэрмін, хоць і за немалыя грошы, навучаць хуткаму бегу, павольнай хадзьбе і нават плаванню. Карацей, у вас яшчэ ёсць шанц стаць сапраўдным аматарам фізічнай культуры.

Праўда, паводле даных статыстыкі, амаль палова з тых, хто смела аддаў сябе аздараўленчым арганізацыям (47 працэнтаў), пасля 2—4 месяцаў вымушана пакінуць заняткі з-за траўм, прастудных або нервовых захворванняў. Як кажуць, добрымі намерамі выслана дарога ў пекла. Чалавек, і гэта бясспрэчна, павінен фізічна развівацца, умець захаваць свой «тонус», фігуру, сілу, бадзёрасць і іншыя каштоўныя якасці, але ж не за кошт здароўя. Дзе ж выйсце? Мне б не хацелася звяртацца да вас з заношанымі заклікамі пайсці, напрыклад, у секцыю у-шу, дзе вы даволі хутка зломіце сабе псіхіку і, не выключана, атрымаеце траўму. Не вабяць мяне і секцыі атлетызму і культурызму, бо добра ведаю, што праз год-паўтара інтэнсіўных заняткаў амаль у 40 працэнтаў маладых людзей сур'ёзна пагаршаецца зрок. Ды і траўмы тут таксама не выключаны.

Я параіў бы вам іншае: давайце зоймемся фізічнай культурай і спортам па гараскопу. Гэты падыход, магчыма, таксама не універсальны, але ж ён, у адрозненне ад іншых, улічвае не толькі павелічэнне мышцаў і хуткасць рэакцыі. Галоўнае, што мы можам вызначыць з дапамогай гараскопа,— псіхафізічныя магчымасці чалавека, дапушчальныя фізічныя нагрузкі, якія яго арганізм можа вынесці без пагрозы для здароўя.

Коратка нагадаю схему знакаў арабскага гараскопа:

| ЗЯМЛЯ | ПАВЕТРА |
|---|---|
| 1 студзеня — 19 студзеня | 20 студзеня — 19 лютага |
| 20 красавіка — 19 мая | 20 мая — 19 чэрвеня |
| 20 жніўня — 19 верасня | 20 верасня — 19 кастрычніка |
| 20 снежня — 31 снежня | |

| ВАДА | АГОНЬ |
|---|---|
| 20 лютага — 19 сакавіка | 20 сакавіка — 19 красавіка |
| 20 чэрвеня — 19 ліпеня | 20 ліпеня — 19 жніўня |
| 20 кастрычніка — 19 лістапада | 20 лістапада — 19 снежня |

## ЗЯМЛЯ

Надзвычай эмацыянальныя і адчувальныя прадстаўнікі гэтага знака амаль не здольны вытрымліваць працяглыя фізічныя і псіхічныя нагрузкі. Яны больш марудна аднаўляюць растрачаны энергетычны патэнцыял, ім патрэбны частыя перапынкі ў інтэнсіўных практыкаваннях. На працягу адной гадзіны заняткаў для іх пажадана рабіць кароткія перапынкі праз кожныя 3—5 мінут. Таму найлепшы варыянт для меланхолікаў — тыя віды спорту, дзе патрэбна высокае індывідуальнае майстэрства, а «адчуванне каманды»— чыста фармальнае. Мужчынам знака Зямлі больш падыходзяць бокс (лёгкая і сярэдняя вага), фехтаванне, стральба з дробнакаліprobнага пісталета, конны спорт (асабліва выездка і канкур), турызм, водны слалам. Могуць займацца яны і рознымі відамі барацьбы, спартыўнымі гульнямі, уключаючы шахматы і шашкі.

Жанчыны гэтага знака часцей за ўсё аддаюць перавагу стральбе з пісталета, лука, спартыўнаму арыентаванню. Менш адпавядае іх характару і фізічнаму складу мастацкая гімнастыка. Заначу, што студзеньская Зямля (дакладней, яе носьбіты) больш трывалая і жыццеўстойлівая, чым снежаньская, бо, як правіла, к канцу года яна растрачвае свае жыццёвыя рэсурсы. Больш стабільная нервовая сістэма восеньскай Зямлі (жнівень — верасень). Яна хоць і менш актыўная, чым майская (красавік — май), затое больш устойлівая і надзейная ў сваіх памкненнях і жыццёвым патэнцыяле.

## ПАВЕТРА

Узаемаадносіны са спортам прадстаўнікоў гэтага знака намнога прасцейшыя (гэта аднолькава датычыць і мужчын, і жанчын). Іх захапленні — камандныя віды спартыўных адзінаборстваў. Яны добра сябе адчуваюць і на футбольным полі, і на баскетбольных і валейбольных пляцоўках, ім падыходзіць гандбол, рэгбі, ватэрпол. Выступаючы індывідуальна, сангвінікі таксама дабіваюцца неблагіх поспехаў. Але асноўнае іх захапленне — тэніс (у тым ліку і настольны), плаванне і скачкі ў ваду. Людзі гэтага знака лёгка прывыкаюць да фізічных нагрузак, маюць дастаткова сілы і волі, каб пераносіць працяглы час нагрузку практычна на ўсе мышцы. Іх адметная рыса — не толькі вынослівасць, але і здольнасць фрагментарна асэнсоўваць тое, што адбываецца.

У адрозненне ад прадстаўнікоў іншых знакаў, сангвінікі не ствараюць у паўсядзённым жыцці, у тым ліку і ў спорце, устойлівых стэрэатыпаў. Аднак гэта не перашкаджае ім упэўнена ісці да пастаўленай мэты, не спыняючыся на асобных эпізодах гульні, бою. Да таго ж яны здольны жыць самім працэсам барацьбы, не будуючы планаў на наступныя паядынкі.

Да недахопаў прадстаўнікоў Паветра можна аднесці тое, што яны не схільны да аналізу і самакрытыкі, рэдка прызнаюць свае памылкі, мяркуючы, што ўсё і заўсёды яны робяць як след. Гэта прыводзіць да пралікаў у тактыцы, а то і ў стратэгіі ігравой сітуацыі. Дапушчаныя памылкі не робяць вялікага ўплыву на настрой і спартыўную форму сангвінікаў, яны зноў і зноў ідуць у атаку.

Актыўныя, лёгкія на пад'ём, схільныя да масавых відаў спорту, людзі Паветра складаюць асноўную «ўдарную сілу» нашага фізкультурнага руху да сталага ўзросту.

## ВАДА

Жанчыны гэтага знака не вызначаюцца тэмпераментам, актыўнасцю, затое ўсе іх дзеянні і ўчынкі ўражваюць абдуманасцю і грунтоўнасцю. Іх імёны рэдка сустрэнеш сярод спартсменаў, часцей за ўсё яны задавальняюцца сціплым званнем фізкультурнікаў. Улічваючы іх мажны целасклад, некаторую марудлівасць і добрую каардынацыю, можам параіць ім і адпаведныя віды спорту: штурханне ядра, дыска, кап'я, альпінізм, шахматы. Гэтыя жанчыны рэдка і менш удала бегаюць, скачуць, але плаваюць з большым поспехам — напэўна, водная стыхія прыцягвае свой знак. Не заўсёды фінішуючы першымі на блакітных дарожках (ім перашкаджае вага і паглыблены аналіз сваіх дзеянняў), жанчыны-флегматыкі застаюцца аддаными гэтаму віду спорту на доўгія гады.

Нямала флегматыкаў сустрэнеш і ў ФАКах сярод людзей сярэдняга і старэйшага ўзросту. Яны старанна «скідваюць» лішнюю вагу, сур'ёзна адносяцца да рэкамендацый трэнераў, прытрымліваюцца дыеты.

Мужчынам-флегматыкам адкрыты запаветныя дзверы ў цяжкую атлетыку, бокс (сярэдняя, цяжкая і паўцяжкая вага). Яны паспяхова займаюцца культурызмам, любяць павольны бег і хадзьбу. Добра гэта ці дрэнна, але мужчынам знака Вады даводзіцца сябраваць з фізкультурай і спортам да глыбокай старасці. Схільныя да хуткага набору вагі, яны вымушаны пастаянна займацца фізічнымі практыкаваннямі, ужываць вегетарыянскую ежу, аддаваць перавагу ў рацыёне марской капусце.

## АГОНЬ

Сказаць, што ўсе спартсмены нарадзіліся пад знакам Агню, будзе залішне, але тое, што алімпійскі агонь гарыць у сэрцах усіх людзей знака Агню,— цалкам справядліва. Гэта знак — проста часцінка спорту, яго прадстаўнікі паказваюць добрыя вынікі практычна ва ўсіх відах. Для іх прыдатныя як гульнявыя віды спорту, так і адзінаборствы. Валодаючы сілай, тэмпераментам, добрай «спартыўнай злосцю», яны часта вылучаюцца ў камандзе, становяцца фаварытамі і капітанамі. Адметныя рысы прадстаўнікоў Агню — моцная сіла волі, развітая мышачная сістэма і крыху няўстойлівы характар. Іх прыцягваюць практычна ўсе сілавыя віды барацьбы, але яны менш прыкметныя ў бадмінтоне, настольным тэнісе, у стральбе з вінтоўкі і пісталета, дый у фігурным катанні вызначаюцца толькі як адзіночкі.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што знаку Агню даводзіцца сур'ёзна канкурыраваць з Паветрам у тэхнічных відах спорту. Навуковыя даследаванні сведчаць, што халерыкам пры іх смеласці і рашучасці часам не хапае вытрымкі і цярплівасці. І ўсё ж іх часцей за ўсё бачыш у вадалазным касцюме, альпінісцкай амуніцыі, яны цудоўна адчуваюць сябе на лыжнай трасе, на велатрэку і шашы, дзе патрэбен строгі і дакладны разлік, уменне паслядоўна, не спяшаючыся нарошчваць тэмп пераможнага фіналу.

Жанчыны Агню могуць займацца самымі рознымі відамі спорту, але найбольш іх прыцягваюць акрабатыка, спартыўная гімнастыка, веславанне, альпінізм. Нядрэнных поспехаў яны дамагаюцца на лыжных трасах, на лёдавых дарожках, у спартыўных і бальных танцах. Самыя актыўныя з жанчын Агню тыя, што нарадзіліся ў летнія месяцы (ліпень — жнівень), але яны ж і найбольш ранімыя — пасля першай няўдачы могуць назаўсёды пакінуць спорт.

Можна і надалей працягваць пералік плюсаў і мінусаў кожнага са знакаў, аднак нават арабскі гараскоп не ў стане вызначыць кожнаму персанальна, якім відам спорту яму лепш займацца. Галоўнае, на мой погляд, каб маладыя людзі, перш чым выбраць для сябе фізічны занятак, асэнсавалі свае магчымасці і інтарэсы і толькі з іх улікам пачалі трэніраваць свой арганізм.

Сяргей АНУПРЫЕНКА,
кандыдат філасофскіх навук.

ФОТАВІКТАРЫНА

# «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС».

**НАШЫ ПЫТАННІ:**

- Перад вамі вядомы беларускі паэт. Назавіце яго імя і назвы кніг, якія ён выдаў.
- За які твор і ў якім годзе ён стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола?
- У якім жанры дэбютаваў паэт апошнім часам?

ПА ЎМОВАХ ВІКТАРЫНЫ ТОЙ, ХТО ПРАВІЛЬНА АДКАЖА НА ЎСЕ ПЫТАННІ, АТРЫМАЕ ФОТАПАРТРЭТ «ЗОРКІ» З АЎТОГРАФАМ.

Фота Віктара ДРАЧОВА.

**КРАСАВІК**

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ○1 | 2 | 3 | ☾4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | ●12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | ☽19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | ○26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ○ — 1—3 — поўня, ☾ — 4—11 — ветах, ● — 12—18 — маладзік, ☽ — 19—25 — сход, ○ — 26—3 мая — поўня.

Беларусь